# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

8

Двухтыднёвая часопіс

орган ЦККП(б)Б

МЕНСК

1930

# № 8 „ПАРТРАБОТНІКА“:






Друкарня БДзВ. Заказ № 1904. У ліку 2.200 экз. Галоўлітбел № 1264.

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 8 | Май 1930 г. | № 8

## Гарачае бальшавіцкае прывітаньне XIII зьезду КП(б)Б

**У змаганьні за генэральную лінію партыі, супроць правага ўхілу, галоўнай небясьпекі на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, супроць рэцыдываў контррэволюцыйнага трацкізму, антысераднядкіх перагібаў, „левых“ заскокаў і прымірэнцтва да ўхілаў, супроць беларускага нацыянал-дэмакратызму, нацыянал-опортунізму і шовінізмаў розных масьцей, за канчатковую перамогу соцыялізму пад выпрабаваным кіраўніцтвам Ленінскага ЦК УсеКП(б) будзе і надалей цьвёрдым поступам ісьці ўся КП(б)Б.**

# Да XIII зьезду КП(б)Б.

Работа ўсёй КП(б)Б за мінулы пэрыод пасьля XII зьезду праходзіла ў складаных міжнародных і ўнутраных абставінах. Адказныя задачы рэконструкцыйнага пэрыоду, ажыцьцяўленьне пяцігодкі ў больш кароткі тэрмін і разьвязаньне карэнных задач па соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі патрабавалі вялізарнага напружаньня з боку ўсёй КП(б)Б, мобілізацыі ўсіх сіл партыі і рабочай клясы, патрабавалі новых высокіх тэмпаў работы партыі, профсаюзаў, савецкіх і гаспадарчых органаў. КП(б)Б на чале з Цэнтральным Камітэтам у асноўным пасьпешна справілася з гаспадарчымі політычнымі задачамі, якія стаялі перад ёю.

На XIII зьезьдзе КП(б)Б будуць падведзены вынікі паўтарагадовай работы па ажыцьцяўленьню пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва. Цьвёрда кіруючыся асноўнай генэральнай лініяй партыі, накіраванай на ажыцьцяўленьне хуткага тэмпу індустрыялізацыі народнай гаспадаркі, КП(б)Б асяродкавала асноўную ўвагу партыі і рабочай клясы на задачах гаспадарчага будаўніцтва і дабілася за мінулы пэрыод значных посьпехаў. Вынікі мінулага гаспадарчага году паказалі, ня толькі поўную рэальнасьць пяцігодкі, але забясьпечылі магчымасьць на бягучы 1929-30 гаспадарчы год намеціць яшчэ больш высокія тэмпы гаспадарчага разьвіцьця, якія далі магчымасьць скараціць тэрмін выкананьня пяцігодкі. Вялізарны рост новага прамысловага будаўніцтва, пашырэньне вытворчай базы, значнае павялічэньне ўдзельнай вагі прамысловасьць ў народнай гаспадарцы Беларусі, рост рабочай клясы і яго матэрыяльна-культурнага ўзроўню, усе гэтыя посьпехі дасягнуты на аснове няўхільнага праводзеньня генэральнай лініі партыі, на аснове бязьлітаснай барацьбы з ухіламі ад ленінскай лініі партыі, асабліва з права-опортуністычным ухілам, як з галоўнай небясьпекай для партыі на да-

ным этапе пры неаслабнай барацьбе з левымі загібамі, праявамі троцкісцкай ідэолёгіі і прымірэнцтвам з усімі гэтымі ўхіламі.

Вялізарныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, пасіленьне кіруючай ролі соцыялістычнай прамысловасьці, стварылі базу для шырокага разгортваньня работы па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, стварылі глебу для магутнага разьвіцьця колгаснага руху сярод бядняцкіх і серадняцкіх мас сялянства. Ня гледзячы на буйныя памылкі, перагібы і скрыўленьні партыйнай лініі, якія былі дапушчаны на мясцох у колгасным будаўніцтве, агульныя вынікі колектывізацыі далёка выперадзілі першапачатковыя наметкі па пяцігадоваму пляну. У той час, калі па пяцігодцы намячалася ахапіць колгасамі 17-18% пасяўной плошчы да канца пяцігодкі, нам удалося замацавацца на гэтым узроўні ўжо ў бягучую вясеньнюю пасяўнаю кампанію. Вялізарныя посьпехі колгаснага будаўніцтва, нябывала хуткі рост колгасаў у першай палове зімы, сапраўды ўскружылі галовы цэламу шэрагу работнікаў, якія часта, няпрыкметна для сябе, спаўзалі з правільнай партыйнай лініі, забягалі наперад і накіроўвалі ўсю сваю ўвагу ў адзін пункт,—ва што-б та ні стала любою цаною закончыць 100-проц. колектывізацыю ў бягучую весну. У выніку гэтага ў большасьці з гэтых таварышоў прытупілася політычная чуласьць, дайшло да таго, *што яны забылі асноўную політычную лінію партыі аб захаваньні прынцыпу добраахвотнасьці у колгасным будаўніцтве, аб цьвёрдым правядзеньні лініі на ўзмацненьне саюзу рабочай клясы і беднаты з серадняком.* На практыцы мелі месца парушэньні добраахвотнасьці, пагрозы бедняком і серадняком, што ня ўступілі ў колгас, пазбаўленьне іх зямлякарыстаньня, няправільная лінія пры правядзеньні аграмаджаньня рагатай жывёлы і не адзінічныя факты скрыўленьня партыйнай лініі ў адносінах да серадняка. Шэраг работнікаў на мясцох давалі няправільныя раздутыя проценты колектывізацыі, сталі на шлях нездаровага спаборніцтва на 100-проц. колектывізацыю таго ці іншага раёну да вясеньняга севу. Усе гэтыя памылкі, права-опортуністычныя скрыўленьні і „левыя" перагібы не маглі не адбіцца, нарэшце, на колектывізацыі, што знайшло сваё выражэньне ў значным адліве з колгасаў, галоўным чынам серадняков у другой палове сакавіка і красавіка месяца.

Цэнтральны Камітэт у рашэньнях верасеньскага і студзеньскага пленумаў, а таксама ў шэрагу дырэктыў, *ажыцьцяўляў правільна лінію партыі, даваў зусім правільную політычную ўстаноўку па ўсіх політычных пытаньнях. І па пытаньню недапусьцімасьці адміністраваньня ў колгасным будаўніцтве, і па пытаньню захаваньня правільнай лініі ў адносінах да серадняка, ЦК сваячасова папярэджваў мясцовыя організацыі, даваў чоткую політычную ўстаноўку. Аднак з боку ЦК былі дапушчаны некаторыя памылкі, якія прызнаны рашэньнем Бюро ЦК. Гэтыя памылкі зьмяшчаюцца ў тым, што ЦК на студзеньскім пленуме прыняў рашэньне аб суцэльнай колектывізацыі Беларусі да канца 1931 году, якое працівярэчыць рашэньням ЦК УсеКП(б), па пытаньню аб тэмпах колектывізацыі для розных раёнаў,* хаця гэтае рашэньне ні ў якім выпадку не давала падставы мясцом ставіць перад сабою задачу суцэльнай колектывізацыі ўжо да бягучай вясны, тым ня менш, памылка ЦК заключалася ў тым, што апошні недастаткова рашуча вёў барацьбу супроць няправільных і супярэчлівых асноўнай лініі партыі імкненьняў і спроб закончыць суцэльную колектывізацыю да пачатку севу.

Сакавіковы пленум ЦК, які па бальшавіцку выкрыў памылкі і перагібы ў колгасным будаўніцтве, паставіў перад усёй партыйнай організацыяй, як адну з важнейшых і баявых задач, хутка пераключыцца на выпраўленьне памылак і перагібаў, на рашучую барацьбу з права-опортуністычнымі элемэнтамі і левымі загібшчыкамі, што тармозяць і не жадаюць выпраўляць памылкі і перагібы. Пленум заклікаў усю парторганізацыю даць няшчадны адпор усякага роду новым опортуністычным тэорыям аб „адступленьні", „самацёку", правале колектывізацыі і ўсякім іншым паражэнцкім тэорыям. ЦК рашуча асудзіў

і даў бальшавіцкую ацэнку опортуністычным рашэньням Шклоўскага Райкому, рашуча асудзіў няправільныя опортуністычныя рашэньні і ўстаноўку Магілеўскага АК і ў сучасны момант ужо дабіўся таго, што ўсе нашы партыйныя організацыі за некаторымі асобнымі выключэньнямі па бальшавіцку выпраўляюць памылкі, сконцэнтравалі ўвагу на пасьпешным правядзеньні вясеньняга севу, як колгасамі, так і індывідуальным сэктарам, дабіліся ў асноўным усваеньня таго, што пасьпешнае правядзеньне севу колгасамі, асабліва індывідуальным сэктарам, зьяўляецца важнейшай задачай партыйных організацый у бягучы пэрыод.

Адзначлівай рысай усяго прайшоўшага і бягучага пэрыоду зьяўляецца нябывалая актыўнасьць, высокі творчы ўздым у рабочай і асноўнай бядняцкасераднядкай масе сялян. Гэты ўздым знайшоў сваё простае выражэньне ў шырокай хвалі соцыялістычнага спаборніцтва, ва ўдарніцтве, у масавым уступленьні лепшых перадавых рабочых у шэрагі нашай партыі. Вытворчая пераклічка паміж фабрыкамі і заводамі, шырокая організацыя ўдарных брыгад, цэхаў і цэлых заводаў, новыя формы соцыялістычнай працы на вытворчасьці, дабраахвотнае зьніжэньне расцэнак—усё гэта сьведчыць аб гатоўнасьці рабочай клясы напружыць усе сілы на выкананьне пяцігодкі, соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, пацьвярджае факт бязумоўнай падтрымкі генэральнай лініі партыі з боку рабочай клясы і асноўных мас сялянства. Але актыўнасьць мас, якая ўзрасла ў аграмаднай ступені, вялізарныя задачы рэконструкцыйнага пэрыоду патрабуюць ад партыйных, профэсыйных і іншых масавых пролетарскіх організацый самага хуткага перабудаваньня ўсёй сваёй работы, паляпшэньня якасьці кіраўніцтва, пасіленьня тэмпаў работы.

Трэба, аднак, адзначыць, некаторае адставаньне, маруднасьць у перабудове ўсёй работы, няўменьне з боку некаторых партыйных, а асабліва профсаюзных організацый, паставіць на чале актыўнасьць масы, накіраваць яе да разьвязаньня асноўных задач соцыялістычнага будаўніцтва. Менавіта гэтымі абставінамі трэба тлумачыць недавыкананьне прамфінпляну за першае паўгодзьдзе бягучага гаспадарчага году і асабліва нездавальняючыя вынікі па выкананьню якасных паказьнікаў (па зьніжэньню сабекошту і палепшаньню якасьці продукцыі). Лёзунг аб павароце тварам да вытворчасьці профсаюзамі яшчэ не ажыцьцёўлен, профсаюзы яшчэ не сконцэнтравалі асноўнай увагі на задачах выкананьня пяцігодкі, пасьпешнага выкананьня прамфінпляну, не перабудавалі ўсёй сваёй масавай і культурнай работы ў суадпаведнасьці з гаспадарчымі і політычнымі задачамі, якія стаяць перад партыяй. Праўда, за апошнія два месяцы ў галіне выкананьня прамфінпляну маецца пералом у бок палепшаньня, але гэты пералом яшчэ не замацован, ён яшчэ недастатковы для абавязковага выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну, што мае рашучае значэньне для ўсяго нашага далейшага соцыялістычнага будаўніцтва.

Адна з буйнейшых проблем, якая ў мінулы пэрыяд стала з асаблівай вастратой перад КП(б)Б, гэта проблема кадраў. Нябывалы рост соцыялістычнай прамысловасьці і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, вялізарныя задачы культурнай рэволюцыі, прад'яўляюць колёсальныя патрабаваньні на кіруючыя кадры, ставяць проблему кадраў на адно з першых месц. Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б паставіў ва ўсёй шырыні пытаньне аб кадрах, намеціў шэраг практычных шляхоў для ўзмацненьня кіруючых кадраў. За мінулы пэрыод ЦК ужо праведзена некаторая работа. Удалося ўліць у савецкі апарат, профсаюзы і гаспадарчыя органы шэраг найбольш моцных і праверaных камуністаў—рабочых, значна пасілена работа па высоўваньню рабочых з вытворчасьці на кіруючую работу. Аднак неабходна прызнаць, што гэтая работа адстае, што разьвязаньне гэтай важнейшай проблемы патрабуе шмат большага размаху, шмат большых высокіх тэмпаў. Да XIII зьезду КП(б)Б і на ўвесь папярэдні пэрыод, задача па падрыхтоўцы і ўзмацненьню кіруючых кадраў для ўсіх галін соцыялістычнага будаўніцтва застаецца адной з важнейшых і баявых задач усёй КП(б)Б.

У адпаведнасьці з дырэктывамі XII зьезду КП(б)Б, ЦК і ўся партыйная організацыя ўдзялялі неаслабную ўвагу правільнаму правядзеньню нацыянальнай

політыкі. ЦК і ўся КП(б)Б цалкам праводзіла рашучую барацьбу з усякімі ўхіламі ў нацыянальнай політыцы, давала няшчадны адпор усякім вылазкам з боку нацыянал-дэмократычных і шовіністычных элемэнтаў. Рэзкае абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне, зьверскае сапраціўленьне з боку кулака, нэпмана, варожай інтэлігенцыі социялістычнаму наступу, вялізарны ціск з боку ўсіх гэтых варожых сіл на некаторыя адсталыя і галоўным чынам новыя слаі рабочых, а таксама на некаторыя няўстойлівыя элемэнты ў шэрагах нашай партыі, узмацніла, асабліва ў гэты пэрыод, хістаньне сярод гэтай часткі няўстойлівых комуністаў. У мінулы пэрыод мы сустрэліся з шэрагам нацыянал-дэмократычных вылазак (тэатральная дыскусія, выступленьне трох пісьменьнікаў у друку, выступленьне Жылуновіча ў друку і інш.). ЦК даў няшчадны адпор усім гэтым вылазкам нацыянал-дэмократычных элемэнтаў, правёў вялікую работу па мабілізацыі партыйных мас на барацьбу з хістаньнямі і ўхіламі ў нацыянальнай політыцы, асабліва з нацыянал-опортунізмам, як разнавіднасьці права-опортуністычнага ўхілу, які прадстаўляе найбольшую небясьпеку ў дадзены пэрыод для КП(б)Б. Побач з гэтым ЦК своечасова выкрываў і даваў рашучы адпор праявам нацыянал-шовінізму, вялікадзяржаўнаму, яўрэйскаму і іншым. У мінулы пэрыод клясавы вораг таксама рабіў не аднаразовыя спробы выступіць супроць політыкі партыі, пад маскай антысэмітызму. Вялікая работа праведзена парторганізацыямі па выкрыцьцю контр-рэволюцыйных карэньняў антысэмітызму; шырокае прыцягненьне ўвагі ўсёй пролетарскай грамадзкасьці да барацьбы з антысэмітызмам дало станоўчыя вынікі.

Маючы некаторыя посьпехі ў галіне правядзеньня беларусізацыі ў парторганізацыі і савапараце, нельга аднак прайсьці міма асобных фактаў пасыўнага галоўным чынам супраціўленьня беларусізацыі з боку некаторых асобных комуністаў, недапушчальна слабай работы па правядзеньню беларусізацыі ў некаторых організацыях. Адной з важнейшых чарговых задач, якія стаяць перад усёй КП(б)Б, гэта далейшая актывізацыя ўсёй парторганізацыі па правядзеньню беларусізацыі, па значнаму ўзмацненьню тэмпаў беларусізацыі, задача паглыбленай і сыстэматычнай работы па растлумачэньню нацыянальнай політыкі партыі ў масах і глыбокай рабоце па інтэрнацыянальнаму выхаваньню шырокіх рабочых, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. За мінулы, з часу XII зьезду, пэрыод, КП(б)Б правяла выключна вялікую работу па бальшавіцкаму зьяднаньню сваіх шэрагаў, па падвышэньню клясавай баяздольнасьці ўсёй парторганізацыі. У гэты пэрыод асноўная ўвага ўсёй парторганізацыі была накіравана на барацьбу і перамогу права-опортуністычнага ўхілу у тэорыі і на практыцы, як на галоўную небясьпеку для партыі на дадзеным этапе. Праведзена вялікая работа па растлумачэньню опортуністычнай існасьці і выкрываньню социяльна-экономічных карэньняў, як глебы для правага ўхілу. *ЦК з усёй сілаю ўдарыў па права-опортуністычнай політыцы і практыцы ранейшага кіраўніцтва Наркамзему і саматужна-прамысловай коопэрацыі, ЦК з усёю бальшавіцкаю непрымірымасьцю выкрыў права-опортуністычныя памылкі тав. Чарвякова, выказаныя ім у шэрагу артыкулаў і выступленьнях, ЦК рашуча ўдарыў па права-опортуністычных скрыўленьнях ранейшага кіраўніцтва Наркамасьветы і іншых організацый, накіраваўшы галоўны, асноўны агонь на барацьбу з правым ухілам КП(б)Б, разам з тым рашуча выкрываў усякага роду іншыя ўхілы і хістаньні—„левыя“ загібы, усякія праявы рэцэдываў троцкісцкай ідэолёгіі, праводзіў рашучую барацьбу з усімі гэтымі ўхіламі і прымірэнцтвам да іх.*

Рашучая барацьба за генэральную лінію партыі, няшчадны адпор усякім ухілам ад ленінскай лініі, непрымірымая барацьба з усякімі ўхіламі і хістаньнямі ў нацыянальнай політыцы, праведзеная ў агульным пасьпешна, праверка і чыстка шэрагаў КП(б)Б ад чужых і разлажыўшыхся элемэнтаў, яшчэ больш зьяднала нашы ленінскія шэрагі, узмацнілі адзінства і бальшавіцкую зьяднанасьць усёй КП(б)Б.

*Цьвёрда ажыцьцяўляючы ленінскую лінію нашай партыі, КП(б)Б і ў далейшым таксама як і да гэтага часу будзе адным з надзейных атрадаў ленінскай УсеКП(б).*

# НА АБГАВАРЭНЬНЕ ДА XIII ЗЬЕДУ КП(б)Б.

## Прафсаюзы БССР не перабудавалі сваёй работы.

Вялізарныя задачы стаяць перад прафсаюзамі ў сучасны момант бурнага росту сацыялізму ў нашай краіне. „Пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі, задачы канчатковага выкарчоўваньня карэньняў капіталізму як у горадзе, так і ў вёсцы, непасрэдны пераход да будаўніцтва сацыялістычнага грамадзтва, ставячы з усёй сілай пытаньне аб большым удзеле мас у будаўніцтве сацыялізму, вызначае сабой новы этап у прафэсыянальным руху, новыя задачы, новыя мэтады і формы работы прафсаюзаў. Ва ўмовах рэканструкцыйнага пэрыяду прафэсыянальныя саюзы павінны ўзяць на сябе больш актыўную ролю ў справе будаўніцтва народнае гаспадаркі, як арганізацыі ўзмацненьня сацыялістычнай прамысловасьці, так і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі“ (з рэзалюцыі III пленуму ЎсеЦСПС).

> „Партыйныя арганізацыі і прафсаюзы асаблівую ўвагу павінны зьвярнуць на ўзмацненьне барацьбы з адмоўнымі зьявішчамі ў паасобных пластох рабочае клясы (цэхаўшчына, рвацтва, разгільдзяйства, адсталыя настроі), з праявамі апартунізму, бюракратычнага акасьцяненьня асобных зьвеньняў прафсаюзнага апарату і г. д., на рашучую перабудову форм, мэтадаў і зьместу работы прафсаюзных арганізацый...“ (з рэзалюцыі пленуму ЦК КП(б)Б у студзені 1930 г.).

Складаныя і адказныя задачы стаяць перад прафсаюзамі Беларусі. Шпаркае разгортваньне прамысловасьці выклікае прыцёк вялікіх мас новых рабочых, выхадцаў з саматужнікаў і зьвязаных з сельскай гаспадаркай; наяўнасьць шматнацыянальнага пераплёту; наяўнасьць значнага пласту батракоў і пастухоў на вёсцы; узмацненьне супраціўленьня кулацтва сацыялістычнаму наступленьню, абвастрэньне клясавай барацьбы ў горадзе і вёсцы, вылазкі клясавых ворагаў і іх агентаў пад сьцягам антысэмітызму, шавінізму і нацдэмакратызму, патрабавалі і патрабуюць ад прафсаюзаў Беларусі напружанай работы па згуртаваньні сіл пралетарыяту па клясавым, інтэрнацыянальным выхаваньні рабочых, па ўцягненьні шырокіх мас рабочых у актыўнае сацбудаўніцтва. Усё гэта патрабуе рашучай, настойлівай і сыстэматычнай работы па перабудаваньню форм і мэтадаў работы прафсаюзаў.

XII зьезд КП(б)Б у рэзалюцыі аб рабоце прафсаюзаў адзначыў асноўныя дасягненьні ў рабоце прафсаюзаў БССР і адначасова канстатаваў рад недахопаў у рабоце. Сярод недахопаў адзначана, што ў прафсаюзах БССР ёсьць:

> „Наяўнасьць выпадкаў бюракратычных няўважлівых адносін да патрэб рабочых, чыноўніцкага адрыву ад масы, разлажэньне паасобных кіраўнікоў прафарганізацый, грубых парушэньняў прафсаюзнай дэмакратыі, невыстарчальнае разгортваньне самакрытыкі“.

У жніўні месяцы 1929 г. прафсаюзы БССР у асобе ЦСПСБ рабілі справаздачу аб сваёй рабоце перад прэзыдыумам УсеЦСПС.

УсеЦСПС прызнаў наяўнасьць у прафруху БССР шэрагу буйнейшых палітычных недахватаў, якія ў асноўным зводзяцца да наступнага: *невыстарчальна наладжана кіраўніцтва сацспаборніцтвам; не разгорнута работа з новымі кадрамі рабочых слаба праводзіцца праверка выкананьня прафсаюзных дырэктыў; кепска арганізавана жывая сувязь кіраўнікоў прафарганізацый з прадпрыемствамі і рабочай масай; слаба пастаўлена інтэрнацыяльнае выхаваньне рабочых мас і рад іншых недахватаў.*

„Прэзыдыум УсеЦСПС лічыць, што прафсаюзы БССР яшчэ не дасягнулі патрэбнага пералому ў сэнсе сапраўднае зьмены зьместу і мэтадаў сваёй работы ў адпаведнасьці з асаблівасьцямі рэспублікі і задачамі прафруху ў рэканструкцыйны пэрыяд“ (з пастановы УсеЦСПС па дакладу ЦСПСБ).

З часу XII зьезду КП(б)Б мінула больш году, абсьледваньне УсеЦСПС скончылася каля 9 месяцаў таму назад. Тэрмін выстарчальны для дасягненьня пералому ў рабоце па зьнішчэньні паказаных недахватаў, па выкананьні практычных паказаньняў XII зьезду КП(б)Б, прэзыдыуму УсеЦСПС і пленумаў ЦК КП(б)Б.

Ужо адкрыўся XIII зьезд КП(б)Б і ў хуткім часе адкрываецца XVI зьезд УсеКП(б), на парадку дня якіх стаіць пытаньне аб перабудове работы прафсаюзаў.

Іменна таму надзвычайна важна зараз дакладна праверыць работу прафсаюзаў БССР, выявіць наколькі выкананы дырэктывы партыі ў УсеЦСПС аб перабудове работы прафсаюзаў.

Трэба адзначыць, што прафсаюзы БССР і яго кіраўнічыя органы па шэрагу важнейшых асноўных пытаньняў ня выканалі дырэктыў партыі і УсеЦСПС. Большасьць нездаровых зьявішч, адзначаных XII зьездам КП(б)Б, наступнымі пленумамі ЦК КП(б)Б і УсеЦСПС, захаваліся і пералому ў справе іх зьнішчэньня яшчэ няма. У першую чаргу гэта датычыць ЦСПСБ.

## Скажэньні лініі ў паасобных прафарганізацый.

Скажэньні лініі партыі, гніль і косласьць выяўляюцца амаль пры кожным абсьледваньні прафарганізацый.

Абсьледваньне саюзу швэйнікаў выявіла, што саюз несваячасова і нерашуча даваў адпор цэхавым і адсталым настроям паасобных груп рабочых, асабліва новых кадраў, што саюз не падхватваў ініцыятыву перадавых рабочых у справе разьвіцьця сацыялістычнага спаборніцтва і ўцягненьня ў сацспаборніцтва ўсей масы рабочых, адсутнічаў рашучы адпор рвацкім настроям паасобных рабочых, рашучай барацьбы з антысэмітызмам, шавінізмам і нацыянальнай абмежаванасьцю ня было, інтэрнацыянальнае выхаваньне было па закутках, масавая работа ня была скарыстана для ўкараненьня ў сьвядомасьць рабочых асноўных пытаньняў сацспаборніцтва.

Яшчэ больш сумны малюнак выяўлены пры абсьледваньні ЦП саюзу саўгандальслужачых. ЦП гэтага саюзу прайшло міма шарагу сур'ёзьнейшых палітычных пытаньняў: сацспаборніцтва, чыстка савапарату, барацьба з бюракратызмам і раду іншых важнейшых пытаньняў. ЦП саўгандальслужачых не стварыла нармальных умоў для разгортваньня самакрытыкі, а старшыня ЦП Мурзіч сам у шэрагу выпадкаў заціскаў самакрытыку. Уся работа ЦП праходзіла габінэтным парадкам.

Абсьледваньне ЦП саюзу Працмастацтва выявіла, што ЦП аказалася няздольным мабілізаваць актыўнасьць членаў прафсаюзаў на барацьбу за клясава-пралетарскі рэпэртуар, не завастрыла ўвагі рабочых мас і членаў саюзу вакол буйных ідэолёгічных прарываў у тэатральнай рабоце, былі выпадкі прыцягненьня да кіраўніцтва ў саюзе чужых элемэнтаў, адзначаны выпадкі заціску самакрытыкі, пры яўным патураньні ЦП саюзу.

ЦП саюзу дрэваапрацоўшчыкаў прымірэнча адносілася да работы і вылазкам (аж да арганізацыі забастовак) контррэвалюцыйнай групы трацкістых на Менскай мэблевай фабрыцы.

Нядаўна абсьледвана работа прафсаюзаў Мазырскае акругі. Што-ж там выяўлена?

> Прафарганізацыі не кіравалі сацспаборніцтвам, ні адна ўдарная брыгада ня мае канкрэтнага заданьня, зусім слаба разгорнута самакрытыка, барацьба з апартунізмам у практыцы прафработы не вядзецца, важнейшыя дакуманты партыі (аб адзінаначальлі, адозва ЦК УсеКП(б) ад 25-I-30 г.), адозвы Усе ЦСПС „Прафсаюзы, тварам да вытворчасьці“, не даведзены да мас членаў прафсаюзаў, не прапрацаваны. Клясавае выхаваньне членаў саюзаў не арганізавана, пляны ліквідацыі няпісьменнасьці амаль цалкам сарваны.

Як-жа прэзыдыум ЦСПСБ рэагаваў на ўсе гэтыя канкрэтныя факты апартуністычных і бюракратычных скажэньняў лініі партыі ў прафсаюзах?

**Ня было своечасовага і рашучага рэагаваньня на праяўленьні апартунізму на практыцы.**

Як агульнае зьявішча, трэба адзначыць, што ЦСПСБ толькі тады бярэцца за праверку работы таго або іншага саюзу, калі друк настойліва гэтага патрабуе і сыгналізуе. Аднак і ў гэтых выпадках ЦСПСБ выкрывае недапушчальную марудн асьць. Так, аб недахватах у саюзе швэйнікаў друк сыгналізаваў у студзені 1929 г., абсьледваньне гэтага саюзу кончана ў маі, даклад аб рабоце саюзу заслуханы ў ліпені, а рэзалюцыя па справаздачы ЦП зацьверджана ў кастрычніку, прычым, канстатуючы скажэньні асноўных дырэктыў партыі, ЦСПСБ не адважыўся зрабіць адпаведныя оргвывады, а абмежаваўся пастановаю аб умацаваньні апарату ЦП саюзу.

У маі 1929 г. друк сыгналізаваў аб скажэньнях лініі партыі і аб заціску самакрытыкі ў ЦП саюзу саўгандальслужачых. Тады прызналі неабходным правесьці абсьледваньне саюзу, але нічога канкрэтнага для ажыцьцяўленьня гэтае пастановы не зрабілі, і толькі пасьля паўторных і шматлікіх патрабаваньняў друку, у кастрычніку 1929 году праводзіцца абсьледваньне работы гэтага саюзу, у выніку чаго прышлося распусьціць гомельскае праўленьне, прэзыдыум ЦП саюзу саўгандальслужачых і зьняць з работы ўсіх кіраўнічых работнікаў ЦП.

ЦСПСБ, зацягнуўшы на поўгода рэагаваньне на абураючыя факты, паказаныя друкам, дапусьціўшы гэтым паглыбленьне і разьвіцьцё скажэньняў лініі партыі ў рабоце саюзу саўгандальслужачых, так вызначае сваю віну:

> „Прэзыдыум ЦСПСБ лічыць ненармальным **зацяжку абсьледаваньня** работы ЦП саюзу з боку ЦСПСБ, што стварыла **некаторае спазьненьне** ў вырашэньні пытаньня аб стане работы ў саюзе". Вось ужо сапраўды „ненармальнасьць".

Сыгналы аб тым, што ў саюзе Працмастацтва ня ўсё добра, чутны былі на старонках друку яшчэ ў лістападзе 1929 г., тым ня менш абсьледваньне пачынаецца толькі ў студзені 1930 г., а даклад аб рабоце саюзу заслухоўваецца 4-га красавіка 1930 г. І зноў замест рашучых мер ухваляецца пастанова аб умацаваньні апарату саюзу. Тэмпы сапраўды дзіўныя.

**У барацьбе супроць „прышчэпаўшчыны" і нацдэмакратызму праforganізацыі аказаліся ў ролі сьведак.**

КП(б)Б і ўся рабочая кляса БССР, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, дала зьнішчальны адпор „прышчэпаўшчыне", гэтаму нахабнаму праваму ўхілу, ня менш руйнуючы ўдар атрымалі нац. дэмакраты і шавіністыя ўсіх колераў, якія прабавалі захапіць пазыцыі ў Наркамасьвеце і іншых органах і праводзіць свае вылазкі.

Здавалася-б, роля прафсаюзаў у гэтай барацьбе супроць вылазак клясавага ворага павінна быць асабліва значнай. Трэба было арганізаваць шырокія масы рабочых для барацьбы супроць клясавага ворага. Але і тут роля прафсаюзаў зьвялася да нулю. У барацьбе супроць „прышчэпаўшчыны" і нац. дэмакратызму прафсаюзы адсутнічалі. Гэта канстатуе і перадавая часопісь „Прафрух" (№ 19-20, кастрычнік 1929 г.), дзе пішацца, што „ў многіх прафработнікаў адсутнічае досыць выразнае рэагаваньне на скажэньні клясавай лініі, на апартуністычныя памылкі кіраўнікоў устаноў... (МК Наркамзема, МК Наркамасьветы, Белбюро сэкцыі працаўнікоў друку, МК Менскага акрфінаддзела і г. д.).

Застаецца незразумелым чаму, як прыклад, падаюцца выключна МК, а дзе ЦП саюзу і ЦСПСБ, у канцы гэтай-жа перадавой надрукавана: „Заўвага: аб прынятых мерах ЦП саюзаў да з жыцьця адзначаных у артыкуле недахопаў, зараз ідзе высьвятленьне і будзе асобна надрукавана ў бліжэйшым нумары часопісі". З гэтага часу прайшло 6 месяцаў, вышла ўжо некалькі „бліжэйшых нумароў часопісі", часопісь ужо ліквідавалася і ператварылася ў штотыднёвую газэту, а абяцанага „высьвятленьня" ўсё яшчэ няма. Мы ня выкрыем вялікага сакрэту, калі скажам, што ніякага высьвятленьня і не праводзілася. Тая-жа часопісь „Прафрух" (№ 18) пісала:

„У нас у БССР **мы былі сьведкамі** (падкрэсьлена намі) абураючай праваапартуністычнай палітыкі групы наркамземаўскіх кіраўнікоў на чале з Прышчэпавым“ і пытае: „Што зрабілі прафсаюзы, для выкрыцьця яўна варожай нам палітыкі, для ачысткі апарату ад прыхільнікаў разьвіцьця кулацкіх гаспадарак, ад работнікаў, якія перашкаджаюць ажыцьцяўленьню генэральнай лініі партыі...“

Гэта пытаньне вельмі к месцу і аўтар артыкулу і орган ЦСПСБ „Прафрух“ пакідаюць яго без адказу, бо на самой справе прафсаюзы „былі сьведкамі“, а не актыўнымі ўдзельнікамі барацьбы.

## Асноўнае зьвяно прафработы не ахоплена.

Асноўным зьвяном прафработы ў даны момант зьяўляецца сацспаборніцтва. Аб гэтым ёсьць досыць выразныя ўказаньні пленумаў ЦК КП(б)Б і III-га пленуму УсеЦСПС. Так, у рэзалюцыі верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б паказана, што

„Прафарганізацыі да гэтага часу яшчэ ня сталі на чале руху мас у сацспаборніцтве, ня здолелі перабудаваць сваю работу і зьмяніць яе тэмпы ў адпаведнасьці з задачамі сацспаборніцтва... Пленум абавязвае фракцыі прафарганізацый замацаваць дзейнае, жывое кіраўніцтва сацспаборніцтвам, фактычна стаць арганізатарамі рабочых мас у справе іх уцягненьня ў спаборніцтва“.

А што мы маем на справе?

„Масавая праверка выявіла, што, ня гледзячы на дырэктывы партыі і вышэйшых органаў, прафарганізацыі ня сталі яшчэ на чале сацспаборніцтва, не арганізавалі руху мас, не прыстасавалі мэтады і не зьмянілі тэмпы сваёй работы“ (з рэзалюцыі VIII пленуму ЦСПСБ, студзень 1930 г.).

Праверка прычын прарываў у выкананьні прамфінпляпаў у першым паўгодзьдзі 1929-30 году выявіла, што шэраг прафарганізацый яшчэ да гэтага часу ня кіруюць сацспаборніцтвам, не дапамагаюць у рабоце ударных брыгад, а ў асобных выпадках зусім стаяць у баку ад гэтай справы (зав. „Пралетары“, Гомель, Віцебскі і Аршанскі чыгуначныя вузлы, „Зьвязда“ Мозыр і рад іншых).

Пастановы ўсесаюзнага зьезду ўдарнікаў не прапрацаваны ў масах. Вынікі праведзеных па ўсіх акругах зьездаў і канфэрэнцый ударнікаў, ні ў ЦСПСБ, ні ў акругах не падагулены і не прапрацаваны ў масах. Асноўнае зьвяно прафработы некаторыя прафарганізацыі БССР не ўхапілі і ня могуць ухапіць з-за сваёй коснасьці, непаваротлівасьці і няздольнасьці работаць.

Ні адно ЦП саюзаў не разглядала пляну рацыяналізацыі прамысловасьці на 1929-30 год, а прэзыдыум ЦСПСБ толькі 14-га красавіка сабраўся разгледзець пытаньне аб рацыяналізацыі прамысловасьці. Выяўлена, што замест прадугледжаных па прамфінпляне 300.000 на рацыяналізацыю, у першым квартале гэтага гаспадарчага году, выдаткавана ўсяго 60.000 р., а 240.000 аказаліся ў „эканоміі“. Пытаньням вынаходніцтва ўдзяляецца настолькі мала ўвагі, што шэраг буйнейшых гаспадарчых органаў, як Шклотрэст, Харчтрэст, Белдзяржсьпірт, Дняпроўская Мануфактура, суконная фабрыка, панчошная фабрыка і інш. адмовіліся прадставіць на першую ўсебеларускую выстаўку экспанаты вынаходніцтва з прычыны іх адсутнасьці.

Шэраг пытаньняў, якія маюць вялізарнае значэньне ў жыцьці Беларусі, зусім выпалі з поля зроку ЦСПСБ. Так, пытаньне аб лесасплаве, аб капітальным будаўніцтве і інш. зусім не абмяркоўваліся. Пытаньне аб будаўнічым сэзоне даехала да прэзыдыуму ЦСПСБ толькі 14-га красавіка, калі будаўнічыя работы ўжо фактычна пачаліся.

## Культработа не прасякнута палітычным зьместам.

Пленум ЦК КП(б)Б, „сьцьвярджаючы раней даныя дырэктывы па пралетарска-клясаваму выхаваньню рабочых, прапануе прафарганізацыям пранізаць усю сваю палітыка-выхаваўчую работу сярод рабочых клясава-палітычным зьместам“. (З рэзалюцыі пленуму ЦК КП(б)Б, студзень 1930 г.).

„Уся масавая работа павінна быць перабудавана такім чынам, каб у ёй больш поўна адбіваліся агульна-палітычныя задачы рабочае клясы, асноўныя пытаньні прафэсыянальнай работы, у асаблівасьці данага прадпрыемства“. (З рэзалюцыі ЎсеЦСПС па дакладу ЦСПСБ).

Між тым культработа прафсаюзаў БССР да гэтага часу пляцецца ў далёкім абозе руху мас. Усе рэзалюцыі ЦК КП(б)Б і ЎсеЦСПС аб увязцы культра-

боты і работы культустаноў прафсаюзаў з важнейшымі палітычнымі задачамі дня застаюцца на паперы. Гэта сьцьвярджаецца пры кожным сур'ёзным іспыту.

Праверылі выкананьне сацдагавароў,— аказалася, што культработа не пристасавана да задач сацспаборніцтва. Падагулілі апошнюю калдагаворную кампанію, аказалася, што культработа саюзаў не адбіла гэтай важнейшай палітычнай кампаніі. Прафсаюзныя клюбы ў 4-5 раз больш наладжваюць спэктакляў і канцэртаў, чым лекцый, дакладаў і гутарак, не гаворачы ўжо аб якасьці гэтае работы. Гурткі скокаў і плястыкі займаюць больш удзельнай вагі ў рабоце прафсаюзных клюбаў, чым гурткі тэхнічныя і агульна-адукацыйныя.

Вельмі прыгожыя рэзалюцыі ўхвалены ЦСПСБ па пытаньні аб ліквідацыі няпісьменнасьці, але і тут рэчаіснасьць зьяўляецца процілеглай рэзалюцыям. Пры павялічэньні колькасьці вучняў навучаемых-няпісьменных, усё-ж пляны ліквідацыі няпісьменнасьці сярод індустрыяльных рабочых на працягу гэтага году фактычна сарваны. З улічаных па БССР (без саюзу сельгаслесрабочых) 13.973 няпісьменных членаў саюзаў, уцягнута ў лікпункты на 1-га кастрычніка 1929 г. 4.455 чал., або 31,8 проц. А колькі з іх адсеялася? Яшчэ горш абстаіць з гэтай справай па саюзу сельгаслесрабочых, які мае вялізарную армію няпісьменных батракоў. Паасобныя абсьледваньні выявілі значныя прарывы ў гэтай рабоце. У паасобных раёнах Магілеўскае акругі колькасьць навучаемых батракоў роўна колькасьці навучаемых кулакоў і ёсьць раёны, дзе кулакі ў два разы перавышаюць колькасьць батракоў у лікпунктах. Прафсаюзы БССР не змаглі праявіць у гэтай справе неабходнай энэргіі і настойлівасьці і баявога тэмпу работы.

## Дырэктывы партыі аб ахове працы ня выкананы.

„Зьмяншэньне няшчасных выпадкаў і траўматызму ў прамысловасьці вельмі значнае, а ў некаторых выпадках наглядаецца нават і рост іх. Узятыя на сябе гаспадарчымі органамі абавязацельствы па калдагаворах не заўсёды выконваюцца пры яўным папусьціцельстве з боку прафсаюзаў“.

> „Зьезд лічыць, што ахова працы на бліжэйшы пэрыяд павінна заняць адно з першых месц у рабоце прафсаюзаў і гаспадарчых органаў і ўсялякія няўважлівыя адносіны да аховы працы павінны быць катэгарычна асуджаны“. (З рэзалюцыі XII зьезду КП(б)Б аб рабоце прафсаюзаў).

Што-ж зроблена для ажыцьцяўленьня гэтых дырэктыў XII зьезду КП(б)Б, якія маюць вялізарнае значэньне для рабочае клясы Беларусі.

Грунтуючыся на наяўных фактах, можна пэўна паказаць, што тут ня толькі няма пералому, але становішча яшчэ пагоршылася. На 1928-29 год было асыгнавана на мерапрыемствы па тэхніцы безапаснасьці і ахове працы 790 тыс. руб. Фактычна выдаткавана (не гаворачы ўжо аб мэтазгоднасьці выдаткаваньня, якой ніхто не правяраў) 513.000 р, або 64,9 проц. Засталося „эканоміі“ 35,1 проц. ад агульнае сумы. Фабрыка „Дзьвіна“, якая ў 1927-28 гаспадарчым годзе выдаткавала 25 проц. асыгнаваньняў на ахову працы, у 1928-29 г. выдаткавала з 68.000 руб.— 1.419 руб., або 2,1 проц. (!). Такія-ж прыклады ёсьць па радзе прадпрыемстваў. Рад буйнейшых прадпрыемстваў ні аднэй капейкі ня выдаткавалі з адпушчаных сродкаў на ахову працы.

Калі пры патураньні прафсаюзаў БССР дзесяткі і сотні тысяч рублёў, адпушчаных на ахову працы, аказваюцца ў „эканоміі“, ня можа быць упэўненасьці ў тым, што адпушчаная ўрадам вялізарнейшая сума ў 1.185 тыс. руб. будзе поўнасьцю і мэтазгодна скарыстана.

Усё гэта выразна характарызуе тыя важнейшыя палітычныя прарывы, якія мелі і маюць месца ў рабоце прафсаюзаў Беларусі.

Паглядзімо, пры якіх умовах сталі магчымы такія прарывы.

## Перабудаваліся на паперы.

Адсутнасьць перабудаваньня форм і мэтадаў работы, работа пастарому, пры старых нявольніцкіх тэмпах — вось падстава падстаў хвароб прафработы БССР.

І тут няма недахвату ў добрых рэзалюцыях. У рэзалюцыях VIII пленуму ЦСПСБ (студзень 1930 г.) мы чытаем:

„Перабудова форм і мэтадаў прафработы павінна прайсьці на базе шырокага разгортваньня пралетарскай самакрытыкі і забясьпечыць гібкасьць, шпаркасьць і выразнасьць работы ўсіх праформганаў, пачынаючы з ЦСПСБ і канчаючы ФЗМК і забясьпечыць уцягненьне ў актыўную прафработу шырокіх кадраў рабочых (добраахвотніцтва, брыгады і г. д.)".

А як гэта праведзена ў жыцьцё?

Перабудова пачалася з перамены шыльд, калі ў ЦСПСБ замест трох аддзелаў вісяць шыльды, якія прапагандуюць існаваньне 7 сэктараў. Але чаму 7? А таму, што так перабудаваў сваю работу ЎсеЦСПС, а праект перабудовы ЦСПСБ проста цалкам сьпісаны з праекту перабудовы ЎсеЦСПС. Арганізавалі сэктар масавае работы, а што гэтаму сэктару рабіць, — ніхто ў ЦСПСБ ня ведае, і сэктар гэты існуе толькі ў рэзалюцыі. Не забылі і павялічыць штат ЦСПСБ. Забылі толькі адно — *перабудаваць работу*.

Аб прыцягненьні да работы ЦСПСБ добраахвотнікаў гаварылі многа, доўга і ня раз. Ухвалілі аб гэтым рэзалюцыю ў лістападзе, прынялі яшчэ рэзалюцыю ў студзені, прынялі і ў лютым і ў сакавіку. Лютаўская рэзалюцыя гучыць коратка і рашуча:

„... 15-га сакавіка 1930 г. правесьці сход добраахвотнікаў, дзе азнаёміць іх з рэарганізацыяй і функцыямі сэктараў ЦСПСБ.

Арганізатарскаму сэктару распрацаваць форму ўліку добраахвотнікаў.

Усім сакратарам да 15-га сакавіка прадставіць плян работы з добраахвотнікамі" (Пастанова Прэзыдыуму ЦСПСБ ад 28-га лютага 1930 г.).

Цяпер ужо канец красавіка, але ж дарэмна мы сталі-б шукаць у сэктарах ЦСПСБ рабочых-ударнікаў, працуючых, як добраахвотнікі на прафрабоце. Іх няма і невядома, калі яны будуць пры такіх тэмпах.

Кожны раз, калі трэба правесьці якуюнебудзь масавую кампанію (праверка дагавароў па сацспаборніцтву, перазаключэньне калдагавароў і г. д.) ЦСПСБ ведае толькі адну крыніцу вярбоўкі людзей. Гэта зьняцьце з работы працаўнікоў апарату ЦП саюзаў і часткова ЦСПСБ і пасылку іх па акругах. Забываюць аб тым, што асноваю работы прафсаюзаў ня могуць быць толькі работнікі прафсаюзных апаратаў, што трэба выкаваць кадры рабочых добраахвотнікаў, не зварачваюць увагі на тое, што часта работнік ФЗМК, калі ён прыходзіць, або прыяжджае па важным пытаньні ў ЦП саюзу, можа гаварыць толькі з дзелаводам, або машыністкаю, бо ўсе работнікі ЦП мабілізаваны ЦСПСБ на правядзеньне кампаній.

Зразумела, што мы ня зьбіраемся цьвердзіць, што ня трэба, або нельга прыцягваць работнікаў ЦП да правядзеньня важнейшых палітычных кампаній, мы толькі лічым зусім ненармальным, калі ігнаруюць задачы ўзмацненьня кіраўніцтва ЦП нізавымі ячэйкамі і калі працаўнікамі прафапарату прабуюць замяніць добраахвотныя кадры.

Замест паскарэньня перабудовы нізавых прафарганізацый аргінструктарскі сэктар ЦСПСБ даў няправільную установку аб правядзеньні перабудовы выключна пры правядзеньні перавыбараў ФЗМК.

### Засядацельская суетня.

У рэзалюцыях ЦСПСБ сваячасова зьвернута ўвага на патрэбнасьць барацьбы з засядацельскай суетой, на патрэбнасьць праверкі выкананьня, выразнасьці работы і іншых добрых рэчах. Але, на жаль, за ўсімі гэтымі словамі ня відаць жывое справы. Прэзыдыум ЦСПСБ упарта і хранічна хварэе і засядацельскай суетой і адсутнасьцю праверкі выкананьня, і нявыразнасьцю сваёй работы.

На кожнае пасяджэньне выстаўляецца вялізарная абвестка дня, з якой разглядаецца чвэрць, або нават меншая частка, прычым з-за гэтае перагрузкі трацiцца пачуцьцё адказнасьці і важнейшыя пытаньні нярэдка вырашаюцца фармальна, або не вырашаюцца зусім. Так, напрыклад, пытаньне аб культурным абслугоўваньні рабочых у сувязі з бесьперапыннкай ставілася на абмеркаваньне прэзыдыуму тры разы і столькі-ж раз зьнімалася з абмеркаваньня „да будачага пасяджэньня" і ня вырашана да гэтага часу. Пытаньне аб выніках праверкі работы на прадпрыемствах па ўцягненьні рабочых у абмеркаваньне і распрацоўку кантрольных лічбаў ставілася на абмеркаваньне прэзыдыуму і зьнята „да буду-

чага пасяджэньня“ і больш ня ставіцца. Тое-ж самае можна адзначыць і ў адносінах да пытаньня аб пэнсіі навуковым працаўнікам, дакладу менскага акрвыканкому аб выкананьні прамфінпляну па мясцовай прамысловасьці і раду іншых важнейшых пытаньняў. Усе яны спачатку ставіліся на абмеркаваньне, потым зьнімалася да „будучага пасяджэньня“, потым зноў ставіліся і зноў зьнімаліся покуль не надакучыла і да іх больш не зварочваюцца, ня гледзячы на іх вялізарную важнасьць. Лёс паасобных пытаньняў вельмі характэрны, вось, напрыклад, пытаньне аб пераводзе прадпрыемстваў, якія не перайшлі на бесьперапынку, на пяціднёўку. 24-га лютага гэтае пытаньне зьнімаецца з абмеркаваньня „з-за няўзгодненасьці з ВСНГ“, 4-га сакавіка пытаньне зноў зьнімаецца „з-за няяўкі дакладчыка“, а 14-га сакавіка пасьля дакладу і спрэчак выносіцца наступная пастанова: „Пытаньне з абмеркаваньня зьняць. Даручыць усім ЦП саюзаў абмеркаваць яго, пасьля чаго вынесьці на абмеркаваньне прэзыдыуму“. Пасьля гэтага пытаньне лічыцца вырашаным і да яго не зварочваюцца.

З-за непадрыхтаванасьці пытаньняў прыходзіцца па важнейшых пытаньнях вылучаць камісіі для „апрацоўкі рэзалюцыі ў трохдзённы тэрмін“ (як пішацца ў пратаколах), фактычна-ж атрымліваецца, што ў камісіях пытаньні не вырашаюцца, пытаньне, якое трапіла ў камісію, пахавана надоўга, а часамі і назаўсёды. Так пытаньне аб рэарганізацыі сыстэмы кіраўніцтва прамысловасьцю ставілася на пасяджэньні прэзыдыуму ЦСПСБ 24 лістапада, 4 сьнежня, 14 сьнежня і абмеркавана 24 сьнежня 1929 г. Пасьля абмеркаваньня на прэзыдыуме даручана надта аўтарытэтнай камісіі прадаставіць рэзалюцыю ў 6-дзённы тэрмін. З гэтага часу ўжо прайшло 4 месяцы, а рашэньня яшчэ няма да гэтае пары і невядома, калі будзе. Такі-ж лёс рэзалюцыі па дакладу ВСНГБ аб выкананьні прамфінпляну, аб дамох адпачынку для работніц у пасьляродавы пэрыяд і раду інш. Сыстэматычна заўважваецца таксама і спазьненьне. Вылучаецца камісія, якой даручаецца распрацаваць рэзалюцыю ў трохдзенны тэрмін. Кожнае пасяджэньне нараджае па 3-4 камісіі. Потым аказваецца, што камісіі ня зьбіраюцца, а калі зьбіраюцца, то з такім спазьненьнем, што замест трох дзён прадстаўленьне рэзалюцыі зацягваецца на 30 і больш дзён.

## Прафсаюзная дэмакратыя на словах.

Прэзыдыум ЦСПСБ часта ня супроць таго, каб шчэгальнуць дэмакратызмам. Гавораць і пастанаўляюць „раней, чым вырашыць, няхай выкажуцца рабочыя масы“. Гэта было-б вельмі добра. Але ўся бяда ў тым, што ў большасьці аб гэтым толькі гавораць і пастанаўляюць, але не праводзяць у жыцьцё Так, у кастрычніку прэзыдыум ЦСПСБ два разы выносіў рашэньне, у якім усе ЦП саюзаў абавязваліся абмеркаваць сярод рабочых пытаньне аб скарыстаньні сродкаў, сабраных ад адпрацоўкі ў дзень індустрыялізацыі. Гэта пастанова засталася на паперы. 21 студзеня 1930 году пастанавілі абмеркаваць сярод рабочых праект пабудовы новага тэатру ў г. Менску, пасьля чаго паставіць на прэзыдыум. Засталося на паперы. Пастаноўлена вынесьці на шырокае абмеркаваньне рабочых мас пытаньні: аб рэарганізацыі кіраўніцтва прамысловасьцю, выклік Менскае акругі Мазырскім АПБ на сацспаборніцтва па пытаньні аб выкананьні пастаноў III-га пленуму УсеЦСПС, выклікі Віцебскага АПБ на сацспаборніцтва па пытаньні аб ліквідацыі няпісьменнасьці, праект пабудовы дамоў-камун, аб пераводзе ўсіх прадпрыемстваў на пяціднеўкі і рад іншых. Ва ўсіх гэтых выпадках пастановы прэзыдыуму ЦСПСБ засталіся нявыкананымі. На кожным кроку праяўляецца ў ЦСПСБ адсутнасьць праверкі выкананьня прымаемых пастаноў.

У выніку ўсяго гэтага работа прэзыдыуму праходзіць далёка ад рабочых мас. Рабочы, трапіўшы на пасяджэньне прэзыдыуму, імкнецца ўцячы з гэтага пасяджэньня. Ня толькі рабочыя, самі члены прэзыдыуму стараюцца выкруціцца ад удзелу ў яго рабоце. Усяго членаў прэзыдыуму ёсьць 25 чал. У сярэднім прысутнічаюць на пасяджэньнях 5—7 чал. 5 красавіка на пасяджэньні прэзыдыуму з 25 членаў вырашалі пытаньні (у прыватнасьці, сцьвярджалі плян работы ЦСПСБ) два члены прэзыдыуму і адзін кандыдат.

Узьнікае пытаньне: няўжо-ж ніхто ня бачыць і не змагаецца з гэтымі буйнейшымі недахопамі?

У ЦСПСБ ведаюць аб гэтых недахопах, гавораць аб іх, але далей развважаньняў справа пакуль што не пайшла.

### Самакрытыкі няма.

„Зьезд прапануе прафсаюзам дабіцца рашучага пераломў ў галіне разгортваньня шырокае пралетарскае самакрытыкі, перарабіўшы яе ў сродак мабілізацыі, уздыму актыўнасьці і сьвядомасьці мас". (З рэзалюцыі XII зьезду КП(б)Б аб рабоце прафсаюзаў).

„Прэзыдыум УсеЦСПС канстатуе, што ЦСПСБ і саюзныя арганізацыі Беларусі ня ўжылі досыць рашучых захадаў да забесьпячэньня правядзеньня шырокае самакрытыкі з боку рабочых недахопаў працы прафсаюзных, гаспадарчых і савецкіх органаў. У практыцы работы некаторых саюзных органаў маюць месца парушэньні прафсаюзнай дэмакратыі і заціск самакрытыкі. Прэзыд. УсеЦСПС прапануе ЦСПСБ і ўсім праforганам Беларусі ўжыць самыя рашучыя захады па стварэньні на прадпрыемствах і ва ўстановах здаровае абстаноўкі для безбаязьненага правядзеньня самакрытыкі. Зьнішчыць усе прычыны, якія затрымліваюць яе разьвіцьцё, бязьлітасна змагаючыся з канкрэтнымі носьбітамі зла". (З пастановы УсеЦСПС па дакладу ЦСПСБ).

На справе гэтыя паказаньні выконваюцца зусім слаба. Так, за апошняе паўгодзьдзе ў Віцебску і Гомелі ў буйнейшых пралетарскіх цэнтрах Беларусі, выкрыты рад фактаў заціску самакрытыкі, апартуністычнага скажэньня лініі партыі. Усе гэтыя зьявішчы мелі месца на прадпрыемствах. Якую-ж ролю адыгралі прафсаюзы гэтых акруг у справе выкрыцьця і ліквідацыі гэтых прарываў? Прафсаюзы пры выкрыцьці і ліквідацыі гэтых зьявішч проста адсутнічалі, іх роля зьвялася да нуля.

VIII пленум ЦСПСБ вынес аб самакрытыцы спэцыяльную пастанову:

„Даручыць прэзыдыуму ЦСПСБ у двухмесячны тэрмін правесьці агульную праверку выкананьня прафарганізацыямі дырэктыў партыі і вышэйшых праforганаў у галіне разгортваньня самакрытыкі і распрацаваць мерапрыемствы па забесьпячэньні далейшага паглыбленьня самакрытыкі, як базы перабудовы работы прафсаюзаў і зьнішчэньня недахопаў і паасобных бюракратычных скажэньняў у рабоце"...

Гэта зусім ясная і пэўная дырэктыва ігнаруецца прэзыдыумам ЦСПСБ. З часу пленуму прайшло ўжо ня два, а больш трох месяцаў, і ніхто яшчэ ня думае прыступіць да выкананьня гэтае пастановы. Толькі пасьля доўгіх спрэчак з некаторымі працаўнікамі ЦСПСБ пункт аб правядзеньні праверкі самакрытыкі быў у красавіку ўнесены ў плян работы ЦСПСБ, але без паказаньня тэрміну і потым вяліся бясконцыя спрэчкі аб тым, які сэктар павінен праводзіць гэтую праверку, які сэктар павінен „ведаць самакрытыкай". Спрэчкі яшчэ да гэтага часу ня вырашаны.

У студзені 1930 г. адзін з пішучых гэтыя радкі склаў дакладную запіску з указаньнем раду буйнейшых недахопаў у рабоце прэзыдыуму ЦСПСБ і прапановамі аб іх зьнішчэньні і ўнёс гэтае пытаньне на абмеркаваньне фракцыі ЦСПСБ. Гэтае пытаньне яшчэ не разгледжана, прычым цікава, што зьняцьце гэтага пытаньня паасобныя кіраўнічыя працаўнікі ЦСПСБ матывавалі тым, што яно ўнесена ня членамі прэзыдыуму. Выходзіць, што ня член прэзыдыуму ня можа крытыкаваць работу прэзыдыуму ЦСПСБ, ня можа ўносіць свае прапановы аб паляпшэньні работы.

Газэты („Зьвязда", „Труд") ня раз зьмяшчалі артыкулы, крытыкуючыя работу ЦСПСБ. Трэба адзначыць, што гэтая крытыка нязьменна застаецца без разгляду і адказу. Газэты пісісваюць, а ЦСПСБ пачытвае.

### Вывады напрашваюцца самі сабой.

„Пры дачы ацэнкі работы паасобных прафарганізацый трэба выходзіць з таго, наколькі рашуча і выразна яна перабудавала сваю работу па ажыцьцяўленьні пастановы III пленуму УсеЦСПС". Гэтую пастанову VIII пленуму ЦСПСБ трэба ўжыць у першую чаргу да прэзыдыуму ЦСПСБ, які аказаўся няздольным змагацца рашуча і выразна супроць апартуністычных і бюракратычных элемэнтаў прафруху БССР. У выніку сапраўдная перабудова прафсаюзнай работы па-новаму адсутнічае. Патрэбных бальшавіцкіх тэмпаў у рабоце няма. Коснасьць, не-

паваротлівасьць, бюракратызм моцна ўкараніліся ў рабоце ЦСПСБ і прафсаюзных арганізацыях Беларусі. Сапраўднае кіраўніцтва падменьваецца патокам папер і засядацельскай суятой. Выразнасьць у рабоце і праверка выкананьня адсутнічаюць.

Прафсаюзы БССР яшчэ не змаглі пасапраўднаму стаць на чале працоўнага энтузіязму шырокіх мас рабочых (сацспаборніцтва, ударніцтва) і зрабіць прафсаюзную работу масаваю, прыцягваючы рабочых ударнікаў у якасьці добраахвотнікаў да актыўнае прафработы. Сапраўднай, дзейнай, бальшавіцкай самакрытыкі ў прафсаюзах БССР не адчуваецца. Ясныя і выразныя дырэктывы партыі і ЎсеЦСПС аб рабоце прафсаюзаў ня выкананы.

Падрыхтоўка да XIII зьезду КП(б)Б і да XVI зьезду ЎсеКП(б) павінна прыцягнуць увагу ўсяе КП(б)Б да становішча прафсаюзаў, да патрэбнасьці дабіцца сапраўднага правязеньня ў жыцьцё дырэктыў партыі.

Перавыбары прафорганаў, надыходзячы зьезд прафсаюзаў БССР павінны прайсьці пад знакам разгортваньня самакрытыкі і выяўленьня *ўсіх* недахопаў у рабоце прафсаюзаў. Уся маса членаў прафсаюзаў, у першую голаву рабочыя-ўдарнікі павінны быць мабілізаваны на перабудову работы ўсіх зьвеньняў прафсаюзаў, на рашучы паварот іх тварам да вытворчасьці і, як вывад з гэтага, прафсаюзы павінны быць вызвалены ад тых кіраўнікоў, якія аказаліся няздольнымі на справе праводзіць генэральную лінію партыі ў прафсаюзах, стаць на чале руху рабочых мас, будуючых сацыялізм. Прафсаюзы павінны быць перабудаваны і пад няўхільным кіраўніцтвам партыі яны будуць перабудаваны.

М. Шапіра,

С. Вашкевіч.

---

**Цяперашні рэконструкцыйны пэрыяд соцыялістычнага будаўніцтва, зьвязаны з наступам соцыялізму на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту, адзначаецца ад папярэдніх пэрыядаў тым, што ён высоўвае задачу рашучай перабудовы работы ўсіх масавых організацый пралетарыята і ў асаблівасьці прафсаюзаў, як найбольш масавых організацый, якія абхопліваюць усю рабочую клясу. („Задачы прафсаюзаў у рэконструкцыйны пэрыяд“. Тэзісы тав. Швэрніка да XVI зьезду ЎсеКП(б).**

# ПА ПАРТЫЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯХ

## За лепшую пастаноўку партыйна-масавай работы

**Да вынікаў абсьледваньня 2-га Райкома Віцебскай акругі.**

Некалькі слоў да характарыстыкі 2-га раёну.

У Віцебскай прамысловай акрузе 2-гі раён па прамысловых прадпрыемствах і рабочаму складу займае асноўнае месца. У раёне знаходзяцца буйнейшыя прадпрыемствы і асноўная прамысловасьць, як-та: буйнейшы чыгуначны вучастак і майстэрні з лікам звыш 2500 чал. рабочых; сельска-гаспадарчае машынабудаўніцтва; кравецкая і абутковая прамысловасьць, акулярная фабрыка і г. д. У раёне налічваецца па прамысловых прадпрыемствах 9.500 чал. рабочых.

З 3-х раёнаў, якія ёсьць у г. Віцебску і з 10-ці раёнаў у акрузе, удзельная вага 2-га раёну па прадпрыемствах рэспубліканскага значаньня займае 33,3 проц. усіх прадпрыемстваў у акрузе і 50 проц. у горадзе; склад рабочых—47 проц. усіх рабочых у акрузе і 52 проц. у горадзе; па партскладу — 44,1 проц. акруговай і 58,4 проц. гарадзкой арганізацыі.

Усё гэта характарызуе 2-гі раён, як буйнейшы прамысловы і пролетарскі цэнтр ня толькі ў Віцебскай акрузе, але і ў БССР.

Адсюль трэба лічыць, што 2-гі раён мае вялікае палітычнае і гаспадарчае значэньне.

За апошні пэрыод у раёне ёсьць значны гаспадарчы рост. Валавая продукцыя за 1928-29 г. у параўнаньні з 1927-28 г. вырасла на 181 проц. (з 18 мільён. да 33 млн. руб.). За апошнія паўтары гады склад рабочых павялічыўся на 87 проц., а па паасобных прадпрыемствах павялічыўся ў 4 разы (абутковая), у два і тры разы і г. д. Ёсьць значнае пашырэньне прадпрыемств, праведзена тэхнічнае пераабсталяваньне, пабудованы новыя прадпрыемствы новай вытворчасьці.

Усё гэта мела ўплыў на ажыўленьне палітычнага і гаспадарчага жыцьця раёну і на ўзьняцьце актыўнасьці рабочых мас. З 29 парт'ячэяк, якія ёсьць у раёне—26 парт'ячэяк вытворчыя.

Адсюль асноўная задача парторганізацыі, — гэта гаспадарчае будаўніцтва і партыйна-масавая работа, палітычная работа і культурна-бытавое абслугоўваньне рабочых.

Параўнаўча з мінулымі гадамі, бязумоўна, у 2-ім раёне ёсьць посьпехі ў партрабоце. Раённая парторганізацыя ў асноўным здаровая; за апошні час ёсьць здаровы рост за лік старых кадраў рабочых. Партарганізацыя вядзе рашучую барацьбу за правядзеньне генэральнай лініі партыі, узрос яе аўторытэт і значна павялічылася актыўнасьць рабочых вакол правядзеньня партыйных мерапрыемстваў.

Адзначаючы гэтыя станоўчыя бакі, трэба з усёю рашучасьцю падкрэсьліць значныя недахопы, якія ёсьць у рабоце райпарторганізацыі.

У аснове гэтых недахопаў ёсьць тое, што парторганізацыя, пры наліччы вялікай актыўнасьці рабочых мас, ня здолела скарыстаць гэтую актыўнасьць, не перабудавала сваёй работы, прыстасаваўшы да вырасшай актыўнасьці рабочых і патрэбнасьці перабудовы мэтадаў у рабоце.

Пытаньні гаспадарчага будаўніцтва і выкананьня прамфінпляну ёсьць важнейшая задача дню. Якое-ж маецца выкананьне прамфінпляну і вытворчых праграм—гэтай важнейшай задачы ў раёне?

Неабходна адзначыць, што ў рабоце па выкананьню прамфінпляну ёсьць шэраг сур'ёзных недахопаў і вынік гэтага выкананьня—нездавальняючы.

ЦК па дакладу 2-га Райкома павінен быў канстатаваць, што

„у аснове гэтых недахопаў ёсьць тое, што парткіраўніцтва не забясьпечыла пасьяховага выкананьня прамфінпляну, ня сумела мобілізаваць і накіраваць маючуюся рабочую актыўнасьць на выкананьне колькасных і якасных паказальнікаў прамфінпляну".

Вынікі выкананьня прамфінпляну па колькасных паказальніках відаць з наступных лічбаў:

За опэрацыйны 1928-29 г. прамфінплян па раёну недавыканан на 2,7 проц. За першую палову 29-30 г. недавыканана 4 проц. і за 1 квартал ня выканана на 8,8 проц.

Гэта недавыкананьне ў асноўным ідзе за лік буйнейшых прадпрыемстваў рэспубліканскага значэньня і па мясцовай прамысловасьці. Напрыклад,—акулярная фабрыка за палову 29-30 г. недавыканала 13,4 проц. і за 1 квартал—23,9 проц., па прадпрыемствах „Чырвоны Мэталіст" за палову года—13,4 проц. і за 1 квартал—21,6 проц. і па працкалектыву анучнікаў недавыканана на 41 проц.

На чыгуначным вучастку МББ, гэтым важнейшым і буйнейшым прадпрыемстве ў раёне, замест устаноўленых НКПС 9 проц. хворых паравозаў, у лістападзе 1929 году было — 30 проц. і ў сакавіку 1930 г.—18 проц. *Кошт па бягучым рамонту паравозу ўстаноўлены 587 руб., а фактычна трацiцца да 1050 руб. Замест затраты 800 чал.-гадзін, фактычна траціцца да 2960 чал.-гадзін.*

*Якасныя паказальнікі прамфінпляну не паляпшаюцца, але значна пагаршаюцца.*

Зьніжэньне сабекошту на буйнейшых прадпрыемствах мае вялікае недавыкананьне. Завод „Чырвоны Мэталіст" за пяць месяцаў недавыканаў на 9,97 проц. (заданьне — 13,14 проц., а выканана — 3,17 проц.), акулярная фабрыка недавыканала 10,97 проц. (заданьне—20,53 проц., а выканана—9,56 проц.).

Па вытворчасьці працы і зарплаце ёсьць вялікае недавыкананьне, і перавышэньне па заработнай плаце. „Чырвоны Мэталіст" па працы недавыканаў — 25,6 проц., а па зарплаце перавысіў на 5,8 проц.; на акулярай фабрыцы недавыканана па працы 25,6 проц. і недавыканана па зарплаце—2,6 проц.

Брак мае тэндэнцыю да павялічэньня і ў некаторых выпадках дасягае да вялізарных памераў. Па абутковай фабрыцы ў 1 кварт. 1929-30 г. брак складаў—1,35 проц. а за студзень і люты месяцы дайшоў да 7,99 проц.; на швэйнай ф-цы брак павялічыўся ў 2 разы.

Па прагулах таксама ёсьць павялічэньне. На акулярнай фабрыцы ў 1 кварт. 1928-29 г. прагулы складалі 3,65 проц., а за 1 кварт. 1929-30 г. — 5,52 проц. Ня гледзячы на тое, што ў прагулах удзельнічаюць партыйцы і комсамольцы, спэцыяльнага вучоту іх не вядзецца і партарганізацыі гэтым пытаньнем не займаюцца.

Ёсьць рост адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў. За 1928 29 г. па акулярный фабрыцы перавыдаткавана 7,7 проц. і на абуткавай—на 10,2 проц. Некаторыя прадпрыемствы наогул ня маюць ніякіх паказаньняў аб зьніжэньні адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў. Гэтымі пытаньнямі ў раёне не займаліся.

Якое-ж было парткіраўніцтва ў рабоце па выкананьні прамфінпляну? Бясспрэчна, што ў параўнаньні з мінулым, парторганізацыя больш займалася гаспадарчымі пытаньнямі і прамфінплянам. Аднак якасны бок не адпавядае колькасьці разглядаемых пытаньняў.

Замест усебаковага і глыбокага вырашэньня пытаньняў—быў павярхоўны падыход. Многа пасяджэньняў, рашэньняў і дырэктыў, а вынікі колькаснага ў I квартале і якаснага ў II квартале выкананьня нездавальняючыя, якое пагражае зрывам прамфінпляну. Дырэктывы, якія даваліся, у большасьці не правяраліся і ня было кантролю за іх выкананьнем. У шэрагу выпадкаў, асабліва заводзкія організацыі, забывалі пра свае рашэньні і пры ўзьнікненьні таго або іншага пытаньня зноў вырашалі, дублiравалі свае старыя пастановы.

Адсутнічала плянамерная і дасканалая работа ў выкананьні прамфінпляну. Замест таго, каб заняцца асноўнымі і важнейшымі пытаньнямі, у большасьці займаліся менш важнымі і кампанійскім парадкам. Парторганізацыі амаль ня вызначылі асноўнага і не мобілізавалі партыйную і рабочую грамадзкасьць. Парторганізацыя ня сумела ўзяць у грамадзкай рабоце асноўнае зьвяно, ад якога залежыць посьпех усёй работы.

У раёне па партыйнай і профэсіянальнай лініі ня быў прапрацован лёзунг „5-цігодку ў чатыры гады“. За 1928-29 г. ня былі падведзены вынікі станоўчых і адмоўных бакоў выкананьня прамфінпляну. З боку Райкому ня было імкненьня падагуліць прамфінплян па раёну, прапрацаваць яго, каб знаць у асноўных яго частках па раёну і па прадпрыемствах і на аснове гэтага даць дырэктыву аб прапрацоўцы прамфінплянаў па прадпрыемствах.

У выніку гэтага з боку РК замест конкрэтнага—агульнае кіраўніцтва, праверкай якаснага боку выкананьня прамфінпляну—не займаліся...

З боку партколектываў і заводзкіх ячэяк і парторганізацый прапрацоўка прамфінпляну была агульная, без вызначэньня конкрэтных задач па важнейшых частках, якасных паказальніках і г. д.

Цэхячэйкі зусім не абмяркоўвалі і не прапрацоўвалі прамфінплянаў і вытворчых програм цэху, бо прамфінпляны да цэху не дайшлі.

Аднаначальле ў раёне слаба праводзіцца. Усё яшчэ заўважаецца з боку адміністрацыйна - тэхнічнага пэрсоналу спробы зьняць з сябе адказнасьць за выкананьне прамфінпляну і схавацца за грамадзкія організацыя. З боку партыйнай і профорганізацыі таксама ёсьць ня зусім правільнае ўяўленьне аднаначальля, і яны бяруць на сябе опэрацыйныя функцыі.

У некаторых выпадках наглядаецца празьмернае адміністраваньне. *Напрыклад, на заводзе „Чырвоны Мэталіст“ за год было 543 вымовы рабочым, а на МББ за 4 мес. 600 вымоў.* Такое становішча прайшло міма партыйнай і профэсіянальнай організацый і ні па адным больш значным прыкладу ня было зроблена грамадзкага ўзьдзейнічаньня ў выглядзе таварыскага суду і г. д.

Гэтыя зьявы вельмі дрэнна адбіваліся на ўсёй рабоце. Адсутнічаньне выхаваўчай работы і прымяненьне рэпрэсыі не ў выхаваўчых мэтах, а толькі ў рэпрэсыўных.

Парторганізацыя з-за нячоткасьці работы самацёку ў I кварт., імкненьня ўхіліцца за об'ектыўныя прычыны, не магла своечасова сыгналіваць прарыў у I квартале ў выкананьні прамфінпляну, і гэты сыгнал быў дадзен Ц. Органам „Правда“ і „Віцебскі Пролетары“.

У II квартале парторганізацыя значна падцягнулася і дасягла большых вынікаў, аднак яна не магла пакрыць вялікі прарыў у I квартале (8,8 проц.). Вось чаму трэба ў III квартале значна падцягнуцца, каб выканаць програму III кварталу і пакрыць недавыкананьне 4 проц. за першае паўгодзьдзе.

У выкананьні прамфінпляну ў III і IV кварт. трэба асабліва зьвярнуць увагу колькасных паказальнікаў.

Ні ў якім разе нельга дапусьціць такія настроі, каб прамфінплян выканаць колькасна, хоць-бы за лік якасьці, і гэтым лічыць, што плян будзе выкананым.

Прамфінплян можна лічыць выкананым толькі ва ўсім абхваце, як па колькасных, так і па якасных паказальніках.

Вось чаму ЦК пастанавіў:

> „Адзначаючы значны прарыў у выкананьні прамфінпляну і ўлічваючы вялікае значэньне прамысловасьці 2-га раёну, Бюро ЦК даручае 2-му Р.К. і райпарторганізацыі прыняць больш рашучыя меры да выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну, каб у 3-ім квартале была поўнасьцю выканана програма і пакрыта недавыкананьне за першае паўгодзьдзе“.

Асабліва востра стаіць пытаньне з інжынэрна-тэхнічным пэрсоналам. Швэйная і абутковая прамысловасьць ня мае ніводнага інжынэра. Па ўсім 2-ім раёне ёсьць толькі тры інжынэры і 20 тэхнікаў.

Пасьпяховае выкананьне прамфінпляну вымагае самага шырокага і актыўнага ўдзелу рабочых мас. Забясьпечыць гэты актыўны ўдзел ёсьць задача партыйных і профэсіянальных організацый.

Посьпехі ў 2-м раёне па ўцягненьню і забесьпячэньню ўдзелу шырокіх рабочых мас у рабоце прадпрыемстваў нязначныя, а ў некаторых выпадках—адмоўныя.

Вытворчыя нарады, у той час, калі меўся зрыў у I-м квартале і значнае недавыкананьне прамфінпляну за паўгодзьдзе, у некаторых выпадках бязьдзейнічалі. Завод „Чырвоны Мэталіст“ - акулярная фабрыка за пяць месяцаў вытворчыя нарады склікалі па два разы. Наведваньне рабочымі вытворчых нарад даходзіць да мізэрнай колькасьці. Прапановы рабочых праводзяцца ў жыцьцё слаба. На акулярнай фабрыцы з пры-

нятых прапаноў—не праведзена ў жыцьцё 82 проц. і па МББ 60 проц. На абутковай фабрыцы адсутнічаюць вучотныя картачкі аб прапановах рабочых і як гэтыя прапановы праводзяцца ў жыцьцё.

Інформацыі аб рэалізацыі рабочых прапаноў няма.

Хаця справа рацыяналізацыі для рабочага вынаходзтва ёсьць шырокае поле дзейнасьці, гэта справа праводзіцца слаба і ёй не аддаюць дастатковай увагі.

На вытворчасьці ёсьць вялікія патрэбы ў тэхнічных удасканаленьнях і рацыяналізатарскіх мерапрыемствах. Аднак інжынэрна-тэхнічны пэрсонал і старыя вытворчыя рабочыя слаба ўцягнуты ў гэтую работу.

Фонды, якія маюцца па прэміраваньню, ня ўсюды скарыстоўваюцца. На швэйнай фабрыцы № 1 з маючага 11 тысяч руб. фонду, скарыстана 10 тыс. руб. Некаторыя прадпрыемствы ня ведаюць свайго фонду і нічога ня робяць у галіне прэміраваньня.

*Ёсьць шэраг выпадкаў, што партыйцы („Чырвоны Мэталіст") ідуць супроць рацыяналізацыі і цэхавыя ячэйкі прымірэнчаскі адносяцца да гэтага.*

У адным цэху, дзе вельмі трэба было правясьці рацыяналізатарскія мерапрыемствы і зьніжэньне расцэнак, была вынесена пастанова цэхавай парт'ячэйкі, аднак партыйцы, каб сарваць гэта, ня прышлі на вытворчую нараду.

*Гэтыя адсталыя, праваапортуністычныя настроі і дзеі не заўсёды мелі рашучы адпор і не заўсёды была мобілізавана партыйная і рабочая грамадзкасьць супроць падобных рэчаў.*

Соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам колькасна ахоплена 45 проц. рабочых. Ня гледзячы на актыўнасьць рабочых мас вакол соцспаборніцтва і ўдарніцтва, шэрагу выпадкаў добраахвотнага зьніжэньня расцэнак, гэты від работы праходзіць слаба. Перш усяго няпоўны ўдзел ва ўдарніцтве партыйцаў і комсамольцаў. Па дадзеным РК ва ўдарніцтве партыйцы ахоплены 50 проц. і комсамольцы 66 проц. У сапраўднасьці-ж значна менш; так на МЗБ партыйцаў ва ўдарніцтве 38 проц. і комсамольцаў 47 проц. У шэрагу выпадкаў партыйцы і комсамольцы ня толькі ня прымаюць удзелу, але дэмонстрацыйна адмаўляліся ўваходзіць ва ўдарныя групы і супроцьдзейнічаюць організацыі брыгад („Чырвоны Мэталіст", МББ і інш.).

Некалькі фактаў у пацьверджаньне гэтага становішча. На швэйнай фабрыцы № 1, кандыдат партыі на акруговай конфэрэнцыі ўдарнікаў, зрабіла пачын добраахвотнага зьніжэньня расцэнак на 15 р. у месяц, а пасьля праз друк выклікала іншых партыйцаў пасьледаваць яе прыкладу. Ня гледзячы на тое, што на фабрыцы гэты пачын амаль быў першы, ён з боку партколектыву і цэхавай ячэйкі ня толькі ня быў падхвачаны, а, наадварот, пры пасыўным удзеле з боку беспартыйных і партыйцаў пачалося цкаваньне, называючы яе ўчынак „падхалімажам", „хоча портфэлю" і г. д. У выніку яе абвінавацілі за гэту спробу склочніцай, вынесьлі партыйнае спагнаньне, давялі чалавека амаль да самагубства.

Гэтай важнейшай справе не далі ходу.

*Другі факт.* У працколектыве анучнікаў адна работніца напісала заметку з заклікам да організацыі ўдарніцтва і соцспаборніцтва, дык рэдактар насьценнай газэты, ён-жа старшыня Ф.З.К. (цікавае здарэньне), затрымаў гэту заметку і ў паштовай скрынцы адказалі, што заметка не па сутнасьці, у той час, калі ўдарніцтва і соцспаборніцтва на прадпрыемстве не адчувалася.

*Трэці факт.* На тутунёвай фабрыцы адзін стол абвясьціў сябе ўдарным і значна павысіў вытворчасьць. Па суседзтву пачалі гэтаму супроцьдзейнічаць, аж да псаваньня продукцыі. Пачалася сварка і непарадкі. Фабрычная організацыя і адміністрацыя ведала аб гэтым, але захадаў ніякіх ня прымала. Калі справа дайшла ў таварыскі суд, дык ён кваліфікаваў гэта як звычайную сварку і наклаў штрафы ў карысьць МОПР'а па 3 і 5 руб.

Ёсьць шэраг іншых падобных выпадкаў. Дзякуючы слабай організаванасьці, ня поўнаму ўдзелу партыйцаў і комсамольцаў, слабасьці партыйнага кіраўніцтва і работы профсаюзаў, не заўсёды падтрымлівалася ініцыятыва рабочых, у разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Так, з-за дрэннай організацыі, калі прадпрыемствы ахаплялі ўсяго да

20—30 проц. рабочых ва ўдарніцтве, была праведзена работа па абвяшчэньню прадпрыемств ударнымі. Пасьля гэтага працэс вытворчасьці пагаршаецца і ў выніку чаго з двух буйнейшых прадпрыемстваў („Чырвоны Мэталіст" і акулярная фабрыка) мясцовай грамадзкасьцю зьнімаецца ўдарніцтва, і яны заносяцца на чорную дошку, а два другія („абутковая" і „швэйная" фабрыкі) стаяць кандыдатамі на зьняцьце.

У выніку ўсяго гэтага соцспаборніцтва і ўдарніцтва з-за слабага кіраўніцтва, кампанійскага і шаблённага падыходу, бюрократычных адносін з боку адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсоналу і профсаюзаў, прыняла парадную рэзолюцыйную форму, упусьціўшы якасьць.

> Вось чаму ЦК даў цьвёрдую дырэктыву па гэтым пытаньні, каб „прыняць рашучыя меры да поўнага ўдзелу партыйцаў і комсамольцаў у соцспаборніцтве і ўдарніцтве, павясьці рашучую барацьбу супроць асобных комуністаў, якія перашкаджаюць праваздзеньню рацыяналізацыі, ідуць супроць добраахвотнага зьніжэньня расцэнак, шырэй разгарнуць справу рацыяналізацыі на прадпрыемствах, забясьпечыць масавую і пляномерную работу вытворчых нарад, поўнае і своечасовае правядзеньне ў жыцьцё прынятых рабочымі прапаноў і вынаходзтва, поўнае выкарыстаньне маючых фондаў прэміраваньня іх, масавага ўдзелу рабочых у выкананьні прамфінпляну.

*
* *

У рабоце профсаюзаў на прадпрыемствах яшчэ няма пераломуу тварам да вытворчасьці. Прыкладам гэтага можа быць работа пералічаных масавых організацый, якія зьвязаны з вытворчасьцю.

Асноўны недахоп профсаюзных організацый і парткіраўніцтва той, што яны не вялі дыфэрэнцыраванай работы з рабочымі ў той час, калі ёсьць вялікі прарыў у выкананьні прамфінпляну—адсутнічаньне спэцыяльнай работы з новымі рабочымі і старымі кадрамі, гэта значыць упусьціць важнейшую часьць масавай работы на прадпрыемствах.

Асноўным рабочым ядром на вытворчасьці зьяўляюцца старыя кваліфікаваныя рабочыя. У рабоце па выкананьню прамфінпляну, якасных паказальнікаў яго, правядзеньню рацыяналізацыі і г. д. ува ўсім гэтым трэба апірацца на старыя кадры,—ядро на вытворчасьці. У гэтай часьці ніякай спэцыяльнай работы не праводзілася.

Такое-ж становішча з уноў прыходзячымі рабочымі на вытворчасьць. Ня гледзячы на вялікі прыліў новых рабочых з вёскі і былых саматужнікаў, якія на першых часох уносяць ня мала непролетарскага, дробнабуржуазнага, маюць уплыў на працоўную дысцыпліну і г. д., сярод іх спэцыяльнай работы не вялося па хутчэйшаму перавыхаваньню ў пролетарскім кірунку.

У той час, як праводзілася кампанія па ўцягненьню ў грамадзкую работу і набліжэньню лепшай часткі інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу да соцыялістычнага будаўніцтва, у раёне гэты від работы не адчуваецца.

> Інжынэрна-тэхнічны пэрсонал ня ўцягнуты ў грамадзкую работу, у соцспаборніцтва, ударніцтва, правядзеньне рацыяналізацыі і тэхнічнага ўдасканаленьня, ня ўцягнуты ў работу па перадачы рабочым тэхнічных ведаў.

За апошні час у раёне ёсьць некаторыя посьпехі ў рабоце па вылучэньню рабочых. На розныя савецкія, гаспадарчыя і адміністрацыйныя работы—паслана 277 чал. Ёсьць палепшаньне ў адборы і падрыхтоўцы вылучэнцаў.

Слабае месца ў вылучэньні тое, што работніцы і беспартыйныя рабочыя займаюць вельмі малы процант у ліку вылучаных. Пры наліччы да 30 проц. работніц у раёне, у вылучэньні яны займаюць толькі 10 проц. Колькі беспартыйных рабочых пасылаецца, гэтых вестак няма нават у РК. Па МББ з 81 чал. вылучаных ёсьць толькі 2 чал. беспартыйных рабочых.

Работы па шэфству над савецкімі ўстановамі ў раёне ня было. Ні РК, ні партколектывы гэтым пытаньнем не займаліся. У апошні час ёсьць два выпадкі шэфства, але яны праведзены бяз масавага ўдзелу рабочых. Характэрны наступны факт.

> На заводзе „Чырвоны Мэталіст" ускладзена шэфства над ЦРК. Аб гэтым заводзкія організацыі даведаліся толькі праз прадстаўніка мясцовага друку, які прышоў за вынікамі шэфства.

Нельга сказаць, што ў раёне ёсьць выстарчальнае разьвіцьцё самакрытыкі. Прыкладам гэтага можа быць тое, што

пры выстарчальным разьвіцьці самакрытыкі ня было-б столькі дрэнных вынікаў выкананьня прамфінпляну, шэрагу правалаў у рабоце, на гаспадарчай, профэсыянальнай і комсамольскай, шкодніцтва на МББ і слабае парткіраўніцтва гэтай работай. Самакрытыка ў раёне не атрымала дастатковага разьвіцьця і ня стала той бальшавіцкай зброяй, якая садзейнічае выкананьню прамфінпляну, палепшаньню пастаноўкі партыйна-масавай работы і барацьбы з недахопамі.

У раёне было шэраг выпадкаў грубага зажыму самакрытыкі, з якімі па партлініі і асабліва пры чыстцы, вялася барацьба, але не заўсёды дастаткова. Праявы грубага зажыму самакрытыкі ў далейшым усё памяншаюцца. Замест грубага зажыму самакрытыкі перайшлі на скрытую форму, з так званай „дымавой завесай". Гэты від у раёне мае шырокае распаўсюджваньне і з гэтым відам зажыму не праводзіцца дастатковай барацьбы.

Некалькі фактаў аб грубай і адкрытай форме зажыму самакрытыкі.

На „Швэйнай фабрыцы № 1", беспартыйны рабкор Кліонскі, які праводзіў вялікую грамадзкую і рабкораўскую работу, які выяўляў недахопы работы ўстаноў, прадпрыемстваў, організацый і асоб,—быў абвінавачаны за тое, што ён 10 год таму назад не разьлічыўся з 25-ю р. грамадзкіх грошай і па сямейных справах завадзкімі організацыямі быў выключаны з ліку рабкораў і абвінавачаны ў няпэўнасьці („неблагонадежности"). За гэта яго перавялі на чорную работу, хаця ён зьяўляецца добрым спэцыялістым—закройшчыкам. Гэтай справай зацікавілася РКК, і яго аднавіла.

Член РК КП(б)Б, ён-жа старшыня былога РК мэталістых, калі была напісана заметка аб непарадках і дрэннай рабоце РК саюзу, пачаў компрамэнтаваць сярод рабочых рабкора, які пісаў гэтую заметку. За гэта быў выключаны з складу РК КП(б)Б, зьнят з работы, аднак вызначаная камісія па гэтай справе да гэтага часу работы ня скончыла і магчыма ня думае канчаць.

На акулярнай фабрыцы рабкоры не падпісваюць сваіх прозьвішчаў, заяўляючы, што яны баяцца прасьледваньня.

Пры абсьледваньні прышлося сустрэцца з пагалоўнай зьявай, калі з друкам ня лічацца, яго ігнаруюць, на заметкі не адказваюць і на даволі важныя пытаньні ніхто не зьвяртае ўвагі.

Ня гледзячы на такія дрэнныя адносіны да друку, партыйныя і профорганізацыі гэтай справай не займаліся, ня было выпадку, каб хто-небудзь быў прыцягнуты да адказнасьці за ігнараваньне друку і каб навакол гэтай справы была створана грамадзкая думка.

У заключэньне неабходна сказаць, што ў рабоце РК і райпарторганізацыі 2-га раёну патрэбны рашучы пералом і перабудова. Ня можа быць правільнай і пасьпяховай работа, калі парторганізацыя не вырашае на кожным пэрыодзе важнейшыя пытаньні і калі ўся партыйная і рабочая грамадзкасьць ня будзе мобілізавана на гэтым. Мала гаварыць аб выкананьні прамфінпляну, трэба гэтае выкананьне падзяліць па частках і адсюль вызначыць асноўнае, ад якога залежыць пасьпяховасьць усёй работы.

Мала весьці работу сярод рабочых, трэба выдзяліць асноўнае, напрыклад, старыя кадры і новыя рабочыя, каб у залежнасьці ад таго, дзе найбольш важна з пункту гледжаньня гаспадарчай і масавай работы, атрымаць рашучыя вынікі і г. д.

Немагчыма кіраваць масай, калі партыйцы і комсамольцы цягнуцца ў хвасьце беспартыйных. (Соцспаборніцтва і ўдарніцтва). Немагчыма праводзіць пасьпяховую гаспадарчую і масавую работу, калі партыйцы ідуць супроць рацыяналізацыі, не заўсёды падтрымліваюць здаровы пачын рабочых і г. д.

*Ня можа быць правільнай работы, калі ў ёй адсутнічае дасканаласьць, яснасьць і пляномернасьць. Своечасова даць правільную і дасканалую дырэктыву і ўмець яе правясьці да канца, паказаць і ўпэўніць на прыкладзе, як парторганізацыі могуць дабіцца тых або іншых вынікаў. Умець правільна кіраваць масай і даваць ёй, з свайго боку, прыклады лепшай і больш організаванай работы.*

На гэтым у асноўным трэба будзе сконцэнтраваць усю ўвагу 2-й райпарторганізацыі ў яе далейшай рабоце па выкананьню пастановы ЦК аб гаспадарчай і масавай рабоце.

**Рэвінскі.**

# Аб недахопах і прарывах

*(Да характарыстыкі становішча Мазырскай партарганізацыі)*

Перш за ўсё даведка: 33 проц. усёй плошчы акругі занята балотамі, рэчкамі і вазёрамі, 44 проц.—лясамі. У той час, калі ў БССР у сельскай гаспадарцы занята 91,1 проц. насельніцтва, у Мазырскай акрузе сельскай гаспадаркай занята 92,7 проц., у прамысловасьці БССР занята ўсяго 1,3 проц. насельніцтва, а ў прамысловасьці Мазыршчыны ўсяго 0,7 проц.

Далей на 100 чал. па БССР прыходзіцца 40,7 проц. пісьменных, а ў Мазырскай акрузе толькі 30,7 проц.

Перш за ўсё, як Мазырскі АК здолеў мабілізаваць увагу мас вакол асноўных пытаньняў народнае гаспадаркі акругі. Такімі асноўнымі гаспадарчымі пытаньнямі ў Мазыршчыне зьяўляецца пытаньне жывёлагадоўлі і лесу. З жывёлагадоўляй мы маем такое становішча, што АК зусім не займаўся гэтай справай. За апошні год гэта пытаньне, як паасобнае пытаньне, не стаяла ў парадку дню ні Пленуму АК, ні бюро АК ні ў адпаведных іншых органах. Ня была мабілізавана ўвага гэтаму пытаньню з боку вясковых партарганізацый, сельсаветаў, РВК і г. д. Хаця мы за 1928-1929 г. і маем рост статка на 5,86 проц., але-ж, па першае, гэта зусім недастаткова, а па-другое, ці адпавядаюць сапраўднасьці гэтыя 5 проц.?, бо мы ведаем, што каля 20 проц. зямлі было захована, а колькі было захована скаціны ад вучоту. Можна лічыць, што і частка жывёлы была захована. У сувязі з контррэвалюцыйнай агітацыяй кулацтва, мы за апошні час маем значнае памяншэньне статка, якое ў агульным ліку раўняецца 25 проц. Такое памяншэньне статка мы маем таму, што партарганізацыя ня здолела мабілізаваць як належыць сяброў партыі, камсамольцаў, беднату, серадняцтва для належнага адпору агітацыі за зьнішчэньне статка. *Актыўнасьць мас ня была скарыстана для барацьбы за рост жывёлагадоўлі.* Мы нават ня мелі ніводнай справы супроць кулакоў за шкодніцкія дзеяньні ў справе жывёлагадоўлі.

Возьмем такое пытаньне як лясное. Вышэй мы адзначылі, што ў Мазырскай акрузе 44 проц. занята лясамі. І вось як у Мазырскай акрузе выконваюцца пляны лесазагатовак.

> У 1928-29 г. выканалі ўсяго 69 проц. пляну па загатоўцы і вывазцы дроў, а ў 1929-30 г. вывезьлі ўсяго 58 проц. неабходнай колькасьці куба-мэтраў дроў. Таксама ў 1929-30 г. На 1-IV—30 г. праграма па вывазцы лесаматар'ялаў выканана ўсяго на 52 проц.

Яшчэ горш абстаіць справа з выкананьнем экспортнай часткі вытворчай праграмы па лесазагатоўках. У 1928-29 г. выканалі 62,4 проц. пляну, а ў 1929-30 г. на 1-IV—30 г. выканалі прыблізна таксама 60 проц. пляну. Такое становішча з выкананьнем заданьня па лесазагатоўках трэба тлумачыць тым, што Мазырскі АК ня здолеў сканцэнтраваць неабходную ўвагу вакол выкананьня гэтых заданьняў. Для таго, каб апраўдаць невыкананьня заданьня па лесазагатоўках, спасылаюцца на тое, што зіма была дрэнная, дарогі ня было, што калектывізацыя „шкодзіла" і г. д. Але-ж усё гэта ня сур'ёзна. Факт, што мясцовыя партарганізацыі не зьвярнулі неабходнай увагі вакол выкананьня пляну лесазагатовак. Факт, што АК выкананьнем пляну лесазагатовак пачаў займацца ў канцы сьнежня месяца 1929 г. Факт, што не вазілі дроў і лесаматар'ялаў да таго часу, пакуль не зьявіўся сьнег і нават цэлы месяц быў загублен для возкі дроў і лесаматар'ялаў. Мне здаецца, што кожны можа зразумець, што невыкананьне экспортнай часткі вытворчай праграмы зьяўляецца вынікам выключна зусім недапушчальных адносін да гэтай справы. Экспортны плян лёгка мог быць выканан. Для гэтага трэба было толькі адно: зразумець палітычнае значэньне пляну лесазагатовак і дабіцца таго, каб масы беднаты, батрацтва, рабочых прымалі-б

актыўны ўдзел у выкананьні гэтага пляну. Такім чынам, мы бачым, што 2 асноўныя гаспадарчыя пытаньні ў Мазырскай акрузе прайшлі міма АК, ім ня было належнай увагі.

Хаця ў Мазырскай акрузе маецца толькі 5 буйных прадпрыемстваў, на якіх працуюць каля 2200 рабочых і 13 прадпрыемств з колькасьцю рабочых ад 50 да 10, усё-ж увага пытаньням выкананьня прамфінпляну на гэтых прадпрыемствах была зусім недастатковай.

5 буйных прадпрыемстваў непасрэдна зьвязаны з апрацоўкай лесу, на двух з гэтых прадпрыемствах „Чырвоная Зьвязда" і „Чырвоны Кастрычнік" выпрацоўваецца экспортная фанэра, а таксама для экспорту працуе яшчэ адно прадпрыемства „Прафінтэрн". Прамфінплян за першыя 5 месяцаў на буйнейшых прадпрыемствах ня выканан. Напрыклад, завод „Чырвоны Кастрычнік" за 5 месяцаў недавыпусьціў 10 з паловай проц. экспортнай фанэры, а нормы выдаткаў альбуміна і клеевых матар'ялаў перавышаны на 5,10 проц. Сабекошт зьніжан замест 1,5 проц на 10,5 проц., такія-ж факты маюцца і па іншых прадпрыемствах. Прагулы, замест таго каб зьнізіцца, павялічыліся.

Такое становішча на прадпрыемствах мы маем таму, што актыўнасьць рабочых была мобілізавана дрэнна,—прыкладам гэтаму зьяўляецца тое, што калі напачалі кампанію за ліквідацыю гэтых прарываў, мабілізавалі актыўнасьць рабочых, іх увагу да пытаньня выкананьня прамфінпляну на ўсе 100 проц., прарывы ліквідуюцца. Трэба наогул адзначыць, што ў Мазырскай акрузе мы маем значныя элемэнты недаацэнкі працы сярод рабочых, працы па арганізацыі рабочых. Замест таго, каб моцна арганізаваць гэтую нязначную пролетарскую праслойку Мазырскай акругі, на гэтую працу махаюць рукой; адносяцца да яе пасыўна, пацьвердзіць гэта можна тым, што кіраўніцтва прафсаюзамі з боку партарганізацыі вельмі слабое, амаль што ва ўсіх рабочых ячэйках за апошні год быў выкрыт шэраг хваравітых зьявішч, соцспаборніцтва было дрэнна разгорнута, працы ўдарных брыгад амаль што ня чуваць і г. д. Ня было неабходнай увагі з боку АК пытаньням мабілізацыі рабочых вакол выкананьня прамфінпляну, вакол замацаваньня становішча на прадпрыемствах.

Наступным пытаньнем, на якім нам трэба асабліва спыніцца, зьяўляецца справа калектывізацыі ў Мазырскай акрузе. У галіне калектывізацыі мы маем наступныя лічбы.

на 1-X—29 г. колгасы аб'ядналі 7,8 проц. двароў, на 1-I—30 г. колгасы аб'ядналі ўжо 34 проц. двароў, на 20-II—30 г. 82 проц. двароў былі калектывізаваны, а на 10-IV—30 г. у колгасах было 15 проц. двароў.

Аб чым сьведчаць гэтыя лічбы: паперршае, з гэтых лічбаў відаць, што Мазырская арганізацыя ў асноўным сваячасова стала на чале масавага руху бядняцка-серадняцкіх мас у колгасы. Хлусьнёй будзе сьцьвярджаць, што 34 проц. гаспадарак, якія ўвайшлі ў колгасы да 1-га студзеня 1930 г., былі загнаны ў колгасы адміністрацыйным націскам. Таксама ня будзе адпавядаць сапраўднасьці думка аб тым, што ўсе 48 проц. гаспадарак, якія ўвайшлі ў колгасы ў пэрыод з 1-га студзеня да 20-га лютага, таксама былі загнаны туды палкай. Аднак 15 проц. гаспадарак, якія аб'яднаны ў колгасы зараз, сьведчаць аб буйнейшых памылках ва ўсёй працы па калектывізацыі з боку Мазырскай партарганізацыі і аб тым, што партарганізацыя, стаўшы сваячасова на чале масавага руху бедняцка-серадняцкіх мас у колгасы, ня здолела ажыцьцявіць поўнасьцю правільнае кіраўніцтва гэтым рухам. Гэтыя 15 проц. таксама сьведчаць і аб тым, што лічбы колектывізацыі былі ў значнай меры папяровыя і што арганізацыя ня здолела вясьці рашучую барацьбу з тымі перагібамі, якія былі. Асноўнымі памылкамі ў галіне колектывізацыі былі:

а) у шэрагу месц, асабліва пасьля раскулачваньня „закалектывізавалі" бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, шляхам адміністрацыйнага націску, нават было шмат фактаў арыштаў тых, якія яшчэ не жадалі пайсьці ў калгасы, шмат сераднякоў было раскулачана за нежаданьне ісьці ў колгасы, за выступленьне супроць калгасаў. Яскравы прыклад: Капаткевічскі Райком партыі 10-га лютага вынес такую пастанову: „Улічваючы, што на сёньняшні дзень колектывізавана ўсяго 87 проц бядняцка-серадняцкіх адзінапічных гаспадарак, лічыць неабходным абавязкова колектывізаваць ўсе 100 проц. гаспадарак не пазьней 20-га лютага".

Вось як праводзілася калектывізацыя. Калі схэматычна кажучы да 15-га студзеня колгасны рух у асноўным быў рухам добраахвотным, сапраўдна-масавым, дык пасьля 15-га студзеня ўсё больш узмацніліся элемэнты прымусу, адміністрацыйнага нажыму пры арганізацыі калгасаў.

Шкодным перагібам быў фактычны курс на арганізацыю камун; абагульвалі ўсё, у паасобных мясцох дайшлі да таго, што пачалі абагульваць фонды харчаваньня. Побач з перагібамі, адліву з колгасаў спрыяла тое, што не змаглі даць належнага адпору бязьлітаснай барацьбе кулацтва супроць колектывізацыі—якая ім была асабліва рашуча разгорнута, пасьля раскулачваньня. Не змаглі даць у шэрагу месцаў належнага адпору кулацтву таму, што бедната была слаба арганізавана, а серадняк быў моцна закранут перагібамі. Адліву з колгасаў спрыяла тое, і мы гэта асабліва падкрэсьліваем, што былі абагулены ўсе падсобныя заробкі. Селянін так і кажа: „Зіму прагаварылі, а зарабіць нічога не зарабілі“. Для правільнай ацэнкі значэньня такіх гутарак трэба ўлічыць і тое, што ў Мазырскай акрузе заробак на лесазагатоўках зьяўляецца вельмі важнай часткай бюджэту селяніна.

Перагібы ў адносінах да серадпякоў у справе колектывізацыі, адміністрацыйны нажым у асноўным выцякалі з няправільнай ўстаноўкі Мазырскага АК на неабходнасьць аб'яднаньня ў колгасы ўсіх 100 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак да вясны 1930 г. Мазырскі АК, *зрабіў памылку ў тым*, што, пачаўшы барацьбу супроць перагібаў яшчэ 15 лютага, ня здолеў дастаткова яе завастрыць рашуча і своечасова правесьці. Ён часта займаўся „ўгаварваньнем“, калі трэба было „рубіць“. Гэтыя памылкі Мазырскі АК прызнаў сваёй пастановай ад 10-IV—1930 г.

Артыкул тав. Сталіна „Головокружение от успехов“ быў вельмі своечасовым. У Мазырскай акрузе развал колгасаў пачаўся 10-га лютага; артыкул тав. Сталіна зьявіўся 3-га сакавіка. Вось яскравы прыклад хлусьлівых гутарак аб тым, што артыкул тав. Сталіна спрыяў развалу колгасаў. Трэба дадаць, што ў рэзалюцыі Калінкавіцкага раённага партыйнага сходу была адна фармуліроўка, якая гаварыла аб тым, што ў развале колгасаў быццам вінават і артыкул тав. Сталіна. Гэты сход частку адказнасьці за распад колгасаў узваліў на зусім правільныя дырэктывы партыі аб барацьбе з перагібамі. Гэтая фармуліроўка ім выпраўлена пасьля пастановы Мазырскай АК.

*Недахопы ў справе калектывізацыі, недастатковая рашучасьць у шэрагу мейсц у барацьбе з кулацтвам, а таксама тое, што ў шэрагу мейсц не маглі даць належнага адпору вылазкам клясава-варожых элемэнтаў, зьяўляецца вынікам таго, што праца з беднатой была пастаўлена вельмі слаба.* Мы маем шмат фактаў праваопортуністычнай недаацэнкі працы сярод беднаты і ігнараваньня дырэктывы партыі аб арганізацыі і кіраўніцтве батрацка-бядняцкімі групамі ў колгасах; напрыклад: ня было праведзена ніякай масавай працы пры правядзеньні раённых нарад беднаты ў сувязі з склікаеньнем Усебеларускай нарады беднаты. Пасьля Ўсебеларускай нарады таксама ня было праведзена ніякай растлумачальнай работы. У лепшым выпадку бедната „апрацоўвалася“ для тэй ці іншай кампаніі. Па лініі сельсаветаў і РВК, па лініі коопэрацыі, Камітэтаў Узаемадапамогі ніхто па сур'ёзнаму не займаўся працай сярод беднаты, Мазырскі АК не змагаўся з недаацэнкай працы сярод беднаты. Няма ніводнага выпадку бальшавіцкай пастаноўкі пытаньня барацьбы з опортуністычным скрыўленьнем лініі партыі ў галіне арганізацыі беднаты. Вынікам гэтага было тое, што бедната была недастаткова арганізавана і згуртавана для неабходнага адпору вылазкам клясава-варожых элемэнтаў. У шэрагу месц частка беднаты прымала актыўны ўдзел у развале колгасаў і аказвала дапамогу клясава-варожым элемэнтам у іх барацьбе супроць правядзеньня канкрэтных мерапрыемств па ліквідацыі кулацтва як клясы, якое наогул прайшло пры актыўным удзеле беднаты і перадавых груп серадняцтва, ня кажучы ўжо аб колгасьніках. Мы таксама павінны канстатаваць наяўнасьць у значнай частцы беднаты ў шэрагу месц антысерадняцкіх настрояў. У сувязі з тым, што працай сярод беднаты кіравалі дрэнна, мы мелі такое становішча, што часам ячэйкі не кіравалі беднатой, а штэмпэлявалі пастановы сходаў беднаты.

Мы ў Мазырскай акрузе таксама маем моцныя антысерадняцкія настроі. Пры правядзеньні хлеба і бульбазагатовак было шмат выпадкаў давядзеньня пляну загатовак да серадняцкага двара (Лельчыцкі, Капаткевіцк і Калінкавіцкі раёны). Пры раскулачваньн

закранулі шмат серадняkoў, па няпоўных зьвестках раскулачаны каля 250—300 серадняkoў і калі-б своечасова ня былі прыняты захады, дык раскулачылі-б у некалькі разоў больш. (Згодна пастаноў сходаў беднаты трэба было „раскулачыць" каля 1000 серадняцкіх гаспадарак). Дырэктыву аб забясьпечаньні моцнага батрацка-бядняцкага ядра ў кіруючых органах колгасаў і сельсаветаў „зразумелі" так, што ў шэрагу месц ня пусьцілі ніводнага серадняка ў праўленьні колгасаў, у Прэзыдыум сельсаветаў, а па асобных мясцох нават і ў сельсаветах.

Перагібы па правядзеньню калектывізацыі закранулі ў першую чаргу серадняка. Гэтыя антысерадняцкія настроі выцякаюць з недаацэнкі сіл клясавага ворага на вёсцы, апартуністыя ня бачылі ў шэрагу месц мяжы паміж кулаком і серадняком.

Слабая арганізаванасьць беднаты, наяўнасьць шэрагу перагібаў у адносінах да серадняка і тое, што ў шэрагу месц кулак быў палітычна недастаткова ізаляраван ад мас, сьведчыць аб тым, што Мазырская парторганізацыя ня здолела вырашыць як належыць пытаньня мобілізацыі і організацыі актыўнасьці бядняцка-серадняцкіх мас для социялістычнага будаўніцтва і для барацьбы з клясава-варожымі элемэнтамі на вёсцы. Слабая арганізаванасьць беднаты асабліва хваравіта адчувалася ў Мазырскай акрузе ў сувязі з тым, што пролетарская праслойка на Мазыршчыне слабая.

Недахопы ў справе арганізацыі мас таксама можна ілюстраваць тым як абслугоўваюцца нацменшасьці ў Мазыршчыне. Калі ўзяць польскае насельніцтва, нямецкае, украінскае і яўрэйскае, дык мы бачым, што абслугоўваньня ўсіх нацменшасьцяў, за выключэньнем яўрэйскага насельніцтва, на іх роднай мове амаль што ня было. Політычна-масавая выхаваўчая праца сярод нацменшасьцяў таксама амаль што не праводзілася.

Сярод польскага насельніцтва і нямецкага моцна адчуваюцца настроі адзінага нацыянальнага фронту. Слабая праца па арганізацыі беднаты прывяла да таго, што ў гэтых вёсках амаль што не адчуваецца клясавай дыфэрэнцыяцыі ў палітычным сэнсе гэтага слова: кулак, ксёндз, пастыр маюць сярод польскага і нямецкага насельніцтва *большы ўплыў чым у беларускай вёсцы.*

Нацпалітыка нашае партыі зусім недастаткова ажыцьцяўлялася ў Мазырскай акрузе. Так, беларусізацыя ў Мазырскай акрузе праведзена слаба, асабліва гэта адчуваецца ў прымежных раёнах. Спажывецкая каапэрацыя, сетка аховы здароўя, акруговы актыў вельмі мала скарыстоўвае белмову, расійскай-жа мовы чуваць больш чым беларускай. Гэта зьяўляецца вынікам недастатковай барацьбы з вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам і недастатковай актыўнасьці ў барацьбе за найбольш хуткі тэмп беларусізацыі. Шмат недахопаў маецца ў справе абслугоўваньня яўрэйскіх працоўных мас і беднаты ў мястэчках. Напрамак будаўніцтва мястэчак, які ў асноўным прадугледжваў арганізацыю арцеляў з дэфіцытнай сыравінай, зусім няправільны. Калгасы, якія былі арганізаваны для таго, каб уцягнуць яўрэйскія працоўныя масы ў працу па апрацоўцы зямлі, у значнай колькасьці камплектаваліся не з беднаты, а з клясава-варожых элемэнтаў.

Апартуністычнае скажэньне лініі партыі ў працы АЗЕТ, у працы па кіраўніцтву мястэчкамі прывялі да таго, што бедната не атрымала неабходнай падтрымкі і наогул не вялося ніякай працы сярод местачковай беднаты. Дрэннае кіраўніцтва яўрэйскай беднатою, слабая дапамога працоўным масам мястэчак, поўны распад АЗЕТу прывялі да таго, што ў Мазырскай акрузе мелі месца шматлікія вылазкі яўрэйскіх шовіністых, якія аказвалі энэргічнае супраціўленьне сацыялістычнаму будаўніцтву.

Хаця Мазырская арганізацыя вяла рашучую барацьбу з вылазкамі яўрэйскага шовінізму, аднак мала было зроблена для таго, каб замацаваць вынікі гэтай работы.

За $2^1/_2$ гады Мазырская партарганізацыя вырасла ўсяго на 513 чал. Рост зусім недапушчальны, ён сьведчыць аб недастатковай сувязі партарганізацыі з масамі. Тэмп вярбоўкі рабочых зусім недастатковы, процант рабочых ад варштату ў партарганізацыі за апошні год амаль што не павысіўся. Чыстка выявіла, што ў партарганізацыі маецца шэраг хваравітых зьявішч. З вясковых ячэек вычышчана 15 проц. Шэраг хваравітых зьявішч назіраецца таксама ў рабочых ячэйках як на заводзе „Зьвязда", „Чырвоны Кастрычнік" і амаль што ва ўсіх савецкіх ячэйках. Партыйнае кіраўніцтва

ячэйкамі гораду зусім нездавальняючае. Слабае кіраўніцтва з боку АК рабочымі ячэйкамі, недастатковая ўвага пытаньням арганізацыі беднаты, пытаньням барацьбы, з заціскам самакрытыкі прывялі да таго, што партарганізацыя ня здолела ў шэрагу месц даць неабходны адпор праявам ціску на яго клясава-варожых кулацкіх, нэпманаўскіх, мяшчанска-абывацельскіх і шовіністычных элемэнтаў, асабліва гэта адчувалася пры правядзеньні чысткі гарадзкой арганізацыі. Клясава-варожыя, мяшчанска-абывацельскія элементы, усе тыя, якія былі нездаволены чысткай, скарысталі паасобныя буйныя памылкі пры правядзеньні чысткі для таго, каб чыстку скапрэмэтаваць. Гэта ім у значнай меры ўдалося ў сувязі з тым што організацыя была недастаткова мабілізавана на барацьбу з клясавliving варожай крытыкай паасобных памылак, з барацьбой клясава-варожых сіл супроць партыі.

Прарывы, якія мелі месца за апошні год у працы савецкіх, рабочых і вясковых ячэек, у працы савецкіх устаноў, ЦРК, судовых устаноў, паколькі яны ня былі выкрыты сваячасова, сьведчаць аб тым, што самакрытыка ў Мазырскай арганізацыі была разгорнута зусім слаба, што масы недастаткова прыцягваліся да барацьбы са скрыўленьнямі клясавай лініі ў працы нашых устаноў, што рабочыя і бядняцкія масы прымалі недастатковы ўдзел у працы шэрагу ўстаноў. Гэта таксама сьведчыць і ад тым, што барацьба з правым ухілам і „левымі“ загібамі разгортвалася недастаткова рашуча.

Мазырская акруга, прымежная акруга, адсталая акруга, працаваць там вельмі цяжка. Мазырскай акрузе трэба сыстэматычна аказваць дапамогу з боку Цэнтральных устаноў, у першую чаргу трэба даць туды людзей-кадраў на сталую працу. На жаль, неабходнай увагі і неабходнай дапамогі Мазыршчына не атрымоўвала і з гэтым трэба нарэшце скончыць. Побач з узмацненьнем працы Мазырскае партарганізацыі па мабілізацыі *ўнутраных* рэсурсаў для соцыялістычнага будаўніцтва і па падрхтоўцы сваіх кадраў неабходна значна ўзмацніць дапамогу Мазыршчыне з боку цэнтральных устаноў.

Аналізуючы недахопы ў рабоце Мазырскай арганізацыі, мы бачым, што асноўным недахопам зьяўляецца тое, што Мазырская партарганізацыя дрэнна кіруе масамі, тымі масамі, якія праявілі вялізарнейшую актыўнасьць у справе будаўніцтва сацыялізму, у барацьбе з клясавымі ворагамі.

Рэзалюцыі, якія мы друкуем сёньня аб працы Мазырскае партарганізацыі, павінны быць выкананы. Трэба забясьпечыць сыстэматычны нагляд над іх сваячасовым ажыцьцяўленьнем.

А. Т.

# У БАРАЦЬБЕ ЗА ПРАМФІНПЛЯН

## За рашучы пералом у рабоце чыгункі

Калі ня лічыць 3-х Райкомаў па ўсёй Беларусі (залінейны Райком — Гомель, Кастрычнікаўскі Райком — Менск, 2-гі Райком—Віцебск), якія займаліся пытаньнямі кіраўніцтва чыгункі, усе апошнія Райкомы партыі, а галоўнае ўсе Акругкомы партыі амаль што ніяк ня цікавіліся пытаньнямі чыгункі і не кіравалі ёю. Яны ня цікавіліся, як выконваюцца асноўныя вытворчыя ізьмярыцелі, як чыгунка спраўляецца з тэрміновымі заданьнямі, як яна наогул выконвае свой прамфінплян.

Увага нашых парторганізацый пытаньням чыгункі яўна непрапорцыянальна ўдзельнай вазе чыгункі ў агульнай сыстэме соцыялістычнага будаўніцтва і значэньня чыгункі для ўзмацненьня абароназдольнасьці нашай краіны. Нашы парторганізацыі да гэтага часу не зрабілі ніякіх практычных вынікаў з паказаньня 15-га зьезду партыі аб тым, што працэс сацыялістычнай рэконструкцыі на чыгунцы адстае ад разгортваньня соцыялістычнай рэконструкцыі ў прамысловасьці. Напамінаньні Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) 29 году аб тым, што чыгунка зьяўляецца адным з самых „вузкіх“ месц нашай народнай гаспадаркі таксама ня выклікалі неабходнага водгуку ў працы нашых партыйных організацый у галіне палепшаньня кіраўніцтва чыгункаю.

Становішча на чыгунках Беларусі— цяжкае. Цэлы шэраг асноўных ізьмярыцеляў за першае паўгодзьдзе ня выканан. Дакладныя весткі мы маем аб тым, як выкананы ізьмярыцелі за першы квартал 1929-30 г. І вось што мы бачым: за першы квартал процант хворых паравозаў павялічыўся на МББ да 13,3 проц. супроць сярэдняга за верасень 1929 г.— 11,1 проц., а па Заходняй процант хворых паравозаў раўняўся 15 проц. супроць сярэдняга за 1929 г.—12,5 проц.—трэба ўлічыць, што становішча паравознага парка зьяўляецца адным з галоўнейшых паказальнікаў працы чыгуначных арганізацый. Сярэдні сутачны прабег паравозу ў таварным руху: было заданьне па МББ—167 кілём. у суткі, а выканана 162 кілём. ці 97 проц. заданьня. Па заходняй чыгунцы было заданьне 175 кілём., выканана 155 ці 88 проц. Паравоз на абточцы (рамонт) замест таго, каб стаяць на МББ 9 дзён, стаяў 13 дзён, а на заходняй таксама 13 дзён замест 8. Калі-ж узяць такі важны ізьмярыцель працы чыгункі, як выкананьне раскладу руху цягнікоў, то мы маем такі малюнак: Па МББ толькі 50 проц. цягнікоў, а па Заходнім 58 проц. цягнікоў ішло па раскладу. Ня будзем больш прыводзіць прыкладаў, і таго, што мы сказалі, дастаткова, каб прызнаць, што на чыгунцы ў нас маюцца значныя прарывы. Ёсьць і дасягненьні, але-ж асноўнае, што трэба падкрэсьліць, гэта тое, што чыгунка ня здолела поўнасьцю выканаць свой прамфінплян і што тэмп соцыялістычнай рэконструкцыі на чыгунцы ніяк ня можа нас задаволіць. Мы павінны зьвярнуць увагу партыйных організацый на пытаньні кіраўніцтва чыгункай, мы павінны дабіцца рашучага пералому працы чыгункі, інакш мы ставілі пад пагрозу пасьпяховае разгортваньне сацыялістычнага будаўніцтва.

Вышэй мы гаварылі аб вытворчых і эксплёатацыйных паказальніках працы чыгункі, ня лепш абстаіць справа і ў другіх галінах чыгункі, як, напрыклад, у справе працдысцыпліны і г. д. Трэба абавязкова прыпомніць прарывы на Аршанскім вузьле, Віцебскім вузьле і г. д. для таго, каб канчаткова пераканацца ў тым, што становішча на чыгунцы патрабуе карэнных зьмен.

Асноўнай задачай парторганізацыі на чыгунцы зьяўляецца забесьпячэньне *кіраўніцтва вытворчымі пытаньнямі чыгункі.* У гэтай галіне парторганізацыі павінны ў першую чаргу сконцэнтраваць увагу на тое, каб забясьпечыць абавязковае і поўнае выкананьне ўсіх ізьмярыцеляў вытворчых заданьняў, эксплёатацыйных ізьмярыцеляў на 1929-30 г. Пры расспрацоўцы мерапрыемств па забесьпячэньні выкананьня гэтых задач парторганізацыі павінны ўлічыць неабходнасьць ліквідацыі прарываў, якія мелі месца ў першым паўгодзьдзі. Парторганізацыі павінны таксама зараз жа ўзяцца за падрыхтоўку пляну соцыялістычнай рэконструкцыі чыгункі і яго разьвіцьця на 1930-31 г., улічваючы неабходнасьць забесьпячэньня ў 1930-31 г. значна большых тэмпаў росту, чым у 1929-30 г. Зараз-жа парторганізацыі таксама павінны ўзяцца за падрыхтоўку ўсіх мерапрыемстваў, якія-б забясьпечвалі правядзеньне перавозак у восені.

Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на становішча паравозаў, процант хворых паравозаў павінен быць зьменшан. Таксама павінен быць забясьпечан плянава папярэджваючы рэмонт. Пытаньне прастою вагонаў пад пагрузачна-выгрузачнымі опэрацыямі павінен увесь час стаяць у цэнтры ўвагі парторганізацыі.

Кідаецца ў вочы вялізарная цэнтралізацыя і бюрократызацыя ўсяго кіраўніцтва на чыгунцы. Мэтоды працы, сыстэма кіраўніцтва на чыгунцы за апошнія гады не перабудаваліся. Бюрократычны цэнтралізм нарадзіў безадказнасьць на чыгунцы. Прынцыпы адзінаначальля на чыгунцы парушаюцца часьцей усяго. Новае палажэньне аб сыстэме кіраўніцтва на чыгунцы карэнным чынам зьнішчае асноўны недахоп у сыстэме кіраўніцтва— бюрократычны цэнтралізм, безадказнасьць і раздробленасьць кіраўніцтва на мясцох. Уводзіцца адзінаначальле, ствараюцца гаспадарча-рахунковыя адзінкі—станцыя, як асноўнае зьвяно, і раённыя кіраўніцтвы. Кожная станцыя з дэпо, кожнае раённае кіраўніцтва будзе мець свой прамфінплян, яно будзе кіраваць усім апаратам адпаведнага зьвяна і яго рэсурсамі. Гэтая організацыя павінна была-б быць скончана да 1-га маю, але да гэтага часу яна ня скончана. Трэба падкрэсьліць, што нашы партыйныя організацыі ня прымалі актыўнага ўдзелу ў правядзеньні рэорганізацыі сыстэмы кіраўніцтва на чыгунцы. Усе нашы парторганізацыі павінны тэрмінова ўзяцца за кіраўніцтва пры правядзеньні гэтай рэорганізацыі. Можна прадугледзець цэлы шэраг цяжкасьцяй, зьвязаных з правядзеньнем карэннай ломкі ўсяго старага, будуць напэўна спробы запоўніць новыя формы старым зьместам, ці наогул затармазіць правядзеньне неабходных мерапрыемстваў у галіне рэорганізацыі. Парторганізацыі павінны дабіцца своечасовага зьнішчэньня, перамогі ўсіх гэтых цяжкасьцяй, бязьлітасна змагаючыся з усімі спробамі абараняць старыя, аджыўшыя мэтоды кіраўніцтва на чыгунцы.

Важнейшай задачай парторганізацыі ў галіне рэорганізацыі сыстэмы кіраўніцтва зьяўляецца забесьпячэньне актыўнага ўдзелу рабочых і іх непасрэднае працы ў правядзеньні гэтай рэорганізацыі. Партыйныя організацыі павінны дабіцца таго, каб усе рабочыя, усе працаўнікі чыгункі ведалі падрабязна аб мэтах рэорганізацыі і конкрэтных мерапрыемствах па іх ажыцьцяўленьні. Трэба забясьпечыць удзел рабочых у працы камісій па правядзеньню рэорганізацыі, пляны рэорганізацыі павінны быць распрацованы рабочымі.

Уся гэта рэорганізацыя не апраўдае сябе, праца транспарту ня будзе палепшана, калі мы не палепшым апарат чыгункі, калі мы не ўзмацнім кіруючых кадраў чыгункі. У апараце чыгункі маецца шмат клясава-варожых элемэнтаў. Трэба прызнаць, што барацьба партыйных організацыі, рабочых мас за палепшаньне апарату чыгункі была недастатковай. Гэтую барацьбу трэба значна ўзмацніць і ў першую чаргу трэба скарыстаць рэорганізацыю чыгункі, чыстку апарату чыгункі для таго, каб вычысьціць клясава-варожыя элемэнты. Парторганізацыі павінны сыстэматычна клапаціцца аб палепшаньні складу кіруючых кадраў. Трэба ўзмацніць пролетарскае ядро ў кіруючых кадрах на чыгунцы. Конкрэтна парторганізацыі павінны павялічыць вылучэньне рабочых на кіруючую працу на чыгунцы. Наогул трэба аздаравіць соцыяльны склад апарату чыгункі. Пытаньне людзкіх кадраў чы-

гункі павінна ўвесь час стаяць у цэнтры ўвагі партыйных організацый. Бяз посьпехаў у галіне палепшаньня асноўных людзкіх кадраў і іх больш правілоўага скарыстаньня немагчыма дабіцца рашучых посьпехаў у галіне соцыялістычнай рэконструкцыі чыгункі. Пры вырашэньні пытаньня аб узмацненьні чыгункі кіруючымі кадрамі і наогул аб падбору апарату чыгункі, трэба ўлічыць неабходнасьць як мага большага арабачэньня апарату чыгункі, так і забесьпячэньня неабходнага партыйнага асяродку ва ўсіх зьвеньнях апарату чыгункі.

Наступнай важнейшай задачай парторганізацый у галіне кіраўніцтва чыгункай зьяўляецца скарэйшае зьнішчэньне той адарванасьці, якая маецца паміж чыгункай і мясцовымі пролетарскімі організацыямі. Ня трэба захоўваць налічча шкодных элемэнтаў гэтай адарванасьці, элемэнтаў „само золяцыі“ організацый чыгункі ад мясцовых організацый. Вядомая „полоса отчуждения“ яшчэ ня зусім зьнішчана. „Мы“ і „яны“ ёсьць ва ўзаемаадносінах паміж працаўнікамі чыгункі і мясцовымі рабочымі. Трэба рашуча ўдарыць па ўсіх элемэнтах, якія падтрымліваюць гэтую адарванасьць, а гэтую адарванасьць у першую чаргу падтрымліваюць тыя клясава-варожыя элемэнты, якія знаходзяцца ў апараце чыгункі Рэорганізацыя сыстэмы кіраўніцтва павінна карэнным чынам зьмяніць узаемаадносіны паміж кіраўніцтвам паасобнымі зьвеньнямі чыгункі, паасобнымі чыгуначнымі організацыямі і мясцовымі організацыямі. Праваздзімая ліквідацыя самастойнай сыстэмы спажывецкай коопэрацыі, народнай асьветы і намечаная ліквідацыя самастойнай сыстэмы аховы здароўя, соцыяльнага страхаваньня разьбіваюць усе перагародкі, якія аддзялялі працаўнікоў чыгункі ад мясцовых організацый. Трэба ўлічыць, што „полоса отчуждения“ цягнулася дзесяцігодзьдзямі, што элемэнты „экстэрыторыяльнасьці“, якія обектыўна падтрымліваюць адарванасьць ад мясцовых організацый, застаюцца. Клясава-варожыя элемэнты з апарату чыгункі, паасобныя адсталыя групы працаўнікоў чыгункі будуць аказваць супраціўленьне ў правядзеньні гэтых мерапрыемств. Можна меркаваць, што і сярод комуністых, якія працуюць на чыгунцы, знойдуцца такія „патрыоты“ чыгункі, якія будуць мяшаць правядзеньню гэтых мерапрыемств. Задачай усіх парторганізацый зьяўляецца прыняць усе неабходныя меры да максымальнага ўцягненьня рабочых чыгункі ў правядзеньні гэтых мерапрыемстваў. Парторганізацыі таксама павінны дабіцца ўцягненьня рабочых чыгункі ў агульную працу па соцбудаўніцтву акругі, усёй Беларусі і ў працу ўсіх мясцовых пролетарскіх організацый—партыйныя організацыі, савету дэпутатаў, акрпрафбюро, коопэрацыі і г. д. Таксама задачаю парторганізацый зьяўляецца мобілізацыя ўсіх мясцовых рабочых, усіх мясцовых організацый для таго, каб дапамагчы чыгуначнікам ажыцьцявіць мерапрыемствы па соцыялістычнай перабудове чыгункі, па рэорганізацыі свайго апарату.

Усе паказаныя задачы парторганізацыі здолеюць ажыцьцявіць толькі тады, калі ім удасца мобілізаваць актыўнасьць, творчую энэргію рабочых мас вакол ажыцьцяўленьня гэтых задач у цэлым, і конкрэтных мерапрыемстваў у прыватнасьці. Для таго, каб забясьпечыць вырашэньня задач мобілізацыі рабочых вакол пытаньня выкананьня гаспадарчых заданьняў, рэорганізацыі сыстэмы кіраўніцтва, трэба забясьпечыць запраўды разгорнутую бальшавіцкую самакрытыку на чыгунцы. Партыйныя організацыі павінны зрабіць усе вынікі з тых прарываў, якія мелі месца на чыгунцы за апошні год. Гэтыя прарывы гавораць аб тым, што самакрытыка на чыгунцы разгорнута зусім недастаткова. Партыйныя організацыі павінны дабіцца ўраганнага агню пролетарскай самакрытыкі па ўсіх недахопах на чыгунцы. Трэба стымуляваць самакрытыку, весьці бязьлітасную барацьбу з усімі спробамі глушыць самакрытыку. Трэба разгортваць усе формы контролю рабочых над працай паасобных установаў чыгункі. Трэба забясьпечыць выкананьне прапаноў рабочых.

Адным з карэнных недахопаў у працы організацыі чыгункі, а таксама адной з карэнных прычын усіх недахопаў на чыгунцы зьяўляецца слабае партыйнае кіраўніцтва чыгункай. Слабае партыйнае кіраўніцтва ў прыватнасьці выявілася ў недастатковай барацьбе з тымі праявамі правага ўхілу на практыцы, якія асабліва

адчуваюцца на чыгунцы, а асабліва на чыгунцы адчуваюцца наступныя конкрэтныя праявы правага ўхілу на практыцы: недаацэнка ўнутраных магчымасьцяй уласных рэсурсаў і магчымасьцяй для разгортваньня чыгункі і настроі цэхавай замкнутасьці. На чыгунцы шмат гавораць аб об'ектыўных цяжкасьцях. Гэтымі гутаркамі прыкрываюць „рабскія“ тэмпы разгортваньня соцыялістычнай рэконструкцыі на чыгунцы. Адною з праяў правага ўхілу на чыгунцы зьяўляецца таксама і недастатковая рашучасьць барацьбы з клясава-варожымі элемэнтамі чыгункі, бюрократызму, консэрватызму ва ўсёй працы чыгуначных організацый. Парторганізацыі павінны мобілізаваць сродкі, увагу і сілы рабочых мас для таго, каб рашуча зьнішчыць гэтыя праявы правага ўхілу на практыцы,—на гэтыя праявы трэба накіраваць агонь барацьбы ўсёй парторганізацыі на Беларусі, у першую чаргу—партыйных ячэек чыгункі.

Новыя задачы, якія стаяць перад чыгункай і перад партыйнымі організацыямі ў справе кіраўніцтва чыгункай, кіраўніцтва рабочымі масамі чыгункі і забесьпячэньня абслугоўваньня чыгункі, значна павышаюць адказнасьць усіх парторганізацый за працу чыгункі. Яшчэ і яшчэ раз трэба падкрэсьліць, што цяжкае становішча на чыгунцы мы маем і таму, што парторганізацыя Беларусі недастаткова займалася справамі чыгункі, такое зьявішча мы павінны зьнішчыць. Пастанова Сакратарыяту ЦК, пастановы партыйнай нарады супрацоўнікаўтранспарту, зацьверджаныя Сакратарыятам, выразна гавораць аб задачах парторганізацыі ў галіне кіраўніцтва чыгункай. Усе парторганізацыі павінны змагацца за іх хутчэйшае ажыцьцяўленьне.

А. Танхілевіч.

# На передавую лінію барацьбы за прамфінплян*)

Сакратарыят Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б у красавіку 1930 году прыняў спэцыяльную пастанову аб фабрычна-заводзкім друку Беларусі, якая друкуецца ў гэтым нумару нашай часопісі.

Гэтая пастанова чотка і выстарчальна акрэсьлівае асноўную задачу фабрычна-заводзкага друку—упартую і настойлівую барацьбу за прамфінплян, за яго выкананьне і перавыкананьне, за ўцягненьне ўсёй рабочай масы ў барацьбу за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, за ўзмацненьне кіруючай ролі рабочае клясы ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, за замацаваньне дыктатуры пролетарыяту.

Сакратарыят ЦК КП(б)Б констатаваў: *„нездавальняючае кіраўніцтва работай рэдколегій фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт з боку пераважнай большасьці партыйных ячэек і райкомаў, з боку ўсіх, без выключэньня, Акругкомаў КП(б)Б*".

Характэрна адзначыць, што толькі ў зьвязку з скліканьнем усебеларускай нарады значная частка партыйных ячэек фактычна ўпяршыню заслухала і абмеркавала справаздачы рэдакцыйных колегій фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт. Бюро аднаго з найбольш буйных рабочых партыйных колектываў—гомельскага заводу імя Ланцуцкага—у сваёй пастанове па дакладу рэдколегіі шматтыражкі досыць самакрытычна піша:

> „...Бюро партыйнага колектыву лічыць работу рэдколегіі нездавальняючай, што выяўляецца ў несваячасовым выпуску газэты, слабой рабоце з рабкорамі, слабым завастрэньні ўвагі на пытаньнях выкананьня прамфінпляну, адсутнічаньні патрэбнага кіраўніцтва цэхавымі насьценнымі газэтамі, затрыманьні допісаў, поўным адсутнічаньні ў газэце паведамленьня аб выніках па зьмешчаных допісах..."

Праўда, ня ўсе партыйныя ячэйкі, якія заслухоўвалі даклады рэдколегій шматтыражак, палічылі для сябе магчымым досыць шчыра прызнаць недастатковасьць, а часамі і поўнае адсутнічаньне партыйнага кіраўніцтва з тым, каб на хаду, опэрацыйна, гэты прабел папаўняць. Так, напрыклад, бюро партыйнага колектыву шклоўскай папяровай фабрыкі „Спартак" прыняло вельмі гумовую рэзолюцыю, у якой піша, што „...абраная ў лютым месяцы 1930 г. рэдколегія *ў асноўным справілася з сваёй працай*" і тут-жа, у гэтай рэзолюцыі, двумя радкамі ніжэй, зазначае: „...*але* газэта „Спартакавец" не зьяўляецца яшчэ цэнтрам мобілізацыі ўвагі рабочых вакол асноўных галін работы і жыцьця фабрыкі".

Зусім зразумела, што работа тэй фабрычнай газэты, якая ня здолела яшчэ да гэтага часу зрабіцца, пры дапамозе і пад кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі, цэнтрам мобілізацыі ўвагі рабочых вакол асноўных галін работы і жыцьця фабрыкі,—ні ў якім разе ня можа быць прызнана здавальняючай. У тым якраз і галоўная задача, каб зрабіць фабрычную газэту як зброю рабочай клясы і яе комуністычнай партыі—„цэнтрам мобілізацыі ўвагі рабочых вакол асноўных галін работы і жыцьця фабрыкі".

Прыведзеныя вышэй асобныя прыклады, на вялікі жаль, зьяўляюцца пакульшто характарнымі для ацэнкі якасьці кіраўніцтва работай фабрычных газэт з боку значнай часткі партыйных ячэек. І таму надзвычайна сваячасовай і патрэбнай зьяўляецца спэцыяльная пастанова ЦК КП(б)Б аб фабрычных газэтах, якая, лічачы факты нездавальняючага партыйнага кіраўніцтва фабрычнымі газэтамі ў корні ненормальным зьявішчам,

*) Гэты артыкул зьяўляецца часткай апрацаванага дакладу „Фабрычна-заводзкі друк у барацьбе за прамфінплян", які быў зроблен на 1-ай усебеларускай нарадзе рэдкалегій фабрычна-заводзкіх газэт.

не забясьпечваючы ажыцьцяўленьне партыйнага кіраўніцтва адным з адказьнейшых вучасткаў нашага друку—фабрычна-заводзкімі газэтамі, абавязвае ўсе партыйныя організацыі, фракцыі ЦП профсаюзаў і партчастку ВСНГ Беларусі:

„...Узмацніць партыйнае кіраўніцтва работай рэдколегій друкаваных газэт, часьцей заслухоўваючы іх даклады і садаклады спэцыяльна вылучаных камісій ня толькі аб усёй дзейнасьці ў цэлым, але і па асобных пытаньнях.

— Даклады рэдколегій друкаваных заводзкіх газэт пэрыодычна заслухоўваць на паседжаньнях Бюро АК. У выбарачным парадку заслухаць даклады двух рэдколегій шматтыражак на Сакратарыяце ЦК.

— Прасіць ЦКК КП(б)Б прадугледзець плянам работ выбарачнае абсьледваньне становішча з дзейнасьцю зьмяшчаемых у фабрычных шматтыражках выкрывальных допісаў. Даклад аб выніках абсьледваньня заслухаць на аб'яднаным паседжаньні Бюро ЦК і прэзыдыума ЦКК КП(б)Б.

— Абавязаць усе гаспадарчыя органы, прадпрыемствы, прамысловыя аб'яднаньні і ВСНГ не пазьней, як праз 10 дзён пасьля зьмяшчэньня ў шматтыражках тых ці іншых выкрывальных допісаў, якія датачыцца прадпрыемстваў пэўнага аб'яднаньня, дасылаць у рэдакцыю адказ аб ужытых конкрэтных мерапрыемствах".

Той факт, што пытаньне аб дзейнасьці зьмяшчаемых у фабрычных газэтах допісаў будзе спэцыяльна абсьледавана Цэнтральнай контрольнай камісіяй, а вынікі абсьледваньня будуць заслуханы на аб'яднаным паседжаньні Бюро Цэнтральнага камітэту КП(б)Б і прэзыдыуму Цэнтральнай контрольнай камісіі, яшчэ лішні раз падкрэсьлівае тое вялізарнае значэньне, якое наша партыя надае дзейснасьці, дзелавой эфэктыўнасьці кожнага з зьмяшчаных у газэце допісаў, *вынікам* гэтых допісаў.

Пытаньне аб забясьпечаньні *рэзультатыўнасьці* кожнага з допісаў, якія зьмяшчаюцца, зьяўляецца зараз адным з цэнтральных, галоўных пытаньняў ня толькі для газэт, але і для справы як далейшага разгортваньня самакрытыкі, так і замацаваньня ўжо дасягнутых посьпехаў у справе разгортваньня самакрытыкі.

Матэрыялы першай Усебеларускай нарады шматтыражак *сыгналізуюць* аб небясьпечным становішчы з дзейнасьцю зьмяшчаных допісаў, якое пагражае справе далейшага разгортваньня самакрытыкі. Фабрычная друкаваная газэта „Дняпровец" на 10 красавіка не атрымала адказу на 103 допісы, у тым ліку не адказалі на 40 допісаў працаўнікі заводакіраўніцтва, на 25 допісаў—фабком, на 15—коопэрацыя, на 7—партыйны камітэт і г. д. З атрыманых рэдколегіяй шматтыражкі заводу імя Ланцуцкага 100 адказаў толькі 30 проц. паводле свайго зьместу магчыма лічыць здавальняючымі, а рэшта, у пераважнай большасьці, тыпова абвяргальна-хлусьлівыя адказы. І на фоне гэтых ганебных фактаў, якія інакш лічыць нельга як об'ектыўны зажым самакрытыкі, з асаблівай выразнасьцю гучаць словы з пастановы прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б, кажучыя: „...Лічыць, што няўважлівыя адносіны да рэагаваньня на рабселькораўскія заметкі і зьмяшчаньне ў адказе беспадстаўных абвярганьняў павінна разглядацца, як самая пэўная адзнака загніваньня апарату, бо гэта паказвае, што ў даным апараце бюрократычныя скажэньні прыдушаюць ініцыятыву ў галіне зьнішчэньня недахопаў.

Выходзячы з гэтага, трэба ва ўсіх выпадках сыстэматычнага ігнараваньня рабселькораўскіх заметак ці „абвярганьня" прыцягваць да судовай адказнасьці, як за злачынства, вінаватых ў ігнараваньні і формальных ды бюрократычных адносінах да крытыкі ў друку.

Таксама трэба лічыць бюрократычным супраціўленьнем крытыцы ў друку і вартымі суровых мер пакараньня, аж да прыцягненьня да судовай адказнасьці—факты такіх адказаў на заметкі, якія абмежаваны адным толькі констатаваньнем ці паведамленьнем пра вынікі расьсьледваньня бяз ужываньня сапраўдных захадаў у справе хутчэйшага зьнішчэньня ненормальнасьцяй адзначаных у заметках.

Прызнаць мэтазгодным у бліжэйшы час правядзеньне некалькіх судовых паказальных процэсаў на прадпрыемствах і ва ўстановах адносна няправільных, злосных, бюрократычных абвярганьняў на заметкі і прапановы рабочых (у тым выпадку, калі будзе ўстаноўлена бясспрэчнасьць неўгрунтаванасьці адказу).

У тых выпадках, калі ўстанаўляецца асабістая віна ў дачы няправільных адказаў ці ў цяганіне з дачай адказаў з боку асобных працаўнікоў апарату—адміністратары павінны ўжываць да іх ад-

міністрацыйныя спагнаньні, паведаміўшы аб гэтым праз газэту.

Пастанова прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б аб узмацненьні рэагаваньня на крытыку ў друку насьценных газэт, апублікаваная значны час таму назад, да гэтага часу фактычна яшчэ не ператворана ў руках рэдколегій і ўсёй грамадзкасьці прадпрыемстваў у зброю *барацьбы* за тое, каб допіс у газэце не заставаўся выстралам ухаластую, пустым месцам.

Кожная рэдколегія, як баявую справу, як „прамфінплян" сваёй газэты павінна паставіць перад сабой задачу—на кожны выкрывальны допіс дабівацца адказу, прыцягваючы да грамадзкай і крымінальнай адказнасьці тых, хто сьвядома альбо па нядбайнасьці замарыноўвае адказы на допісы, альбо, адказваючы на допіс, ня прымае разам з тым належных захадаў.

## Забясьпечыць партыйнае кіраўніцтва

Тав. К. В. Гей у сваім дакладзе на нарадзе комуністых-работнікаў цэнтральных газэт наступным чынам характарызаваў значэньне і ролю нашага партыйна-савецкага друку:

> „...Партыя ня можа кіраваць плянавымі задачамі бяз самай актыўнай і самай упартай работы друку, якая зьяўляецца адным з асноўных сродкаў мобілізацыі мас, і таму якраз на даным этапе работы друк набывае для партыі надзвычайна важнае і вялікае значэньне".

*Між тым, справа з практычным ажыцьцяўленьнем партыйнага кіраўніцтва фабрычна-заводзкімі друкаванымі газэтамі, якія зьяўляюцца надзвычайна адказным атрадам нашага друку, пастаўлена ў пераважнай большасьці партыйных ячэек нездавальняюча.*

У большасьці партыйных ячэек даклады рэдакцый былі заслуханы амаль што ўпяршыню і то толькі ў сувязі з скліканьнем усебеларускай нарады. Кіраўніцтва работай рэдколегій шматтыражак і насьценных газэт з боку пераважнай большасьці партыйных ячэек—нездавальняючае, часам формальнае, „штампуючае".

Пытаньне партыйнага кіраўніцтва рабселькораўскім рухам, рэдколегіямі фабрычных друкаваных і насьценных газэт мае буйнейшае палітычнае і практычнае значэньне.

Трэба асабліва запамятаць словы тав. Е. Яраслаўскага, які ў сваёй прамове на Маскоўскай вобласнай нарадзе рабселькораў сказаў наступнае:

> „... Нам патрэбна клясавая пільнасьць, патрэбны палітычна блізкія нам рабселькоры. А варожыя палітычна і клясава бачаць толькі *дрэнныя бакі*, яны ня бачаць добрага. Вось чаму нам трэба глядзець, што прадстаўляе сабой наша рабселькораўская армія ў палітычным сэнсе, у клясавым сэнсе і ў сэнсе свайго культурнага ўзроўню. *Трэба вучыцца* для таго, каб рухацца наперад і штурхаць другіх, для таго, каб выпраўляць памылкі іншых. Трэба *самім сябе перарабіць*, самім заняцца сур'ёзнай вучобай, і ў гэтым сэнсе нельга, каб рабселькоры жылі пеяк раскідана, асобна, каб яны ня былі арганізаваны, каб яны былі здалёк ад партыйнага кіраўніцтва. Трэба ў гэтых адносінах і партыйнае кіраўніцтва ўзмацніць, узмацніць злучанасьць, сувязь з рабселькорамі нашых партыйных, профэсіянальных і іншых арганізацый".

Наступныя факты, узятыя намі ў выбарачным парадку з матэрыялаў сэктару друку Культпропу ЦК КП(б)Б, сьцьвярджаюць вывад аб дрэннай якасьці, а часам і аб поўнай адсутнасьці кіраўніцтва работай фабрычных газэт з боку значнай часткі партыйных ячэек.

Рэдколегія газэты на фабрыцы „Дняпроўская мануфактура" піша:

> „Адсутнічала дапамога з боку ўсіх грамадзкіх організацый фабрыкі, партыйнае кіраўніцтва было вельмі слабае (з 100 партыйцаў у газэце ўдзельнічала 2-3 чалавекі). Справаздачы рэдколегіі рэдка ставіліся на паседжаньнях партыйнага колектыву".

На Добрускай фабрыцы „Герой працы" агульны сход рабочых, на якім прысутнічала 205 чалавек, адзначае:

> „Работа рэдколегіі праводзілася недастаткова. З 180 рабкораў у газэце актыўна ўдзельнічае толькі 25 проц. Ня было дастатковага кіраўніцтва і практычнай дапамогі як з боку профсаюзных організацый, так і з боку цэхавых ячэек КП(б)Б".

Спэцыяльная нарада профактыву гэтай-жа фабрыкі, скліканая ў сувязі з Усебеларускай нарадай шматтыражак, досыць самакрытычна запісала ў сваёй рэзолюцыі, што:

> „...У сувязі з тым, што з боку фабкому ня было належнае ўвагі і кіраўніцтва, а таксама адсутнічала рэагаваньне на допісы, *рэдколегія распалася*".

„Бюро партыйнага колектыву,— пішацца ў рэзолюцыі колектыву заводу імя Ланцуцкага,—лічыць работу рэдколегіі нездавальняючай... Адзначыць, што з боку мясцкому адсутнічае ўсякае кіраўніцтва".

Тав. Інгулаў у сваёй кніжцы „Реконструктивный период и задачи печати" ў разьдзелах „Рабселькоровское движение и классовая борьба" і „Руководство рабселькоровским движением—руководство печатью", пасьля прывядзеньня раду фактаў засьмечанасьці рабселькораўскіх шэрагаў і нездавальняючай пастаноўкі партыйнага кіраўніцтва шэрагам шматтыражак і насьценных газэт, асабліва падкрэсьлівае:

...„пры адсутнасьці нашага комуністычнага кіраўніцтва гэта зброя (друк. *А. К.*) можа быць перахвачана нашым клясавым ворагам. Трэба, каб партыйныя ячэйкі моцна ўзялі ў свае рукі нізавы друк, каб забясьпечылі яму далейшае шырокае разьвіцьцё на падставе творчай самадзейнасьці і самакрытыкі працоўных.

Бяз дробнай апекі, бяз умешваньня ў дробныя справы, нам трэба забясьпечыць самае ўважлівае палітычнае кіраўніцтва работай фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт з боку партыйных організацый.

## Перайсьці на вышэйшую ступень барацьбы за плян!

Наш друк павінен перайсьці на больш высокую ступень штодзеннай барацьбы за прамфінплян. Нам трэба браць упор на перавыкананьне прамфінпляну, на перакрыцьцё рознага роду об'ектыўных фактараў і „вузкіх месц" (на якія ў нас так многа любяць спасылацца), на адшуканьне ўнутраных рэсурсаў прадпрыемства з тым, каб забясьпечыць выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

За апошні час сэктарам друку Культпропу ЦК КП(б)Б праведзен рад інструкцыйных нарад комуністых-работнікаў цэнтральных газэт, на якіх, пры ўдзеле гаспадарнікаў і колгасных работнікаў, заслуханы і прапрацаваны даклады раду цэнтральных і акруговых газэт Беларусі. Таксама ў красавіку 1930 г. праведзена першая ўсебеларуская нарада рэдкалегій фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт.

Матэрыялы дакладаў рэдакцый і садаклады сэктару друку выразна і пераконваюча *сыгналізуюць* аб „ножніцах" паміж тэмпам і размахам сёнешняга дня і якасьцю нашага друку, якая выразна *адстае.*

Газэтамі Беларусі—пачынаючы, нават, цэнтральнымі, далёка ня поўнасьцю выкананы і выконваецца той „прамфінплян" павышаных якасных і організацыйных запатрабаваньняў, які партыя прад'яўляе друку.

За першыя пяць месяцаў бягучага гаспадарчага году прамысловасьць Беларусі недавыканала прамфінплян на 7,4 проц.

Гэта лічба плюс 5 проц. недавыкананьня за апошнія чатыры месяцы прамысловасьцю зьніжэньня сабекошту—вось той мінус, які патрэбна паставіць і ўсяму, без выключэньня, друку Беларусі.

Цэнтральны Камітэт КП(б)Б у сваім лісьце, разасланым у лютым 1930 г. усім рэдакцыям газэт і фракцыям гаспадарчых і профсаюзных організацый, выразна запісаў, што ўвесь наш друк, кожная газэта паасобку нясе *адказнасьць* ня толькі за *асьвятленьне* на старонках самой газэты пытаньняў прамфінпляну, але і нясе адказнасьць, разам з усім „трыкутнікам" і за тое, на колькі мабілізавана пролетарская грамадзкасьць тых ці іншых прадпрыемстваў вакол справы выкананьня і *перавыкананьня* прамфінпляну.

Рад прадпрыемстваў, якія далі прарывы ў выкананьні прамфінпляну, зараз прымацаваны ЦК КП(б)Б да пэўных газэт. Гэтыя газэты разам з грамадзкасьцю данага прадпрыемства павінны павесьці змаганьне за прамфінплян, адказваючы перад ЦК КП(б)Б за зрыў і недавыкананьне прамфінпляну.

Такі павышаны крытэры запатрабаваньняў да друку рубам ставіць пытаньне аб неабходнасьці газэтам перайсьці на больш высокую ступень барацьбы за прамфінплян.

Нашы газэты аўладалі мэтодам узьдзеяньня па-ўдарнаму, крытыкай *ужо выкрытых* недахопаў вытворчасьці, але газэты, часамі, дзейнічаюць урыўкамі, няма давядзеньня да канца найбольш важных узьнятых пытаньняў. Нашаму друку не хапае больш-менш роўнага, з паступовa ўзрастаючым напружаньнем, тэмпу ўпартай, настойлівай і штодзеннай барацьбы за прамфінплян, мала сыг-

налізацый, якія *папярэджваюць магчымыя* прарывы.

Змаганьне за прамфінплян—гэта не мімалётная кампанія, якая хутка згасае.

Трэба памятаць аб тым, што паводле папярэдніх агульных накідаў прырост продукцыі ў наступным гаспадарчым годзе павінен будзе павялічыцца ва ўсесаюзным маштабе не на 32, а на 50 проц.

Павялічэньне прыросту продукцыі ў *паўтара разы* патрабуе яшчэ большага напружаньня творчай думкі і працоўнага героізму рабочае клясы і яе кіраўніка—комуністычнае партыі.

Соцыялістычнае спаборніцтва, якое мае вагромністае значэньне,—бо, кажучы словамі тав. І. В. Сталіна,—„спаборніцтва ёсьць той *падважнік*, пры дапамозе якога рабочая кляса заклікана *перавярнуць* усё гаспадарчае і культурнае жыцьцё краіны на базе соцыялізму",—*патрабуе свайго практычнага штодзеннага, дзелавога замацаваньня*.

Між тым, „у сям'і не бяз урода"; ёсьць паасобныя шматтыражкі, якія ня толькі ня выконваюць свае ролі ў барацьбе за прамфінплян, але фактычна ставяць сьпіцы ў калёсы: шматтыражка „Чырвонае шыла" (фабрыка „Труд") у артыкуле аб становішчы фабрыкі піша, прыблізна, наступнае:

„Хто вінават у становішчы на фабрыцы? Вінаваты ўсе, за выключэньнем рабочых".

*Такая* пастаноўка пытаньня, замест далейшай барацьбы і мобілізацыі сіл грамадзкасьці ўсяго прадпрыемства, толькі дэмаралізуе. Тая-ж газэта „Чырвонае шыла" дае надзвычайна яскравы ўзор хвасьцізму, адсталых настрояў, калі яна невыкананьне прамфінпляну тлумачыць тым, што, бачыце, вінавата адміністрацыя і... *рэконструкцыя фабрыкі!* Гэта ўжо значыць, што об'ектыўна газэта выкарыстоўваецца для клясава-варожых нам мэт.

Пра гэту газэту фабрыкі „Труд" (газэце таго прадпрыемства, дзе апошнія месяцы даюць выкананьне програмы *меньш, як 50 проц.*) работнік масавага аддзелу газэты „Палеская праўда" т. Зэльманаў дадае яшчэ наступныя весткі:

> У нумары газэты фабрыкі „Труд" ад 28 сакавіка на другой старонцы зьмешчаны артыкул, дзе даецца ацэнка сучаснаму становішчу на фабрыцы. У другім абзацы гэтага артыкулу мы чытаем:
>
> *„Сумленнаму рабочаму сорамна сказаць, што ён працуе на фабрыцы „Труд", таму што апошняя правалілася з прамфінплянам у першым і другім квартале. Ці вінаваты ў гэтым рабочыя? Не. Рабочыя, як і заўсёды, выконваюць сваю работу, імкнучыся не адставаць ад іншых фабрык. Прычынай усяму зьяўляецца памылка заводакіраўніцтва і пераход фабрыкі на мэханізацыю".*

Згодзімся з рэдколегіяй, што вінавата заводакіраўніцтва. Але ці магчыма згадзіцца з газэтай, што ўсе рабочыя працуюць так, як належыць?

Вось аб чым кажуць вытрымкі з гэтай-жа газэты фабрыкі „Труд".

„Калі яны (прыбіральшчыцы) перасоўваюць ваганеткі, дык скідаюць боты, а пасьля іх пераблытаюць і атрымоўваецца няпарны абутак".

„На заднікі скарыстоўваецца матэрыял, які падыходзіць для падэшвы, а на падэшвы ідзе матэрыял, які адкладзены на заднікі, у выніку, шмат абутку сапсавана".

Або другая вынятка з допісу:

„Рабочы зьвярнуўся да двух членаў партыі—Еўдосіна і Камісарчыка з скаргай, што ў яго псуецца работа. Апошнія адказалі: „Якая табе розьніца, усёроўна ты працуеш па-сярэдняму".

Мы можам прывесьці дзесяткі фактаў, якія ілюструюць падзеньне працоўнай дысцыпліны і нядбайныя адносіны да новых машын. А газэта ў гэты час піша: *„Нічога, таварышы рабочыя, вы не хвалюйцеся, вы ні ў чым не вінаваты"*.

Газэта таксама скардзіцца на тое, што фабрыка... мэханізуецца. У адным артыкуле так прама і сказана, што з прычыны мэханізацыі рабочыя сталі тупымі вучнямі.

І таму зусім зразумела, што гэта газэта „Чырвонае шыла" (якая сапраўды цяпер становіцца шылам, якога ў „мяшку" ніяк ня ўтоіш), становіцца рупарам рвацкіх настрояў, калі піша, што ў час адпускной кампаніі трэба плаціць па сярэдняму заробку тых месяцаў, якія зьяўляюцца лепшымі ў выкананьні прамфінпляну. Вось вам клясычны конвээр рвацтва. Калі да гэтага дадаць, што тая-ж самая газэта, „Чырвонае шыла" піша, што „аб перавыкананьні прамфінпляну зараз

і гутаркі ня можа быць“, дык у нас ёсьць усе падставы казаць аб палітычным банкруцтве сучаснай рэдкалегії; трэба зрабіць і адпаведныя вынікі і аб якасьці мясцовага партыйнага кіраўніцтва, якое дапусьціла наяўнасьць у газэце цэлай сэрыі буйных палітычных памылак.

„... Хіба клясавая барацьба ў эпоху пераходу ад капіталізму да соцыялізму не складаецца з таго, каб ахоўваць інтарэсы рабочае клясы ад тых жменек, груп, пластоў рабочых, якія ўпарта трымаюцца традыцый, звычаяў капіталізму і працягваюць глядзець на савецкую дзяржаву паранейшаму: даць „ёй“ работы паменш і пагорш,—садраць з „яе“ грошай пабольш?“

(Ленін).

## Умець канцэнтраваць увагу на галоўным.

Шэраг пытаньняў, якія складаюць нутро, асяродак барацьбы за прамфінплян, мы часта ўпускаем. У фабрычных шматтыражках няма паказу ролі вытворчых нарад, як актыўнай сілы, якая непасрэдна робіць уплыў на выкананьне прамфінпляну, на праверку таго, ці няма „очковтирательства“, пераўмяншэньня прамфінпляну. Замацаваньне соцыялістычнага спаборніцтва ў значнай меры залежыць ад вырашэньня пытаньня аб кіраўніцтве ўдарнікамі ня толькі з пункту погляду склікаяньня конфэрэнцый ударнікаў (гэта справа добрая), ня толькі з пункту погляду „барабанных“ рэзолюцый, але з пункту погляду організацыі працы на вытворчасьці, як цэнтральнага, рашаючага пытаньня дзелавой эфэктыўнасьці соцыялістычнага спаборніцтва, якое павінна зьявіцца штодзенным мэтодам работы прадпрыемстваў.

„Асаблівая ўвага ў справе выкананьня задач соцыялістычнага будаўніцтва павінна быць зьвернута на соцыялістычнае спаборніцтва. Сацыялістычнае спаборніцтва павінна будзе зьяўляцца аднэй з найбольш важных умоў і прадпасылак выкананьня ўсяго пляну ў цэлым“. (З рэзолюцыі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) па пытаньні аб контрольных лічбах народнае гаспадаркі на 1929/30 г.).

Завостранную ўвагу неабходна зьвярнуць палепшаньню тэхнічна-гаспадарчага кіраўніцтва рухам ударнікаў, організацыі іх працы і тэхнічнай дапамозе.

Абавязак фабрычна-заводзкіх шматтыражак і насьценных газэт—зьяўляцца застрэльшчыкамі практычнага замацаваньня шэфства інжынэраў і тэхнікаў над ударнымі брыгадамі і памагаць разгортваньню падрыхтоўкі кадраў брыгаднікаў.

Кожная шматтыражка і насьценная газэта павінны быць першым дапаможнікам фабрычнаму „трохкутніку“ ў справе сыстэматычнай організацыі ўдарных брыгад з уцягненьнем лепшых, найбольш працавітых і ініцыятыўных брыгаднікаў.

Паколькі першачарговай задачай кожнай партыйнай ячэйкі прадпрыемства зьяўляецца поўнае ўцягненьне ўсіх комуністых і камсамольцаў ва ўдарныя брыгады, дык мэтазгодна паставіць пытаньне аб перагляддзе нагрузкі партыйцаў і комсамольцаў, з тым, каб асноўны цяжар партыйнай нагрузкі кожнага комуністага і комсамольца перанесьці на вырашэньне вытворчых задач.

Комуністы, комсамолец павінен быць лепшым ударнікам, лепшым організатарам і ўдзельнікам соцыялістычнага спаборніцтва, павінен быць прыкладам для ўсёй рабочай масы ў справе барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Мы ўсе чыталі адозву рабочых Заходняй Беларусі. Але пакуль што няма ніводнай шматтыражкі, якая-б скарыстала гэты дакумант для яшчэ большага творчага ўздыму рабочых у справе барацьбы за прамфінплян.

Напрыклад, калі мы маем конкрэтныя прыклады аб адмаўленьні асобных комуністых, комсамольцаў прымаць удзел ва ўдарных брыгадах, дык шматтыражкам трэба падаваць гэта ня толькі як факт неўваходжаньня Іванава, Сідарава, і Пятрова ва ўдарныя брыгады, але гэтаму факту, яго карэньням трэба даць адпаведную політычную ацэнку, як праяве правай практыкі і г. д.

Трэба „...дабівацца таго, каб мэтоды ўзьдзейнічаньня комуністых на масу ў першую чаргу зводзіліся да ўзорнай і паказальнай работы самых членаў партыі“. (З адозвы ЦК УсеКП(б) да ўсіх членаў партыі, да ўсіх рабочых).

Кожная фабрычная друкаваная газэта павінна мець выразны клясавы твар, твар сапраўднай бальшавіцкай газэты.

У асобных работнікаў шматтыражак ёсьць думка, што правы ўхіл ва ўмовах майго прадпрыемства, маёй установы— гэта толькі тэорытычная справа і г. д. Зразумела, што гэткі політычна блізарукі падыход нічога ня мае агульнага з неабходнасьцю самай рашучай барацьбы з правым ухілам, як найбольш небясьпечным на даным этапе, з правай практыкай, з „левымі“ загібамі. Наша барацьба за генэральную лінію партыі павінна шматтыражкамі весьціся з бальшавіцкіх пазыцый, у гэтай барацьбе мы павінны рашуча выкрываць і даваць належную ацэнку праявам правай практыкі, беларускага нацыянал-дэмократызму, нацыяналопортунізму, шовінізму ўсіх колераў.

Трэба таксама памятаць і аб тым, што ў рэзолюцыі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) „Аб контрольных лічбах народнае гаспадаркі на 1929-30 г.“ гаворыцца, што „...адначасова з узмацненьнем правай небясьпекі праяўляюцца як выразы націсканьня ўсё той-жа дробнабуржуазнай стыхіі антысерадняцкага настрою, трацкісцкія і полутрацкісцкія наскокі на генэральную лінію партыі“.

У адзначанай вышэй рэзолюцыі лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) абавязвае партыйныя організацыі „ні ў якім разе не паслабляць барацьбы з „лева“-опортуністычнымі настроямі і цярпімымі адносінамі да такіх настрояў“. *Разам з гэтым рэзолюцыя пленуму падкрэсьлівае, што галоўнай небясьпекай застаецца правы ўхіл і прымірэнцтва да яго.*

Шматтыражка „Днепровец“ (у № 6) друкуе пастанову партыйнага колектыву аб тым, што няўдзел партыйцаў і комсамольцаў ва ўдарных брыгадах і соцыялістычным спаборніцтве—ёсьць праява правага ўхілу на практыцы. Але газэта „Днепровец“ не змагла на фоне гэтай пастановы бюро партыйнага колектыву, якая была вынесена ў сувязі з няўдзелам асобных комсамольцаў і партыйцаў ва ўдарных брыгадах, стварыць належную грамадзкую думку. Газэта, замест таго, каб паказаць „конкрэтных носьбітаў“ правай практыкі, засталася толькі рэгістратарам. Газэта ў даным канкрэтным выпадку не паказала свайго політычнага твару.

Як мы ўжо адзначылі вышэй, ударніцкі рух, організацыя працы ўдарнікаў мае надзвычайна важнае значэньне для замацаваньня дзелавой эфэктыўнасьці соцыялістычнага спаборніцтва.

Шырокі масавы рух ударніцтва справаждаецца масавым уступленьнем у партыю.

Аднак, як гэта адзначана ў пастановах УсеЦСПС, і ЦСПСБ, буйнейшым недахопам шмат якіх профэсіянальных, гаспадарчых і комсамольскіх організацый зьяўляецца пагоня за фармальным, колькасным наборам ударнікаў. Цэлыя цэхі і прадпрыемствы раптоўна абвяшчаюцца ўдарнымі. Гэткая раптоўнасьць, без папярэдняга замацаваньня і організацыі вытворчага ўздыму рабочай масы навокал конкрэтных задач барацьбы за прамфінплян, спрыяе стварэньню замест сапраўдных ударных брыгад, цэхаў і прадпрыемстваў—„ударных“... мыльных пухіроў, спрыяе павялічэньню колькасьці „папяровай“ ударнасьці, спрыяе замацаваньню казённага оптымізму асобных работнікаў, прымушае іх глядзець праз ружовыя акуляры.

Ударная брыгада—гэта брыгада, якая зрабіла соцыялістычнае спарборніцтва штодзенным мэтодам сваёй работы, якая ў ляскаце станкоў, кожным узмахам молата, кожным рухам станка выконвае задачы, пастаўленыя зваротам ЦК УсеКП(б) ад 25/1-30 г.: падвышэньне прадукцыйнасьці працы, зьніжэньне сабекошту, павялічэньне выпуску і палепшаньне якасьці продукцыі, выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну.

*Ідэя соцыялістычнага спаборніцтва ўпяршыню была выказана тав. Леніным.*

> „... Соцыялізм ня толькі не ўгашае спаборніцтва, але, наадварот, упяршыню стварае магчымасьць ужываць яго сапраўды шырока, сапраўды ў масавых разьмерах уцягнуць большасьць працоўных на арэну гэткай працы, дзе яны змогуць праявіць сябе і разгарнуць свае здольнасьці, выкрыць таленты, якіх у народзе непачатыя крыніцы, і якія капіталізм мяў, цісnуў, душыў тысячамі і мільёнамі. Наша задача зараз, калі сацыялістычны ўрад на чале ўлады, організаваць спаборніцтва“ (з артыкулу „як організаваць спаборніцтва“).
>
> „... Соцыялізм не ствараецца па ўказу зьверху, яго духу чужы казённа-бюрократычны аўтоматызм, соцыялізм жывы ёсьць тварэньне самых народных мас... Організатарскіх талентаў у „народзе“, г. зн. сярод рабочых і не эксплёатуючых чужой працы сялян—маса; іх тысячамі душыў, губіў, выкідаў вон капітал“ (т. XV, стар. 212).

Яшчэ ў 1920 г. IX зьезд РКП(б) у сваіх пастановах наступным чынам адбіў думку т. Леніна аб неабходнасьці соцыялістычнага спаборніцтва:

> „...Кожны соцыяльны лад (нявольніцкі, прыгонны, капіталістычны) меў свае мэтоды і прыёмы працоўнага прымусу і працоўнага выхаваньня ў інтарэсах эксплёататарскіх верхавін. Перад савецкім ладам у поўным сваім аб'ёме стаіць задача разьвіць свае ўласныя мэтоды ўзьдзейнічаньня з мэтай падвышэньня інтэнсыўнасьці і мэтазгоднасьці працы на падставе абагуленай гаспадаркі ў інтарэсах усяго народу.
>
> Побач з агітацыйна-ідэёвым узьдзейнічаньнем на працоўныя масы і з рэпрэсіямі ў адносінах да яўных бязьдзельнікаў, паразітаў, эксплёататараў, магутнай сілай уздыму продукцыйнасьці працы зьяўляецца спаборніцтва. У капіталістычнай грамадзе спаборніцтва мела характар конкурэнцыі і прыводзіла да эксплёатацыі чалавека чалавекам. У грамадзе, дзе сродкі вытворчасьці нацыяналізаваны, спаборніцтва ў працы, не парушаючы солідарнасьці, павінна толькі падвысіць агульную суму продуктаў працы.
>
> Спаборніцтва паміж заводамі, раёнамі, цэхамі, майстэрнямі і асобнымі рабочымі павінна быць прадметам грунтоўнай арганізацыі і ўважлівага вывучэньня з боку прафэсыянальных і гаспадарчых органаў".

Наш фабрычна-заводзкі друк з недастатковай рэзкасьцю і глыбінёй ускрываў і ўскрывае перагібы і праявы адміністраваньня, калі мелі месца (і зараз у асобных мясцох дапускаюцца) залічэньні ўдарнікаў па разьвёрстцы, вынясеньне пастаноў аб рабоце ў дні адпачынку, аб звыштэрміновай рабоце і г. д.

Трэба памятаць словы сакратара ЦК КП(б)Б т. *К. В. Гея*, які ў сваім дакладзе на нарадзе комуністых, работнікаў цэнтральных газэт, адзначыў:

> *Друк павінен, „...узьнімаючы і разгортваючы сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, памагчы нам выправіць асобныя хібы ў гэтым руху з тым, каб паставіць ударніцтва на найбольш сур'ёзны лад, выкрыць выхваленьне і паказаць сапраўдныя недахопы, выкрываць факты ілжэ-ўдарніцтва, якія дзе-ні-дзе пачынаюць праяўляцца.*

Пытаньні тэхнікі ў нашых газэтах, разумеючы пад пытаньнямі тэхнікі ня толькі тэхнічную базу вытворчасьці, яе рэконструкцыю, але і *тэхнічнае ўзбраеньне* і *пераўзбраеньне рабочых мас* у сувязі з рэконструкцыяй прамысловасьці і ажыцьцяўленьнем соцыялістычнай рацыяналізацыі—замоўчваюцца, як у цэнтральных, так і ў акруговых і фабрычна-заводзкіх газэтах.

Газэты пакуль-што шмат *гутараць* аб перабудове работы профсаюзаў „тварам да вытворчасьці", але *няма паказу*—як трэба перабудавацца, не даюцца станоўчыя прыклады, новыя мэтоды выяўляюцца няўпэўнена.

Далей.

Якая з нашых газэт па-сапраўднаму глыбока і ўпарта праводзіць кампанію за ўпарадкаваньне кіраўніцтва вытворчасьцю і ўстанаўленьне адзінаначальля?

А тымчасам пытаньне аб палепшаньні кіраўніцтва прамысловасьцю ва ўвесь рост ставіцца ўсёй абстаноўкай рэконструкцыйнага пэрыоду.

Яшчэ ў 1918 г. У. І. Ленін пісаў, што задача ў тым, каб злучыць „...мітынговы дэмократызм працоўных мас з жалезнай дысцыплінай у час працы". Бяз гэткага огранічанага злучэньня дэмократызму мас з жалезнай дысцыплінай у час працы немагчыма будзе пасоўвацца ўперад, па шляху забясьпечаньня выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну, па шляху выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.

З гэтай шарэнгі пытальнікаў для нашых газэт вынік адзін: мала з нумару ў нумар займацца „алілюйствам" у гонар прамфінпляну, трэба ўмець арганізаваць *барацьбу* за прамфінплян.

Чырвоныя і чорныя дошкі зьяўляюцца надзвычайна моцнай зброяй нашага газэтнага арсэналу, але карыстаемся мы гэтым сродкам мобілізацыі актыўнасьці мас надзвычайна дрэнна. Мы ня можам паскардзіцца на тое, што ў шматтыражках мала чорных дошак. Наадварот, амаль у кожным нумары, з кожнага поваду можна сустрэць чырвоную і чорную дошку: выпіў—на чорную дошку, прагуляў—на чорную дошку, унёс у фонд індустрыялізацыі некалькі рублёў—на чырвоную дошку і г. д. Такі лёгкадумны падыход значна зьніжае выхаваўчае значэньне гэтых „дошак", якія, зразумела, зьяўляюцца не самамэтай, а сродкам для стымуляваньня барацьбы за прамфінплян. Трэба ня толькі абгрунтавана „пасадзіць" тое ці іншае прадпрыемства на чорную дошку, але газэтам патрэбна так перабудаваць сваю

работу, яе гнуткасьць, каб ня толькі „пасадзіць" на чорную дошку, але і памагаць прадпрыемству сьцерці сваю назву з ганебнай чорнай дошкі.

Тав. Молатаў у адным з сваіх выступленьняў сказаў: „Засеўная кампанія—гэта асёлак, на якім усё адточваецца, разьмяжоўваецца і паказвае сваю жыцьцёвасьць".

Наш партыйна-савецкі друк дружна і напорыста вядзе змаганьне за бальшавіцкую засеўную кампанію.

Але ў большасьці газэт на фоне агульных задач, якія стаяць перад друкам у сувязі з засеўнай кампаніяй, няма ўменьня выбіраць такі стрыжань, такое зьвяно, якое зьяўлялася-б найбольш характарным для данай конкрэтнай газэты ў даным конкрэтным часе і разам з тым зьяўлялася органічнай часткай агульнай барацьбы за бальшавіцкую засеўную кампанію, за мобілізацыю ўвагі і сіл вакол правядзеньня засеву як соцыялістычнага, так і прыватнага сэктару сельскай гаспадаркі.

Пераважная большасьць фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт не змагла зьвязаць барацьбу за пасьпяховае правядзеньне бальшавіцкай пасеўнай кампаніі, замацаваньне і далейшае разгортваньне колектывізацыі, практычнае ажыцьцяўленьне, на грунце суцэльнай колектывізацыі, ліквідацыі кулацтва як клясы, з неабходнасьцю дабіцца выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну, як мацнейшага сродку, які забясьпечвае посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, зьяўляецца залогам выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады і замацоўвае кіруючую ролю рабочае клясы ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, замацоўвае дыктатуру пролетарыяту.

Зараз—некалькі слоў аб так званым мэтодзе опэрацыйнай работы ў нашых газэтах.

Опэрацыйны мэтод работы газэт—гэта ня толькі зьмяшчэньне опэрацыйных зводак „з засеўнага фронту" або з „фронту індустрыялізацыі". Опэрацыйны мэтод работы—гэта ўменьне ўхапіцца за галоўнае, кіруючае зьвяно і пераключыць зьмест газэты, пераключыць работнікаў газэты на мэтаімкнёнае вырашэньне гэтага стрыжнявога пытаньня.

Зусім зразумела, што павышаныя запатрабаваньні да друку ставяць пытаньне *аб перабудове работы ўнутры рэдакцый.*

Ленін пісаў, што

„...Усякая форма барацьбы патрабуе адпаведнай тэхнікі і адпаведнага апарату".

Зусім зразумела, што *прынцыпы* перабудовы партыйнага апарату пашыраюцца і на рэдакцыі газэт.

> „...Замест унівэрсалізму, аб'яднаньня ў адным аддзеле розных функцый толькі таму, што яны са знадворнага выгляду сваяцкія, мы падзяляем апарат у адпаведнасьці з асноўнымі баявымі задачамі партыі" (з прамовы Л. М. Кагановіча).

Не даючы рэдакцыям газэт ніякіх трафарэтных форм перабудовы работы зьверху (ці гэта сыстэма сэктараў, ці ўдарныя брыгады, функцыянэры, або што-небудзь іншае), мы лічым, што ў ходзе работы па сапраўдным выкананьні газэтамі павышаных да іх запатрабаваньняў само жыцьцё выявіць найбольш жыцьцёвыя формы.

Побач з перабудовай газэты, форм і мэтодаў яе работы, няўхільна павінна адбыцца перасоўваньне ў складзе рабкораў і селькораў і наогул актыву пролетарскай грамадзкасьці, які групуецца навакол газэты, з упорам на рабкора-ўдарніка, на селькора-актывістага колгасьніка і на стварэньне пры газэтах інжынэрна-гаспадарчага актыву.

Аб задачах нашага друку і рабкораў яскрава сказаў у сваёй прамове Е. Ярасла́ўскі на нарадзе рабселькораў Маскоўскай вобласьці:

„Наш друк часам дыбае ззаду. Ён часам проста падводзіць вынік таго, што ёсьць, тымчасам як для нашага друку, стаўшага вялізарнай сілай, патрабуецца *кіраўніцтва*, патрабуецца *ініцыятыва*, патрабуецца, каб друк тымі зрухамі, якія адбываюцца ў краіне—кіраваў. Вельмі часта наш друк *пасыўны* ў гэтых адносінах. Трэба, каб друк наш стаяў на неабходнай *прынцыповай вышыні*, каб ён не захапляўся вузкім дзяляцтвам, забываючыся аб гэтай прынцыповай вышыні. Мы маем такія факты, калі друк аб гэтай прынцыповай староне нашай работы, аб кіруючай ролі часамі забывае.

Рабселькоры ня могуць зараз заставацца тымі, якімі яны былі, толькі павярхоўна апісваць факты, *яны павінны самі вучыцца і перавучвацца.* Бяз сур'ёзнай вучобы, без вывучэньня ўсіх рашэньняў партыі і савецкай улады, кожнай новай дырэктывы, новага мерапрыемства, якое мае адносіны да мас, нельга правільна служыць нашаму друку. Рабселькоры не павінны дыбаць ззаду, не павінны адставаць. Інакш яны ўжо ня будуць памагаць нам як сьлед. Яны часам будуць перашкаджаць таксама і таму, што яны будуць наглядаць толькі павярхоўна здарэньні, будуць даваць асабліва павярхоўны малюнак, які апісвае ўчарайшы дзень. *А нам патрэбен не ўчарайшы дзень, нам патрэбен сёнешні дзень.* Трэба ставіць пытаньні такім чынам, каб яны вучылі перамагаць узьнікаючыя ў працы перашкоды і, разам з гэтым, адзначалі *тыя новыя зьявішчы,* якія маюць месца сярод рабочае клясы і сялянства, у народнай гаспадарцы, у быце,—толькі пры гэтай ўмове друк зможа выканаць свае задачы.

*Друк павінен зьявіцца мацнейшай зброяй у барацьбе за выкананьне прамфінпляну.* Мы ў першым квартале адсталі, у цэлым шэрагу нашых прадпрыемстваў ня выкананы гэты плян. Неабходна, каб былі вывучаны прычыны ўсяго гэтага, а ня толькі былі даны зводкі,—тут на чырвонай дошцы—выканалі 102%, 112%, а на гэтай старонцы адсталі—на чорную дошку. *А хто вінават у тым, што папалі яны на чорную дошку?* Ці вінаваты грамадзкія арганізацыі, ці вінавата дрэннае партыйнае кіраўніцтва, ці вінаваты гаспадарнікі, адміністратар ці што-небудзь іншае? Трэба ўмець паказаць, *чаму адсталі, хто вінават.* У гэтым за ача, а ня толькі ў тым, каб даць малюнак, што адны ўперадзе, а другія—адсталі. Трэба вывучаць гэтыя зьявішчы. Трэба апісваць усё тое, што ёсьць добрае, даваць станоўчыя прыклады работы, мерапрыемстваў, кіраўніцтва. Гэта ёсьць падважнік, *які падпіхвае, прымушае іншых падцягвацца.* Трэба данесьці, чым і як тая ці іншая арганізацыя дабілася посьпехаў".

Барацьба за падвышэньне якасных паказальнікаў выпусканай продукцыі, за пераптварэньне социялістычнага спаборніцтваў штодзенны мэтод работы прадпрыемстваў, фактычнае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі аб правядзеньні адзінаначальля, давядзеньне прамфінпляну да кожнага варштату, падвышэньне рэальнай заработнай платы, пераключэньне энтузіязму рабочых мас на навуковую організацыю вытворчасьці, практычнае вырашэньне пытаньня аб арганізацыі працы ўдарнікаў, самае шырокае разгортваньне самакрыткі, выкрываньне і бязьлітасная барацьба з праявамі правай практыкі, праявамі „левых" загібаў—вось, прыблізна, асноўнае, на чым у першую чаргу павінна концэнтравацца ўвага фабрычна заводзкіх друкаваных газэт для забясьпечаньня выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну, увязваючы гэтыя пытаньні ў адзін вузел—вузел барацьбы за прамфінплян, за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Узмацненьне кіруючых гаспадарчых кадраў цэха і вучастка зьяўляецца адным з рашаючых мерапрыемстваў па забясьпечаньні выкананьня вытворчых задач.

Практычнае ажыцьцяўленьне пастановы ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальлі павінна забясьпечыць правядзеньне на справе „правільную організацыю вытворчасьці і кіраваньне ёю" і такім чынам гарантаваць устанаўленьне сапраўднай „адказнасьці кожнай занятай на вытворчасьці асобы, ад дырэктара да рабочага, за даручаную яму справу, якая выключала-б безадказнасьць, бльтаніну і фактычнае безначальле на вытворчасьці".

*Гаспадарчыя органы* не правялі неабходных практычных мерапрыемстваў, забясьпечваючых сапраўднае правядзеньне гэтае дырэктывы ў жыцьцё і такім чынам у значнай ступені аслабілі адно з рашаючых організацыйных мерапрыемстваў, якое забясьпечвае выкананьне прамфінпляну.

*На мясцох* ня была праведзена неабходная перабудова работы прадпрыемства ў суадпаведнасьці з пастановай ЦК аб адзінаначальлі.

*Нізавыя профэсыянальныя і партыйныя органы* фактычна *недаацанілі* самой сутнасьці пастановы ЦК аб адзінаначальлі.

Кіруючыя гаспадарчыя і профэсыянальныя органы ня ўжылі дастатковых

захадаў для зьнішчэньня на месцы перашкод па забясьпечаньні сапраўднага правядзеньня адзінаначальля на прадпрыемствах.

Гэта—факты.

*Нам неабходна дабіцца карэннага пераломуў выкананьні гэтай дырэктывы.*

Друк павінен памагчы ў тым, каб былі ўжыты меры па правядзеньні сапраўднай адказнасьці дырэктароў, майстраў, загадчыкаў цэхамі за ўсю работу падпарадкаваных ім галін вытворчасьці і за выкананьне прамфінпляну і вытворчых заданьняў.

Разам з гэтым павінна быць забясьпечана поўная адказнасьць дырэктара за мэтазгоднасьць і правільнасьць усіх правадзімых на прадпрыемстве назначэньняў, перамяшчэньняў і звальненьняў асоб з адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсоналу.

*Нам трэба дабіцца фактычнага, а не фіктыўнага правядзеньня рашэньня ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальлі.*

Сакратарыят ЦК КП(б)Б фактам прыняцьця спэцыяльнай пастановы аб фабрычных шматтыражках падкрэсьлівае гэтым самым вялізарнейшае палітычнае значэньне гэтага вучастку нашага друку.

Агульнымі патугамі ўсёй пролетарскай грамадзкасьці наш фабрычна-заводзкі друк, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, павінен яшчэ больш ператварыцца ў магутную зброю партыі ў справе барацьбы за генэральную лінію партыі, за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, супроць правага ўхілу і прымірэнчых да яго адносін, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць трацкіцкіх настрояў і „левых" загібаў, супроць нацыянал-опортунізму, супроць беларускага нацыянал-дэмократызму і шовінізмаў усіх колераў.

А. Курцік.

# ВОПЫТ МЕСЦ.

## Аб рабоце вытворчых камун на прадпрыемствах.

Соцыялістычнае спаборніцтва шырока разгарнулася ў нашай краіне. Рабочыя паказваюць прыклады камуністычных адносін да працы, выяўляючы ў шэрагу прадпрыемствах сапраўдны гераізм у барацьбе за выкананьне прамфінпляну, за ажыцьцяўленьне высокіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Асноўная мэта соцспаборніцтва заключаецца ў барацьбе за выкананьне і перавышэньне вытворчых заданьняў, у палепшаньні якасьці прадукцыі, у патаненьні сабекошту, у барацьбе за працдысцыпліну. Гэтыя агульныя задачы, прыстасоўваючы да конкрэтных умоў, ажыцьцяўляе кожнае прадпрыемства, кожны цэх і інш.

Ажыцьцяўленьне гэтых агульных задач адбываецца ў розных формах.

Галоўнай, асноўнай формай арганізацыі мас рабочых па спаборніцтву зьяўляецца—*ударная брыгада* (па вытворчаму прынцыпу). Ударніцтва паказвае на справе сваю перавагу. Прыкладам можа быць вядомая ф-ка „Акцябр“ (Меншвей), дзе, дзякуючы разгорнутаму ўдарніцкаму руху, прарывы прамфінпляну за студзень 1930 г. каля 23 проц. былі пакрыты за люты і сакавік. Убачыўшы ў студзені такое значнае недавыкананьне пляну, фабрычны партколектыў і фабком мабілізавалі ўвагу ўдарнікаў, пашырылі ўдарніцкі рух у 2 разы, ахапіўшы ўдарніцтвам 1300 рабочых. Ахоп рабочых ударніцтвам, перабудова працы на ўдарныя тэмпы дала магчымасьць фабрыцы выйсьці з II кварталу з правышэньнем плянавых заданьняў, пакрыўшы прарывы. Можна прывесьці шмат такіх прыкладаў з практыкі ўдарніцтва.

Аднак, мы ўжо маем некаторыя вышэйшыя формы соцспаборніцтва, якія выражаюцца ў абагуленьні працы, заробку і інш. На фабрыках вырастаюць ударныя колектывы і комуны. Вопыт іх працы ніхто яшчэ ня ўлічвае, тады калі вопыт ужо ёсьць і ён вельмі цікавы.

Мы ў Фрунзаўскім раёне склікалі нараду камуністых, на якой і высьвятлілася, што па аднаму Фрунзаўскаму раёну ў сакавіку месяцу мы мелі да 20 камун (Меншвей, друкарня, „Камунар“, „Беларуска“ і інш.).

Якая асноўная форма арганізацыі працы ўнутры камуны.

1) Аб'яднаюцца рабочыя, галоўным чынам аднаго разраду (кваліфікацыі), напрыклад, на „Акцябры“ аб'яднalася адна лента, якая вырабляе падкладку для паліто. Рабочыя гэтай ленты аднэй кваліфікацыі і атрымліваюць заробак па аднаму разраду. На мэталёзаводзе „Камунар“ таксама аб'ядналіся рабочыя, працуючыя на адным варштаце ўсіх 3-х зьмен (камуна з 3-х рабочых). Толькі пакуль у аднэй друкарні імя Сталіна мы мелі камуну, якая аб'яднала групу рабочых рознай кваліфікацыі, але зьвязаных паміж сабой, залежных друг ад друга ў працэсе вытворчасьці.

2) Па большасьці камун заробчая плата падзяляецца пароўну паміж удзельнікамі камуны. Між іншым, ні адзін камунар ня скардзіцца на памяншэньне заробку, у зьвязку з уступленьнем у камуну. Усе камуны маюць адну разьліковую кніжку.

3) На „Акцябры“ адна камуна перарасла ў вытворчую камуну, дзе абагульваецца ўвесь заробак і дзе камуна пе-

расяляецца ў адно памяшканьне, узяўшы на сябе абавязкі абслугоўваньня страўняй, вопраткай, дзіц. ясьлямі, газэтай, кіно і інш. (1 мая заканчываюць рамонт жыльлёвага памяшканьня і адчыняюць бытавую камуну). Іншыя камуны практыкуюць колектыўнае наведваньне кіно, тэатру (Друкарня, „Камунарка“).

Які маецца эканамічны эфэкт. Эканамічны эфэкт у значнай меры выяўляецца на заводзе „Камунар“, „Акцябры“ і Друкарні. Так, напрыклад на „Камунары“ на адным варштату, на якім працуе 3 рабочых, у зьмены ствараецца камуна. Там варштат ад рабочага да рабочага пераходзіць поўнасьцю падрыхтаваны да пуску адразу пасьля званка. Там дзе няма камуны кожны рабочы ня можа пусьціць адразу варштат, бо ён павінен яго аглядзець, заправіць і г. д. Наогул, такі мэтад працы камун, акрамя ўсяго, дае магчымасьць скарыстаць варштат больш на 2—2 з пал. гадзіны за адні суткі, што дае значны эфэкт.

На „Акцябры“ камуны стварыліся па лентах (там існуе канвеерная сыстэма), гэта значыць, што лента, выконваючы адзін від працы (падкладка, накладчыкі і г. д.), пасьля аб'яднаньня ў камуну, адкідвае строга індывідуальную работу, дапамагаючы адзін другому ліквідаваць запасы. Пры асаблівай залежнасьці рабочых, пры канвеернай сыстэме такі мэтад узаемаадносін паміж рабочымі-камунарамі значна павышае вытворчасьць працы і забясьпечвае бесьперабойнасьць работы ленты.

Так, лента рабочых, вырабляючых падкладку для пальто, да аб'яднаньня ў камуну выраблял 37688 апэрацый, а пасьля аб'яднаньня 58276 апэрацый. Зарплата камунараў узрастае на 26 проц.

З паказанага невялікага вопыту нашых камун мы бачылі іх працаздольнасьць, экономічную эфэктыўнасьць, акрамя таго значэньня, якія яны маюць у галіне палітычнага выхаваньня рабочых і разьвіцьця сапраўды камуністычных адносін да працы.

Але, ня гледзячы на ўсё гэта, мы назіраем абсалютна недапушчальныя адносіны да працы камун і кіраўніцтва імі як з боку гаспадарчых, так асабліва прафэсыянальных органаў.

Зразумелая рэч, што мы павінны змагацца са штучным насаджэньнем камун зьверху. Нельга без належнай падрыхтоўкі аб'яднацца ў камуну.

Але глыбока апартуністычнымі зьяўляюцца тэндэнцыі змазаць, ня даць ходу, імкненьні ў самым пачатку росту пахаваць вытворчыя камуны. А сярод нас ёсьць такія, якія пад відам таго, што равенства магчыма толькі пры зьнішчэньні кляс, і прыкрываючыся гэтым, выступаюць супроць камун.

Гэтыя таварышы не разумеюць, альбо не жадаюць зразумець тое, што такія расткі новага, сапраўдна камуністычных адносін да працы, неабходна падтрымаць і ўсямерна разьвіць.

Зусім ясна, што нельга штучна фарсіраваць тэмпы разьвіцьця камун. Тут патрэбна строга дабраахвотная арганізацыя рабочых у камуну. Вытворчую камуну лёгка праверыць на рабоце. Мы павінны падтрымліваць такія камуны, якія садзейнічаюць уздыму вытворчасьці працы, зьніжэньню сабекошту, палепшаньню якасьці прадукцыі і на гэтай падставе павялічваюць зарплату. Камунам, якія ў сваёй працы не здольны дасягаць гэтага, трэба дапамагчы і аказваць ім сур'ёзную дапамогу, памятаючы, што мы будзем распушчаць тыя камуны, якія ня спраўяцца з паказанымі задачамі.

Форма, зьмест працы, узаемаадносіны ўнутры камуны зьяўляюцца найважнейшым пытаньнем.

Вельмі частая форма працы, як паказана вышэй, гэта колектыўная праца і дзялёжка зарплаты пароўну, але ёсьць камуны, што часта ахапляюць рабочых розных кваліфікацый, такая камуна ня можа быць жыцьцёвая, бо яна, як паказвае вопыт, прыводзіць да зьніжэньня вытворчасьці працы, бо чакае агульнага равенства, пазбаўляе паасобнага рабочага стымулу да падняцьця вытворчасьці.

Таму мы выказваемся за наступную форму. Неабходна імкнуцца да таго, каб камуны, як правіла, аб'ядналіся з рабочых зьвязаных у працэсу вытворчасьці, каб яны былі аднэй кваліфікацыі (і аднаго разраду) і ў гэтым выпадку пытаньне з зарплатай вырашаецца лёгка.

Тады, калі камуна арганізоўваецца з рабочых розных кваліфікацый, патрэбна,

працуючы ў колектыве, зарплату дзяліць па разраду. У адносінах да дзеляжа прыработку могуць быць розныя падыходы. Мы лічым, што прырабатак павінен таксама дзяліцца ў процантах прапарцыянальна разраду (выходзячы з адпаведнага сярэдняга проц. прырабатка).

Найбольш ясныя адносіны складаюцца ў камуне вытворча-бытавой. У гэтых выпадках абагульваецца ўвесь заработак за паасобнымі выключэньнямі (сяброўскія ўзносы, дробныя выдаткі па паасобных дагаворах). Такая камуна забясьпечвае на справе карэнную ломку старога быту. Гэты тып камуны патрабуе самых уважлівых адносін да сябе. У прыватнасьці неабходна вывучыць вопыт створанай вытворча-бытавой камуны на Меншвею.

Вывучаючы штодзенна новыя расткі будучага, новыя формы, у якія выліваецца актыўнасьць рабочае клясы, мы павінны рабочым паказваць узоры нябачнай героічнай працы груп і паасобных рабочых на аснове камуністычных адносін да працы, зрабіўшы так, каб гэтыя ўзоры садзейнічалі распаўсюджваньню камуністычнае працы на аснове сапраўднай дабраахвотнасьці.

Гр. Шпектараў.

# Марудзяць з падрыхтоўкай кадраў.

Шпаркі тэмп колектывізацыі па Любаньскаму раёну, організацыя замест 2 невялікіх калгасаў у мінулым годзе 26 сельска-гаспадарчых арцеляў і 1 буйнай камуны, перагварэньне ў сувязі з гэтым твару раёну патрабуе ўзмацненьня тэмпаў і палепшаньня якасьці працы ўсіх організацый і ўстаноў раёну, а адсюль і больш рашучасьці ў справе вылучэньня на кіруючую працу пролетарскіх і полупролетарскіх кадраў і лепшай пастаноўкі працы па іх падрыхтоўцы. Але кіраўнікі Любаньскіх раённых устаноў аб гэтым ня надта турбуюцца. „Няхай аб гэтым думае акруга, а наша справа слаць у акругу запросы аб прысылцы таго ці іншага працаўніка“—так мяркуе пра сябе кожны адказны раённы працаўнік. Вось прыклады:

> По савецкай лініі ёсьць некаторыя працаўнікі, якіх даўно ўжо трэба зьняць з працы, згодна вынікаў камісіі па чыстцы савапарату, але яны да гэтага часу сядзяць таму, што няма замены. Райвыканком ужо год працуе без сакратара, патрабуецца замена і дача новых тэхпрацаўнікоў як у РВК, так і ў сельсаветы, але іх няма. Частка старшынь сельсавету ўноў абраны і патрабуюць падрыхтоўкі. Соцыяльны склад працаўнікоў патрабуе шмат чаго лепшага. Але-ж, ня глядзячы на такое становішча, ні фракцыя РВК, ні старшыня РВК і РМК саюза саўгандльслужачых сур'ёзна гэтай справай не займаюцца. Чакаюць акругі.

Організаваныя калгасы патрабуюць належнага пролетарскага кіраўніцтва як з боку раёну, таксама і ў сябе на мясцох, сталага вучоту ў гаспадарцы. Амаль на палову калгасаў патрабуюць падрыхтаваных кіраўнікоў, амаль усе калгасы патрабуюць рахункаводаў, ды і самі Райпаляводсаюз і Раймалжылсаюз таксама ня маюць належнай колькасьці і якасьці працаўнікоў. Але пытаньнем вылучэньня і падрыхтоўкай займаюцца мала.

Спажывецкая коопэрацыя павінна разгарнуць сваю сетку так, каб лепш абслугоўваць спажыўца, але гэтае пытаньне ў яе ўпіраецца ў адсутнічаньне неабходнай колькасьці працаўнікоў, ды і тыя, што маюцца, патрабуюць перападрыхтоўкі. Але ў організаванай яшчэ зімою вячэрнай коопэрацыйнай школе мала было ўдзелена ўвагі з боку праўленьня. Якасьць слухачоў школы на практычнай працы на працягу іх вучобы не правяралася і праўленьне ня ведае каго яно рыхтуе.

Тыя запатрабаваньні, якія маюцца ад працоўных у галіне культабслугоўваньня, патрабуюць таксама вылучэньня і падрыхтоўкі новых кадраў у галіне працы клюбаў, бібліатэк, дзіц-ясьляў і пляцовак, кіно, радыё, насьценгазэты, школы і літаратуры. Але ў гэтай галіне зроблена таксама зусім мала.

Праўда, для выжыцьця вастраты недахопу ў кадрах што небудзь зроблена. Напрыклад: праведзены курсы рахункаводаў с/саўгандльслужачых і Паляводсаюзам, курсы калгасьнікаў і курсы жанчын-калгасьніц і курсы пастухоў — земчасткай РВК, падрыхтоўваюцца працаўнікі ў вячэрняй коопэрацыйнай школе, некаторых працаўнікоў прапусьцілі праз акруговыя курсы, склікаюцца нарады. Але ўсяго гэтага мала. Патрабуецца рашучы пералом у адносінах да вылучэньня і падрыхтоўкі кадраў з боку ўсіх савецкіх, коопэрацыйных і гаспадарчых ворганаў, патрабуецца больш рашучасьці ў вылучэньні батракоў і беднякоў на кіруючую працу.

Значную ролю ўва ўсёй гэтай працы павінны заняць прафсаюзы, а ня ўскладваць на плечы адміністрацыі. Трэба пераглядзець склад сяброў саюзаў на прадмет высоўваньня і прасоўваньня іх на кіруючую працу. Трэба мэтад габінэтнасьці высоўваньня замяніць мэтодам масавага абгаварэньня намечаных да высоўваньня на рабочых, батрацкіх, бядняцкіх сходах і сходах профсаюзаў. Пара раскачацца і пакінуць спадзявацца на каго-небудзь.

**З. Ф.**

# БІБЛІЯГРАФІЯ.

## КАРЫСНЫ ДАПАМОЖНІК У СПРАВЕ ВЯРБОЎКІ Ў ПАРТЫЮ.

**А. Карлик.** Почему рабочему надо итти в партию (из серии „Что должен знать рабочий, вступающий в ВКП(б). 1930 г. Гос, Издательство. Тираж 60.000 экз. 77 стр. Цана 12 коп.

Тав. Карлік на падставе аналізу пытаньняў і выказваньняў рабочых з розных месц Саюзу па поваду ўступленьня ў партыю пастараўся выясьніць сапраўдныя погляды перадавых пролетарыяў на ідэю пролетарскай партыйнасьці і вярбовачную работу партыі. У даступнай, кожнаму сьвядомаму рабочаму, форме аўтар выкладае погляды Леніна на партыю і партыйнасьць, на шкоднасьць буржуазнай ідэі беспартыйнасьці і дае адказы на многія пытаньні, якія быццам-бы „мяшаюць“ рабочаму ўступіць у партыю. Прапаганду ідэі пролетарскай партыйнасьці аўтар зьвязаў з сучасным становішчам краіны і з задачамі, якія стаяць перад партыяй і ўсім пролетарыятам у справе барацьбы за ажыцьцяўленьне пяцігодкі.

Кожнаму группарторгу, зьвеноргу, цэхавому організатару, работніку сэктара па росту партыі кніжка тав. Карліка паслужыць на карысьць у рабоце нізавога партыйнага зьвяна па ўзмацненьню вярбоўкі рабочых у партыю. Трэба проста рэкомэндаваць прачытаць кніжку, як асобным рабочым, так і групавым парадкам.

Кніжка зьмяшчае такія разьдзелы: 1) Новае сярод рабочых і рост партыі; 2) чаму патрэбна рабочаму партыя; 3) ці можна зараз зьнішчыць розьніцу паміж партыйным і беспартыйным; 4) супроць чванства комуністых і беспартыйных; 5) ці можа партнагрузка і партдысцыпліна мяшаць уступленьню ў партыю; 6) барацьба за ленінскую лінію супроць опозыцыі і рост партыі; 7) ці можа недастатковая граматнасьць мяшаць увайсьці ў партыю; 8) партыец і барацьба з недахопамі; 9) ці можа быць позна вайсьці ў партыю; 10) чаму патрэбен кандыдацкі стаж; 11) ці могуць бытавыя ўмовы мяшаць стаць комуністым; 12) рэлігійнасьць сям'і і рост партыі; 13) чаму цяпер асабліва важан рост партыі за лік перадавых рабочых. Дадаткам зьмешчаны дырэктыва ЦК УсеКП(б) аб далейшай рабоце па рэгуляваньню росту партыі.

Чытач бачыць, што ў кніжцы тлумачыцца самыя баявыя пытаньні для беспартыйных рабочых, а таксама для членаў партыі, якія вядуць вярбовачную работу. „Баявымі“ мы гэтыя пытаньні назвалі ўмоўна. Побач з вялізарнай цягай перадавых рабочых у шэрагі партыі сустракаюцца часта рабочыя, якія падводзяць „тэорытычны“ фундамант пад сваю беспартыйнасьць. Даказаць шкоду для справы пролетарскай рэвалюцыі „буржуазнай ідэі беспартыйнасьці“, вось якую задачу паставіў аўтар у сваёй рабоце. На наш погляд аўтар з гэтай задачай справіўся агульным удачна.

Бурны рост соцыялістычнай прамысловасьці і буйныя посьпехі ў галіне колектывізацыі сельскай гаспадаркі сталі магчымы толькі ў выніку правядзеньня генэральнай лініі нашай партыі. Рост соцыялізму ў СССР, у сваю чаргу, забясьпечыў нябывалы ўздым актыўнасьці і энтузыязму працоўных мас, якія вядуць барацьбу пад кіраўніцтвам партыі за выкарчоўваньне астаткаў капіталізму ў краіне. На гэтым фоне мы наглядаем новае сярод рабочых, калі яны цэлымі цэхамі, аддзяленьнямі і нават заводамі колектыўна заяўляюць аб сваім жаданьні ўступіць у шэрагі комуністычнай партыі. Гэта паказвае, што наша партыя карыстаецца вялікім давер'ем сярод рабочых, што яе палітыка цалкам, поўнасьцю падтрымліваецца рабочымі масамі, што рабочыя гатовы весьці барацьбу за канчатковую перамагу соцыялізму. Аднак, побач з вялізарнай цягай перадавых рабочых у партыю, мы на практыцы нашай работы сустракаемся з асобнымі рабочымі, якія не разумеюць значэньня пролетарскай ідэі партыйнасьці, з рабочымі, якія ганарацца сваёю беспартыйнасьцю, з рабочымі, якія ня ідуць у партыю па „сямейным абставінам“, па прычыне агульнай і палітычнай няпісьменнасьці і яшчэ па многім прычынам другараднага характару. Вядома, што будаўніцтва соцыялізму, узмацненьне дыктатуры пролетарыяту і барацьба з клясавымі ворагамі пролетарыяту, можа працякаць пасьпешна толькі ў тым выпадку, калі рабочая кляса будзе ўзмацняць сваю партыю, пасылаючы ў яе шэрагі сваіх больш вытрыманых і выпрабаваных людзей. Ня можа быць і размовы, што партыя бальшавікоў патрэбна была толькі да таго часу, пакуль ня была заваёвана дыктатура пролетарыяту, рабочая ўлада. Размовы „аб непатрэбнасьці“ комуністычнай партыі пасьля перамогі пролетарыяту мы проста назавём контр-рэволюцыйнымі размовамі, якія ідуць на карысьць буржуазіі. Ленін лічыў, што пасьля заваяваньня дыктатуры пролетарыяту роля нашай партыі ня толькі ня зьмяншаецца, а ўзрастае.

> „Дыктатура пролетарыяту, — як сказаў Ленін, — ёсьць упартая барацьба, крывавая і бяскроўная, пасільная і мірная, вайсковая і гаспадарчая, пэдагагічная і адміністрацыйная, супроць сіл і традыцый старой грамады. Сіла прывычкі мільёнаў і дзесяткаў мільёнаў — самая страшная сіла, бяз партыі, жалезнай і загартованай у барацьбе, бяз партыі, якая карыстаецца давер'ем усяго сумленнага ў дадзенай клясе, бяз партыі, якая

і ўмее сачыць за настроем масы і ўплываць на яе,—вясьці пасьпешна такую барацьбу немагчыма",

Значыць усякія думкі аб тым, што патрэбна ў партыі пасьля ўстанаўленьня дыктатуры пролетарыяту, адпала, ёсьць думкі буржуазіі, контр-рэволюцыянэраў, якія аддаюць рабочую клясу ў эксплёатацыю буржуазіі. Гэтага не разумеюць асобныя рабочыя, калі яны гавораць, раз цяпер існуе савецкая ўлада, дык няма чагоісьці ў партыю.

Пад гэтым кутом погляду аўтар разьвівае крытычны агляд рознага роду заяў рабочых, што абараняюць сваю беспартыйнасьць, ці высоўваюць зусім неабгрунтованыя мотывы, якія перашкаджаюць іх уступленьню ў партыю,

Часьцей другіх, мы спатыкаемся з такога роду заявамі: „Я комуніст, толькі без партбілета. Наогул, трэба зьнішчыць розьніцу паміж партыйнымі і беспартыйнымі". „Лепш, калі я буду беспартыйным націскаць на партыйца і буду яму прыклад паказваць". „А што—я вораг сабе, ці што? Калі я ўступлю ў партыю, па адных сходах зацягаюць". Хачу астацца вольным казаком", „У вас усё опозыцыі і опозыцыі. Калі-ж іх выжывіце, тады і завеце ў партыю". „Малаграмацен я ў опозыцыях разьбірацца. Не магу ісьці ў партыю", „Лепш быць па-за шэрагамі партыі і не нясьці ніякай адказнасьці". „І дрэнна вы глядзіце адзін за другім. Пакуль партыя не ачысьціцца ад гэтых гадаў, мы ў яе шэрагі ня пойдзем". „Позна ўжо. Трэба было ўступаць у пэрыод ваеннага комунізму. А зараз які сэнс? Краіна цьвіце, будуецца, партыя ўзмацняецца: мы асталіся па-за ёю і паправуй зараз сунуцца,—засьмяюць: на гатовенькае, скажуць, прэш. Дзе, скажуць, раней быў? Баяўся папасьці на фронт". „Раз я рабочы, дык нечага мяне выпрабоўваць. Прымайце адразу ў члены партыі". „У партыю ня іду таму, што сям'я ў мяне рэлігійная". І яшчэ многа розных выказваньняў можна пачуць у адказ на запытаньне: чаму ня ўступаеш у партыю, будучы прыкладным, актыўным рабочым?

Усе гэтыя неўдаўменьні, пытаньні зьяўляюцца ў той-жа час паказьнікам становішча партыйна-масавай работы на некаторых прадпрыемствах. Слабасьць нашай масава-растлумачальнай работы праглядае праз многія заявы беспартыйных рабочых. Задача ўзмацненьня вярбоўкі новых пластоў сапраўды перадавых, актыўных рабочых, якія састаяць у ўдарных брыгадах, удзельнічаюць у соцыялістычным спаборніцтве і вядуць барацьбу з адсталымі настроямі, можа быць значна прасунута наперад пры ўмове пасіленьня масавай работы на прадпрыемствах, у цэхах, у брыгадах. У гэтым сэнсе вялізарнае значэньне мае перабудова партыйна-масавай работы на аснове прымяненьня новых форм і мэтадаў. Многія фабрычна-заводзкія калектывы ўжо перабудаваліся на сыстэму сэктараў. Аднак, голая сыстэма, не насычаная конкрэтным зьместам, жаданых вынікаў не прынясе. Цяпер задача заключаецца ў тым, каб сэктары разгарнулі сваю работу. У прыватнасьці сэктару масавай работы і сэктару росту партыі рэцэнзуемая брошура можа аказаць вялікую дапамогу ў разгортваньні масава-растлумачальнай і вярбовачнай работы сярод рабочых.

У заключэньне мы лічым неабходным застанавіцца на асобных, ня зусім удачных, формулёроўках аўтара.

**Першая.** На старонцы 5 аўтар кажа: што „цяпер ўжо ня толькі рабочым, але і сялянам стала зусім зразумела, што, толькі праводзячы суцэльную колектывізацыю, зьніштажаючы кулацтва, як клясу, мы даб'ёмся сапраўдных посьпехаў у разьвіцьці і соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі".

Вось у тым та і справа, што многім сялянам ня зусім яшчэ зразумела, для чаго патрэбна суцэльная колектывізацыя. Такая формуліроўка здольна толькі прыспаць пільнасьць чытача. Нельга справу прадстаўляць так, што сяляне ўжо зразумелі значаньне суцэльнай колектывізацыі і нам прыходзіцца толькі аформляць іх жаданьне. У адносінах перадавога сялянства, батрацтва і беднаты гэта формуліроўка ў асноўным правільная, але нам яшчэ прадставіць перарабіць вялізарную работу, каб прыйсьці да вынікаў аўтара.

**Другая.** На стар. 19 аўтар піша: „Роля партыі пры дыктатуры пролетарыяту ня толькі не аслабла, але стала яшчэ больш значнай. *Зараз партыя яшчэ больш патрэбна пролетарыяту*". (Падкрэсьлена намі—П.). Калі трэба згадзіцца з першай часткай формулёўкі, то з другой часткай гэтага зрабіць нельга. Партыя заўсёды была „патрэбнейшай пролетарыяту", бо як гэта ясна з слоў Леніна, будаўніцтва соцыялізму пролетарыят можа весьці толькі маючы сваю партыю, зьнішчаць буржуазію пролетарыят можа маючы сваю партыю. Нельга зьмяншаць ролі і значэньня пролетарскай партыі да перамогі дыктатуры пролетарыяту.

**Трэцяя.** На стар. 38 аўтар цьвердзіць, што „перамога ў партыі ўсіх ухілаў: ад ленінскай лініі—адзін з важнейшых вучасткаў клясавай барацьбы". Прадставіць сабе справу такім чынам, што ў шэрагах партыі працягваецца клясавая барацьба, памылкова. Нельга атаясьняць клясавую барацьбу ў поўным сэнсе гэтага слова, якая адбываецца ў краіне з барацьбой супроць ухілаў ад генэральнай лініі партыі. Бясспрэчна, што барацьба з ухіламі унутры партыі мае вызначаны клясавы сэнс, так як яна накіравана ці супроць дробна-буржуазных хістаньняў, ці супроць працягненьня ў партыю элемэнтаў чуждай ідэолёгіі. Аднак, клясавая барацьба ў краіне і барацьба з ухіламі ўнутры партыі гэта не адно і тое самае.

**Чацьвертая.** На той-жа старонцы аўтар піша: што беспартыйны рабочы „ня можа быць актыўным барацьбітом за ленінскую лінію партыі". Правідлова, што актыўна змагацца за ленінскую лінію партыі можна толькі знаходзячыся ў радох партыі, але ад такой формулёўкі аўтар пыходзіць да вынікаў, што генэральная лінія партыі можа праводзіцца толькі рукамі комуністаў. Паміж тым партыя прыцягвае і організуе мільёны беспартыйных працоўных у барацьбе за індустрыялізацыю краіны (а гэта-ж і ёсьць генэральная лінія партыі), у барацьбе за соцыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі (а гэта таксама ёсьць генэральная лінія партыі) і г. д.

Гэту формулёўку аўтар павінен быў паясьніць.

На больш дробных недахопах мы не застанаўліваемся. Азначаныя промахі аўтара не зьмяншаюць каштоўнасьці кніжкі наогул.

**Партыец.**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Задачы партарганізацый па кіраўніцтве чыгункай

### Пастанова ЦК КП(б)Б

Заслухаўшы паведамленьне аб рабоце транспартнай нарады, сакратарыят ЦК канстатуе:

1. Пры наяўнасьці некаторых дасягненьняў тэмп развіцьця і сацыялістычнай рэканструкцыі чыгункі адстае ад агульнага тэмпу індустрыялізацыі краіны. Чыгунка ўсё яшчэ застаецца вузкім месцам народнай гаспадаркі. Невыкананьне раду важнейшых заданьняў і вымяральнікаў за першае паўгодзьдзе 1929-30 г. сыгналізуе аб рэальнай небясьпецы зрыву катэгарычных дырэктыў на 100-процантным выкананьні пляну на 1929-30 год.

Прарыў у рабоце раду гаспадарчых, партыйных, прафэсыянальных і іншых арганізацый чыгункі сьведчыць аб невыстарчальнай барацьбе з права-апартуністычнымі элемэнтамі на чыгунцы, аб сыстэматычным ігнараваньні настойлівых дырэктыў партыі ў разгортваньні бязьлітаснай пралетарскай самакрытыкі ўсіх недахопаў на чыгунцы і работы ўсіх транспартных арганізацый, аб невыстарчальнай мабілізацыі мас вакол выкананьня прамфінпляну.

ЦК падкрэсьлівае зусім недапушчальную нядбайнасьць, якая праяўляецца радам мясцовых партарганізацый да пытаньняў кіраўніцтва чыгункай, і спазьненьне з карэннай перабудовай работы ўсіх арганізацый на чыгунцы, ЦК прызнае зусім нездавальняючым становішча апарату чыгункі, яго невыстарчальную арабочанасьць, засьмечанасьць яго клясава-варожымі элемэнтамі і слабы склад кіраўнічых кадраў. Таксама наглядаецца некаторы адрыў транспартных арганізацый ад мясцовых арганізацый.

2. Адзначаючы гэтыя асноўныя недахопы, сакратарыят ЦК прапануе ўсім партарганізацыям ажыцьцёвіць круты паварот да пытаньняў кіраўніцтва сацыялістычнай перабудовай чыгункі і сапраўднай мабілізацыі рабочых як чыгункі, так і іншых прадпрыемстваў, для сваячасовага выкананьня задач партыі на чыгунцы.

Асноўную ўвагу сканцэнтраваць на выкананьні наступных важнейшых задач:

а) Цэнтральнай баявой задачай партарганізацыі зьяўляецца абавязковае забесьпячэньне бязумоўнага выкананьня ўсіх колькасных і якасных вымяральнікаў і заданьняў на 1929-30 год, сваячасовая падрыхтоўка да веснавых перавозак і ўмоў для больш шпаркага тэмпу росту чыгункі ў 1930-31 г. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на абавязковае выкананьне заданьняў па зьніжэньні проценту папсаваных паравозаў, правядзеньне плянава-папярэджваючага рамонту, памяншэньне праістояў вагонаў як па віне чыгункі, так і па віне іншых арганізацый пад пагрузачна-выгрузачнымі апэрацыямі, поўнае выкананьне графікі руху, паляпшэньне якасьці рамонту і зьніжэньне яго сабекошту, значнае павышэньне працоўнай дысцыпліны. Праверку рэзультатаў сацспаборніцтва і работу ўдарных брыгад правесьці так, каб паставіць пад агонь пралетарскай самакрытыкі недахопы сацспаборніцтва работы ўдарных брыгад, якасьць кіраўніцтва імі і ўдзел у сацспаборніцтве асобных груп рабочых, гаспадарчых, партыйных, прафсаюзных і камсамольскі арганізацый.

б) Забесьпячэньне поўнага і сваячасовага правядзеньня пры непасрэдным і актыўным удзеле рабочых рэарганізацыі сыстэмы кіраўніцтва на чыгунцы, бязумоўнае выкананьне дырэктыў партыі аб адзінаначальлі і пэрсанальнай адказнасьці кожнага за сваю работу, узмацненьне пралетарскага ядра кіраўнічых кадраў і іх тэхнічнай падрыхтаванасьці для работы ЦК асабліва падкрэсьлівае патрэбнасьць аздараўленьня апарату чыгункі і ачысткі яго ад клясава-варожых, бюракратычных і непрацаздольных элемэнтаў.

в) ЦК прапануе ўсім арганізацыям чыгункі ўзмацніць агонь барацьбы з усякімі праявамі правага ўхілу ў рабоце транспартных арганізацый, з усімі элемэнтамі цэхавой замкнутасьці, з кансэрватызмам, бюракратызмам у рабоце ўсіх арганізацый чыгункі. Завастрыць пралетарскую самакрытыку ўсіх недахопаў на чыгунцы і работы арганізацый, што абслугоўваюць рабочых і служачых чыгункі, забясьпечыўшы сваячасовае выкананьне прапаноў рабочых у галіне паляпшэньня работы чыгункі. Разгарнуць усе формы рабочага кантролю над работай чыгункі цалкам і яе паасобных частак.

г) Дабіцца хуткай перабудовы работы партыйных, прафсаюзных і каапэрацыйных арганізацый. Усе партыйныя арганізацыі павінны сыстэматычна заслухоўваць даклады аб ходзе выкананьня вымяральнікаў і пляны далейшай работы чыгуначных арганізацый, арганізаваўшы сыстэматычны агляд пры актыўным удзеле рабочых становішча выкананьня заданьняў чыгункай. Зьбіраць сыстэматычныя нарады працаўнікоў чыгункі, усклаўшы на аднаго з інструктароў акругкому абавязак сыстэматычнай работы па пытаньні чыгункі. Цэнтральнаму і акруговаму друку, у першую чаргу *„Зьвязьдзе"*, сыстэматычна асьвятляць пытаньні чыгункі.

д) ЦК абавязвае перабудаваць работу прафсаюзаў у напрамку ажыцьцяўленьня лёзунгу тварам да вытворчасьці, забясьпечыўшы штодзенную мабілізацыю рабочых вакол пытаньняў сацыялістычнай рэканструкцыі транспарту і ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі на практыцы. Прафсаюзам зьвярнуць увагу на пытаньні матар'яльнага і культурна-бытавога абслугоўваньня рабочых чыгункі

ўсімі ўстановамі Беларусі, у сувязі з ліквідацыяй асобных сыстэм абслугоўваньня чыгуначнікаў. Прапанаваць фракцыі ЦСПСБ узмацніць кіраўніцтва Белбюро ЦК чыгуначнікаў і даць дырэктывы акрпрафбюро аб узмацненьні свайго кіраўніцтва вучпрафсожамі і большага ўцягненьня чыгуначнікаў у работу агульных арганізацый, а таксама большай дапамогі апошніх чыгуначнікам.

е) Паскорыць тэмп беларусізацыі, узмацніць барацьбу з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, з вялікадзяржаўным расійскім шавінізмам і антысэмітызмам.

Прапанаваць нацкамісіі пры ЦВК, супольна з праўленьнямі МББ чыг. і Заходняй чыгункі ў месячны тэрмін распрацаваць канкрэтны плян далейшага правядзеньня беларусізацыі ў паасобных установах і карэнізацыі апарату чыгункі, згодна дырэктыў бюро ЦК.

# Рэзолюцыя

## транспартнай партыйнай нарады пры ЦК КП(б) Беларусі

### Аб гаспадарчым становішчы МББ і Заходняй чыгунак, выкананьні прамфінпляну і падрыхтоўцы кадраў

Заслухаўшы даклады Праўленьняў МББ і Заходняй чыгунак, нарада канстатуе, што хаця за I квартал 1929-30 г. дарогі ў асноўным і справіліся з узмоцненымі васеньнімі перавозкамі, але далі павялічэньне проценту хворых паравозаў: па МББ да 13,3% супроць сярэдняга за верасень 1929 г. 11,1%, па Заходнім 15% супроць сярэдняга за верасень 1929 г.—12,5%, і невыкананьне раду важнейшых заданых вымярыцеляў. 1) камэрцыйная хуткасьць па МББ выканана 14,8% супроць 15,25% у 1928-29 г., г. зн. 96% і супроць 16,9% заданьня НКШЗ, г. зн. 87%. Па Заходнім—13,6% супроць 14,5% 1928-29 г., г. зн. 94% і супроць 14,8% заданьня, г. зн. 92%.

2) Тэхнічная хуткасьць: па МББ 23% супроць 23,8% 1928-29 г., г. зн. 97%.

3) Сярэдні зварот таварнага вагона: па МББ задана 3,9%, выканана 3,86 %, г. зн. 99%, па Заходнім задана 3,5, выканана 3,1—88%.

4) Сярэдня-сутачны прабег паравозаў у таварным руху: па МББ пры заданьні 167, выканана 162, г. зн. 97%, па Заходнім пры заданьні 175, выканана—155, г. зн. 88,57%.

5) Рух цягнікоў па расьпісаньню: па МББ 49,9% і па Заходнім 58% у сярэднім за квартал.

6) Па абточцы: прастой па МББ 16 дзён супроць 9 дзён заданьня, г. зн., 178%, па Заходняй 13 дзён супроць 8 заданых, г. зн. 163%.

7) Настой рабсілы на МББ 1427 супроць 762 заданых, г. зн. 158%.

Каштоўнасьць па МББ чыгунцы 1035 р. супроць 591 заданых, г. зн. 175%.

Паказаныя недахопы і прарывы тлумачацца наступнымі асноўнымі прычынамі:

1) Існуючай на транспарце бюрократычнай цэнтралізацыяй у сыстэме кіраўніцтва транспарта.

2) Нераспарадзіцельнасьцю адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсоналу, яго няўменьнем, а зачастую і нежаданьнем перабудаваць работу ў суадпаведнасьці з новымі задачамі і тэмпамі.

3) Шматлікімі выпадкамі парушэньня з боку парт., проф. і гаспадарчых органаў прынцыпаў адзінаначальля.

4) Расшатанасьцю працдысцыпліны як сярод часткі рабочых, так і адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсоналю і наяўнасьць у некаторых мясцох (Вязьма, Унеча) злоснага шкодніцтва з боку паасобных контр-рэволюцыйна настроеных работнікаў ж.-д. транспарту і недастатковасьцю барацьбы з гэтымі зьявішчамі.

5) Няўменьнем адміністрацыі, партыйных і прафэсыянальных арганізацый падхапіць і вазглавіць вытворчы пад'ём сярод рабочых (соцспаборніцтва, ударныя брыгады, вытворчыя нарады і камісіі).

6) Консэрватызмам раду профарганізацый, няўменьнем і нежаданьнем іх перабудаваць усю сваю дзейнасьць прыстасоўча да новых гаспадарча-палітычных задач.

7) Перабоем у матар'яльным снабжэньні і зусім недастатковым скарыстаньнем унутраных рэсурсаў.

8) Нераўнамерным прад'яўленьнем грузаў транспартнай кліентурай і нездавальняючай работай РК па перавозкам у галіне плянаваньня перавозак.

9) Засьмечанасьцю апарату транспарту клясава-варожымі элемэнтамі і асобамі, яўна няпрыгоднымі для выкананьня задач па соцыялістычнай будоўлі.

Адзначаныя вышэй недахопы ў значнай ступені тлумачацца і тым, што транспартныя арганізацыі працягваюць весьці сваю работу адарвана ад грамадзкіх арганізацый абслугоўваемых імі раёнаў, не зрабілі рашучых крокаў да таго, каб пад кіраўніцтвам мясцовых парторганізацый пераключыцца на новыя тэмпы і мэтады работы.

Выходзячы з гэтага, нарада лічыць неабходным:

1. Дабіцца выкананьня ў 3 і 4 кварталах заданых вымернікаў, напр сярэдня-сутачнага прабегу таварнага вагону па МББ 88 кілёмэтраў і па Заходнім 98 клм., пад'ёму для абточкі па МББ 3 кв. 7 дзён і 2 кв.—6 дз. і па Заходнім—6 дзён і г. д., пры чым гэтыя вымернікі павінны быць ня толькі выкананы, але і перавыкананы з такім разьлікам, каб былі пакрыты прарывы першага і другога квартала. Акрамя таго, неадкладна разгарнуць работу да падрыхтоўкі да прадстаячых васеньніх перавозак з тым, каб пазьбегнуць затрудненьняў, меўшых месца ў мінулых васеньніх перавозках.

Пры распрацоўцы промфінпляну на 1930-31 год выходзіць з неабходнасьці забесьпячэньня дасягненьняў значна лепшых вымернікаў супроць 1929-30 г. у прыватнасьці завастрыць увагу на становішчы паравозаў, на плянава-папярэджваючым рамонце і становішчы прастоя вагонаў пад пагрузачна-выгрузачнымі апэрацыямі на вузлавых і распарадзіцельных станцыях, а таксама на рух цягнікоў па расьпісаньню.

2. У сувязі з праводзімай рэорганізацыяй сыстэмы кіраўніцтва ж. д. транспарту прапанаваць мясцовым партыйным організацыям прыняць актыўны ўдзел у яе правядзеньні і аказаць праўленьням МББ

таньня, бліжэй прыцягнуць да яе ўвесь транспартны трохкутнік і шырэй разгарнуць растлумачальную работу ў масах.

13. Адзначаючы адсутнасьць увязкі работы праўленьняў дарог з ЦК КП(б)Б і недастатковую ўвагу да работы на транспарце з боку Акругкомаў: а) прапанаваць праўленьням дарог увесьці сыстэматычнае асьведамленьне ЦК КП(б)Б аб рабоце дарог у межах БССР і ставіць перад ЦК КП(б)Б усе важнейшыя чарговыя пытаньні транспартнай работы. б) Даць указаньні Акругкомам аб устанаўленьні больш цеснай сувязі з мясцовымі гаспадаркамі і профсаюзнымі організацыямі чыгуначнага транспарту.

14. Побач з бязьлітаснай барацьбой супроць усякіх праяўленьняў шкодніцтва і галавацяпства, нарада лічыць неабходным у мэтах забесьпячэньня разгортваньня рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў і праяўленьня ініцыятывы ў гэтай галіне, рашуча бароцца з папыткамі ўсякую памылку кваліфікаваць, як шкодніцтва або далжнастное праступленьне.

# Рэзолюцыя

## аб чарговых задачах партыйнай і масава-політычнай рабоце на чыгунцы.

Максымальна хуткі тэмп разьвіцьця чыгункі, як аднэй з важнейшых састаўных і складанай часткі ўсяе народнае гаспадаркі, мае вялізарнейшае значэньне, як для пасьпяховага вырашэньня ўсіх задач соцыялістычнага будаўніцтва, так і для замацаваньня абароназдольнасьці нашай савецкай краіны. Адзначаючы, што ў працы чыгункі за апошнія гады маюцца посьпехі і дасягненьні, нарада лічыць, што характарыстыка лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) чыгункі, як вузкага месца нашага соцыялістычнага будаўніцтва, мае моц і на сёнешні дзень.

Нарада адзначае, што побач з дасягненьнямі ў працы партыйных, гаспадарчых, профэсыянальных, комсамольскіх організацый на чыгунцы, невыкананьне чыгункай шэрагу якасных паказчыкаў за першае паўгодзьдзе 1929-30 г., шэраг прарываў, якія выявіліся за апошнія паўгода ў працы шэрагу організацый (Залінейны раён—Гомель. Аршанскі вузел, Віцебскі вучастак і інш.) сьведчаць аб тым, што ў радзе месц нашыя організацыі ня здолелі так перабудаваць сваю працу, каб мобілізаваць у належнай меры політычную і вытворчую актыўнасьць, клясавую сьвядомасьць рабочых чыгункі для поўнага ажыцьцяўленьня політычных і гаспадарчых задач, пастаўленых перад чыгункай, у прыватнасьці і для паскарэньня тэмпаў соцыялістычнае рэконструкцыі чыгункі і каранной перабудовы сыстэмы кіраўніцтва на транспарце. Асноўнымі прычынамі гэтых недахопаў зьяўляюцца:

а) недастатковае глыбокае і сыстэматычнае кіраўніцтва з боку партыйных організацый гаспадарчай працай на чыгунцы;

б) бюрократычная цэнтралізацыя гаспадарчага кіраўніцтва на чыгунцы і зусім слабае правядзеньне дырэктыў партыі аб адзінаначальлі і некаторая адарванасьць чыгункі ад мясцовых партыйных, профэсыянальных і іншых пролетарскіх організацый;

в) засьмечанасьць апарату чыгункі клясава-варожымі элемэнтамі, якія ў форме алкрытага ці скрытага шкодніцтва і сабатажу аказваюць сыстэматычнае супраціўленьне ажыцьцяўленьню дырэктыў партыі на чыгунцы.

Нарада падкрэсьлівае, што цэлы шэраг скажэньняў лініі партыі праваопортуністычнага характара і ў асаблівасьці зусім нездавальняючае становішча самакрытыкі на чыгунцы зьяўляюцца асноўнай і галоўнейшай прычынай, як недастатковасьці мобілізацыі мас вакол пытаньняў соцыялістычнай рэконструкцыі чыгункі, выкананьня промфінпляну, гэтак і перабудовы працы ўсіх організацый на чыгунцы.

Выходзячы з гэтага, нарада ставіць перад партыйнымі організацыямі чыгункі наступныя чарговыя задачы.

## У галіне соцыялістычнай рэконструкцыі чыгункі і перабудовы апарату.

1. Цэнтральнай і баявой задачай усіх парторганізацый на чыгунцы зьяўляецца забясьпечаньне выкананьня на ўсе 100 проц. промфінпляну на 1929-30 г. і падрыхтоўка мерапрыемстваў для такога росту колькасных і якасных паказчыкаў у 1930-31 г., які-б забясьпечыў выкананьне чыгункай пяцігодкі ў тры гады. Усе парторганізацыі павінны сканцэнтраваць сваю ўвагу на поўнае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі аб адзінаначальлі, забясьпечаньне не фармальнай, а сапраўднай адказнасьці кожнага працаўніка за сваю працу, безумоўнае выкананьне заданьня па зьніжэні сабекошту, павышэньні вытворчасьці працы, поўнаму выкананьню графіку руху, забясьпечаньню працоўнай дысцыпліны і значнага палепшаньня якасьці рамонта і ўсёй продукцыі.

2. Аднэй з галоўнейшых задач парторганізацыі на бліжэйшы час павінна быць: максымальнае садзейнічаньне, сыстэматычнае кіраўніцтва ўсімі пытаньнямі ўвядзеньня новага палажэньня аб гаспадарчым кіраўніцтве на чыгунцы, пры чым асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на правядзеньне растлумачальнай работы сярод рабочых па пытаньням рэорганізацыі апарату і прыцягненьня іх да актыўнага ўдзелу ў правядзеньні рэорганізацыі. Неабходна забясьпечыць хуткую перабудову ўсіх грамадзкіх організацый, прыстасаваўшы іх працу да новай сыстэмы кіраўніцтва на чыгунцы.

3. Сур'ёзьнейшай задачай парторганізацый на чыгунцы зьяўляецца замацаваньне пролетарскага асяродзьдзя кіруючых кадраў, соцыяльны склад якіх у радзе месц зьяўляецца нездавальняючым

Трэба ў бліжэйшым годзе дабіцца падваеньня пролетарскай часткі кіруючых кадраў шляхам павялічэньня вылучэньня рабочых на кіруючую працу, організаваўшы адпаведную падрыхтоўку гэтых кадраў. Парторганізацыі ў далейшым пасіліць кіраўніцтва працай па падрыхтоўцы і ўзмацненьні кіраўніцтва кадраў, забясьпечыўшы сыстэматычны кантроль за работай па вылучэньню рабочых і арабачэньні апарату. Адзначаючы недахоп інжынэрна-тэхнічных кадраў, якія ў бліжэйшы час у сувязі з шпаркім тэмпам росту транспарта яшчэ больш завострыцца, узмацніць працу па выкананьні дырэктыў ЦК УсеКП(б) у гэтай галіне. Нарада прапануе павялічыць процант рабочых, пасылаемых у тэхнікумы, ВТУЗ'ы і на спэцыяльныя курсы. Адзначаючы, што ў радзе выпадкаў маецца нерацыянальнае скарыстаньне маладых спэцыялістых, парторганізацыі павінны праверыць, як скарыстоўваюцца маладыя спэцыялістыя і забясьпечыць у далейшым правільнае іх скарыстаньне і аказаньне ім усямернай дапамогі з боку старых вопытных спэцыялістых.

Неабходна зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі чысткі апарату чыгункі ад клясава-варожых, шкодных і няздольных працаваць элемэнтаў, і падрыхтоўкі замены вычышчаных. Побач з бязьлітаснай барацьбой з усімі праявамі шкодніцтва, нэйтральнасьці і аполітычнасьці сярод некаторай часткі спэцыялістых, лічыць неабходным узмацніць выхаваўчую працу сярод спэцыялістых, якія даказалі сваю адданасьць соцыялістычнаму будаўніцтву і прыцягненьне іх да ўсяе грамадзкае працы і працы па соцыялістычнай рэконструкцыі чыгункі.

4. Цэнтральнай задачай усіх парторганізацый зьяўляецца мобілізацыя ўзрошай актыўнасьці рабочых мас, партыйнага і комсамольскага асяродзьдзя прадпрыемстваў па соцыялістычнай рэконструкцыі чыгункі, перабудовы яе апарату і зьнішчэньня шматлікіх недахопаў у працы транспарту. Для дасягненьня гэтага перш за ўсё неабходна:

а) забясьпечаньне ўсіх неабходных умоў для максымальнага разгортваньня самакрытыкі; кожны вучастак чыгункі павінен быць пастаўлен пад агонь пролетарскай самакрытыкі, неабходна значна пасіліць барацьбу з усімі праявамі адкрытага і захованага зажыму самакрытыкі. Асаблівую ўвагу [illegible]рнуць на сваячасовае выкананьне прапаноў рабочых на агульных сходах, вытворчых і іншых нарадах, у насьценгазэтах і г. д.;

б) таксама неабходна разгортваньне ўсіх форм кантролю рабочых над працай усіх організацый на чыгунцы шляхам сыстэматычных справаздач перад рабочымі, агляду рабочымі брыгадамі выкананьня промфінпляну, організацыі рабочага шэфства над асобнымі ўстановамі чыгункі, і ўзаемнай праверкі рабочымі гарадзкіх і чыгуначных устаноў і прадпрыемстваў.

5. Аднэй з важнейшых задач зьяўляецца далейшае разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарных брыгад, у прыватнасьці неабходна замацаваньне ленінскага закліку ўдарных брыгад. Асноўную ўвагу сканцэнтраваць на ўстанаўленьні канкрэтных заданьняў для ўдзельнікаў соцыялістычнага спаборніцтва і кожнай ударнай брыгады і на сыстэматычны кантроль над іх выкананьнем, змагаючыся з лжэ-ударніцтвам. Праверка вынікаў соцспаборніцтва павінна быць зьвязана з прапрацоўкай выкананьня паказчыкаў за першае паўгодзьдзе 1929-30 г. і распрацоўкай абавязкаў на другое паўгодзьдзе. Праверка павінна быць так пастаўлена, каб быў забясьпечаны максымальны ўдзел рабочых і служачых у гэтай праверцы і бязьлітасная бальшавіцкая самакрытыка ўсіх недахопаў на прадпрыемстве.

## Масавая політычная праца парторганізацыі

Партыйныя організацыі на чыгунцы павінны ўзмацніць сваю масавую політычную працу для таго, каб забясьпечыць лепшую мобілізацыю мас вакол пытаньняў ажыцьцяўленьня на практыцы генэральнай лініі партыі па соцыялістычнай рэконструкцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, наступленьню на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнае колектывізацыі.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на клясавае выхаваньне рабочых чыгункі і на барацьбу з націскам на няўстойлівую і менш загартаваную частку рабочых кулацка-нэпманскіх і чыноўніцка-бюрократычных элемэнтаў. У прыватнасьці неабходна:

а) сыстэматычна азнаямляць рабочых з унутраным становішчам Савецкага Саюзу, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на растлумачэньне прычын цяжкасьцяй і мерапрыемств, праводзімых для іх ліквідацыі.

б) Больш сыстэматычна асьвятляць міжнароднае становішча Савецкага Саюзу, пагрозу контр-рэволюцыйнай вайны імпэрыялістых супроць Савецкага Саюзу, становішча ў капіталістычных краінах і інтэрнацыянальнага рабочага комуністычнага руху.

в) Трэба больш організоўваць дакладаў і лекцый па пытаньням пяцігодкі, па пытаньням наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і на анты-рэлігійныя тэмы.

г) Больш увагі зьвярнуць на правядзеньне чартовых політычных кампаній, вядучы рашучую барацьбу з дзяляцкім падыходам і недаацэнкай політычнага значэньня гэтых кампаній.

Усе транспартныя організацыі павінны ва ўсёй сваёй працы зьвярнуць асаблівую ўвагу на правядзеньне ўсіх мерапрыемств, забясьпечваючых ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі па калектывізацыі сельскае гаспадаркі, у прыватнасьці неабходна: узмацніць працу па растлумачэньні чыгуначнікам нашых задач у галіне калектывізацыі, неабходна ўзмацніць выхаваўчую працу сярод тых чыгуначнікаў, якія хістаюцца і ня ідуць у калгасы, замест таго, каб быць правадырамі калгаснага руху ў тых вёсках, дзе яны жывуць. Заводы, майстэрні транспарту павінны быць лепш, чым зараз, скарыстаны для дапамогі калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Праца шэфтаварыств павінна быць аздароўлена шляхам значна большага ўцягненьня ў актыўную працу шэфтаварыств рабочых. Зьместам працы шэфтаварыств павінна быць барацьба за калектывізацыю, за замацаваньне рашучай большасьці бядняцка-серадняцкіх мас для калектывізацыі, і дапамога калгасам. Яны павінны садзейнічаць організацыі беднаты, замацаваньню працы груп беднаты, таксама і батрацтва Шэфтаварыствы павінны прымаць актыўнейшы ўдзел у правядзеньні веснавой сяўбы.

## Нацполітыка

Нарада адзначае, што шматлікія дырэктывы партыі па пытаньню правядзеньня нацполітыкі на чыгунцы і ў асаблівасьці беларусізацыі і карэнізацыі складу кіруючых кадраў усімі транспартнымі арганізацыямі ажыцьцёўлены нездавальняюча. Належнай барацьбы са скажэньнямі лініі ў нацполітыцы не вядзецца. Належнага адпору беларускаму нац.-дэмакратызму і вялікадзяржаўнаму шовінізму і антысэмітызму не даецца.

Даручыць Нацкамісіі пры ЦВК Беларусі сумесна з праўленьнем чыгункі МББ і Заходняй у месячны тэрмін распрацаваць канкрэтны плян ажыцьцяўленьня беларусізацыі і карэнізацыі кіруючых кадраў і кадраў рабочых і служачых на чыгунцы для паасобных устаноў, адначасова вызначыць мерапрыемствы па ажыцьцяўленьні нацполітыкі на транспарце.

## Аб перабудове працы партыйных і профарганізацый

У галіне замацаваньня партыйнай работы на транспарце нарада ставіць наступныя задачы:

а) забясьпечыць правядзеньне правільнай партыйнай лініі ва ўсіх галінах працы чыгункі, рашуча змагаючыся з ухілам ад генэральнай лініі партыі, накіроўваючы галоўны агонь на правы ўхіл, які зьяўляецца найбольш небясьпечным на даным этапе, праводзячы таксама бязьлітасную барацьбу з рэшткамі трацкісцкай ідэолёгіі, „левымі“ заскокамі і прымірэнствам да іх, выкарчоўвая ўсе права-опортуністычныя скрыўленьні ў практычнай працы.

б) Максымальнае замацаваньне цэхавых ячэек і парторгаў і партыйнага кіраўніцтва ў рабочых брыгадах, асобных майстэрнях і групах рабочых, таксама неабходна ажыцьцяўленьне перабудовы працы ячэек па сэктарнаму прынцыпу.

в) Забясьпечыць сыстэматычную вярбоўку у партыю ў першую чаргу рабочых са значным вытворчым стажам, вярбоўка таксама павінна быць узмоцнена за лік лепшых ударнікаў, прыкладных на вытворчасьці.

г) Палепшыць унутры-выхаваўчую працу ячэек і вучобу, якая павінна быць больш зьвязана з задачамі, якія стаяць перад організацыямі на чыгунцы. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на сыстэматычнае абслугоўваньне комуністых, зьвязаных з вёскай і сельскай гаспадаркай.

д) Пасіліць падрыхтоўку партыйнага актыву, дабіцца паказальнай дысцыпліны партыйцаў і комсамольцаў на вытворчасьці, вядучы рашучую барацьбу з усімі хваравітымі зьявішчамі сярод комуністых.

е) Партыйныя ячэйкі, адпаведныя райкомы і акругкомы партыі павінны больш і лепш займацца справамі чыгункі, яны павінны організаваць сыстэматычны кантроль і кіраўніцтва, ажыцьцяўленьне ўсіх рэконструкцыйных мерапрыемстваў і ўзмацненьне апарату чыгункі, шляхам сыстэматычнага заслухоўваньня дакладаў з папярэднім аглядам становішча асобных вучасткаў чыгункі. АК і РК рэгулярна зьбіраць нарады працаўнікоў транспарту, вылучыць спэцыяльнага інструктара пры Акругкомах па пытаньням чыгункі. Лічыць неабходным пасіленьне кіраўніцтва з боку ЦК справамі чыгункі і паставіць на адным з пленумаў ЦК пытаньне аб становішчы чыгунак Беларусі.

Нарада лічыць неабходным узмацніць кіраўніцтва і дапамогу ячэйкам камсамола з боку партыйных ячэек. Неабходна ўзмацніць і павялічыць удзел моладзі ва ўсёй працы па соцыялістычнай рэконструкцыі чыгункі. Выхаваўчая праца сярод моладзі павінна быць таксама значна ўзмоцнена.

Праца профорганізацый чыгункі і Беларускага Бюро ЦК чыгуначнікаў павінна быць узмоцнена на падставе рашучай барацьбы з трэд-юніонісцкімі, права-опортуністычнымі скажэньнямі лініі нашае партыі ў профруху. Пытаньне мобілізацыі мас навокал ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі на практыцы, выкананьне і перавыкананьне ўсіх паказчыкаў, разгортваньне соцспаборніцтва і працы ўдарных брыгад, замацаваньне прац. дысцыпліны, ажыцьцяўленьне дырэктыў аб адзінаначальлі, соцыялістычнай рэконструкцыі транспарта і палепшаньні апарату чыгункі, пры дапамозе ўсіх рабочых павінны ўвесь час быць у цэнтры ўвагі профорганізацый. Аднachасова з гэтым павінна быць узмоцнена праца па падвышэньні матар'яльнага становішча і палепшаньні культурна-бытавога становішча чыгуначнікаў. Лічыць неабходным замацаваньне сувязі і пасіленьня кіраўніцтва з мясцовымі рэспубліканскімі, акруговымі профорганізацыямі профорганізацый чыгуначнікаў. Удзельная вага, аўтарытэт кіраўніцтва Белбюро ЦК чыгуначнікаў павінен быць падвышан.

Адзначаючы зусім недастатковае асьвятленьне ў друку працы чыгункі, нарада лічыць неабходным забясьпечыць сыстэматычнае асьвятленьне ў цэнтральных і акруговых газэтах становішча транспарту і працы ўсіх транспартных організацый, недахопаў і важнейшых задач гаспадарчай, партыйнай і масавай працы сярод рабочых чыгункі.

---

# Рэзолюцыя

## аб масавай рабоце і культурна-бытавым абслугоўваньні чыгуначнікаў

Шпаркі тэмп індустрыялізацыі нашае краіны забясьпечвае рэальную магчымасьць выкананьня пяцігодкі ў 4 гады, рэконструкцыя сельскае гаспадаркі на соц. начатах, ліквідацыя кулацтва, як клясы, на падставе суцэльнай колектывізацыі,—усё гэта патрабуе вялікай напружанасьці ад профсаюзных організацый і далейшай мобілізацыі шырокіх рабочых мас па выкананьню гэтых задач.

Нарада лічыць, што профсаюзы яшчэ недастаткова мобілізавалі шырокія рабочыя масы навокал асноўных задач соцыялістычнага будаўніцтва, соц. спаборніцтва, організацыі ўдарных брыгад і кіраўніцтва

імі, рашучага разгортваньня пролетарскай самакрытыкі, барацьбы з прагуламі, разгільдзяйствам, рвацкімі настроямі з боку некаторых адсталых рабочых, з бюрократызмам, валакітай і коснасьцю, недастаткова мобілізавана рабочая маса на барацьбу з антысэмітызмам, шовінізмам усіх колераў, асабліва вялікадзяржаўным расейскім і нацыянал-дэмократызмам, за паднясьце вытворчасьці працы, працоўнай дысцыпліны, зьніжэньне сабекошту, выкананьне вымернікаў і праламленьня адзінаначальля на транспарце.

У зьвязку з такім становішчам меўся шэраг прарываў на профсаюзным і гаспадарчым фронце на транспарце (Гомель, Орша, Віцебск і г. д.).

Для зьнішчэньня адзначаных недахопаў і мобілізацыі шырокіх рабочых мас, па выканьню рашэньняў партыі неабходна правесьці наступнае:

а) Рашуча разгарнуць бальшавіцкую самакрытыку, „ня гледзячы на асобы", выкрываючы апартуністычныя хістаньні і скажэньні партлініі ў працы профсаюзаў, гаспадарчых органаў і г. д., выхоўваючы профсаюзную масу па барацьбе з конкрэтнымі праявамі правага опортунізму ў практычнай працы. Неабходна зараз-жа мобілізаваць масы на бязьлітасную барацьбу з бюрократычнымі адносінамі да самакрытыкі і зажыму самакрытыкі—аж да зьняцьця з працы асобных зажымшчыкаў пролетарскай самакрытыкі і прыцягненьня іх да суровай адказнасьці.

Профорганізацыі, апіраючыся на перадавыя кадры рабочых, павінны ўзмацняць свой уплыў і перавыхаваньне адсталых пластоў рабочых мас, мобілізацыі усёй рабочай клясы вакол выкананьня асноўных задач соц. будаўніцтва і палепшаньня работы на транспарце.

б) Організаваць самы рашучы адпор даўленьню кулацка-варожых і бюрократычных элементаў на некаторыя адсталыя пласты рабочых. Весьці рашучую барацьбу з выпадкамі, калі члены профсаюзу, асобна сябры партыі, не зьяўляюцца перадавымі на вытворчасьці, а таксама пры выкананьні іншых чарговых палітычных задач.

в) Весьці рашучую барацьбу з рвацкімі настроямі, працоўнай расхлябанасьцю, настроямі пасыўных адносін да вытворчасьці, незацікаўленасьцю ў пасьпяховым выкананьні вымернікаў, асабліва сярод вясковай часткі рабочых, мобілізуючы для барацьбы з гэтымі зьявішчамі шырокія рабочыя масы.

г) Наладзіць сыстэматычны кантроль рабочых па выкананьню вымернікаў праз агульныя вытворчыя нарады, ВКК, рабочыя брыгады і г. д.

д) Пытаньні вытворчай і эксплёатацыйнай дзейнасьці чыгуначнай гаспадаркі, перавозкі пасеўных грузаў, лесаматар'ялаў і г. д. прабегу цягнікоў па расьпісаньню, зьнішчэньня крушэньняў,—павінна быць у цэнтры ўвагі профорганізацыі.

е) Нарада адзначае, што ў некаторых мясцох да гэтага часу справа генэральнай праверкі соц. спаборніцтва і ўдарніцтва яшчэ не распачата. Усім партыйным, профсаюзным і гаспадарчым організацыям на мясцох паскорыць разгортваньне гэтай працы, забясьпечваючы поўную ініцыятыву рабочых мас, скарыстаўшы праверку да давядзеньня промфінпляну да цэху, варштату і кожнага рабочага. Абавязаць профэсыянальныя і гаспадарчыя організацыі пытаньням разгортваньня соц. спаборніцтва, уцягненьня ў яго шырокіх рабочых мас,—зьвярнуць максымальную ўвагу, зьнішчыць элемэнты недаацэнкі соц. спаборніцтва, асабліва організацыі ўдарных брыгад. Рашуча разгортваючы соц. спаборніцтва дабіцца выкананьня ўсіх вытворчых колькасных і якасных заданьняў (вымернікаў). Забясьпечыць сыстэматычную праверку выкананьня паліт. гаспадарчых умоў. Уся рабочая маса павінна быць поўнасьцю ў курсе праходжаньня соц. спаборніцтва, ведаць дасягненьні, недахопы і зрывы ў гэтай рабоце. Неабходна рашуча рэагаваць на ўсе перашкоды разгортваньня соц. спаборніцтва і дабіцца правядзеньня заахвочваньня ўсіх тых, хто паказаў найбольшыя дасягненьні ў вытворчасьці, праяўляе сябе лепшымі ўдарнікамі.

ж) Адзначаючы, што на чыгуначным транспарце да сяго часу дырэктывы партыі аб адзінаначальлі ня толькі рабочымі масамі, але і профорганамі і гаспадарнікамі поўнасьцю не ўясьнены.

Профорганам правесьці шэраг канкрэтных мерапрыемстваў па забесьпячэньню поўнага правядзеньня ў жыцьцё дырэктыў партыі аб адзінаначальлі ва ўсіх установах і вытворчасьці чыгуначнае гаспадаркі, праводзячы рашучую барацьбу з асобамі, перашкаджаючымі правядзеньню ў жыцьцё гэтых дырэктыў.

2. Мобілізацыя рабочых мас вакол выкананьня генэральнай лініі партыі патрабуе рашучай перабудовы ўсёй масавай працы і аздараўленьня працы масавых організацый, для чаго неабходна зрабіць наступнае:

а) Прыстасаваць зьмест, формы і мэтоды масавай працы для абслугоўваньня асобных груп рабочых, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на новых рабочых і рабочых, якія жывуць на вёсцы, і тых, якія па характару сваёй работы бываюць у разьездах, працуюць у розных зьменах і г. д. А таксама зьвярнуць увагу на абсталяваньне дзяжурных памяшканьняў, паравозных і кандуктарскіх брыгад у мясцох іх адпачынку.

б) Перабудаваць работу масавых організацый з такім разьлікам, каб у ёй прынялі актыўны ўдзел шырокія рабочыя масы. Рашуча высоўваць новыя кадры перадавых рабочых з ударнікаў для кіраўніцтва і працы ў масавых організацыях.

в) Узмацніць паліт. выхаваўчую работу сярод інжынэрна-тэхнічных работнікаў, уцягнуўшы іх у работу ударных брыгад і вытворчых нарад, а таксама ў работу па падрыхтоўцы кадраў.

г) На сёньняшні дзень слаба пастаўлена работа па вярбоўцы добраахвотнікаў з ударнікаў для работы ў профсаюзных органах. У тэрміновым парадку разгарнуць работу па вярбоўцы добраахвотнікаў для работы ва ўсіх профсаюзных зьвеньнях.

д) У масавай працы профсаюзаў ваенізацыя і ў далейшым павінна займаць адно з першых месц. Рэгулярна і своечасова перад шырокімі масамі асьвятляць пытаньне аб міжнародным становішчы, ваеннай небясьпекі, узмацніць работу Асо-Авіяхіму стралковых і вайсковых гурткоў і шырэй уцягваць у іх рабочыя масы.

е) Ва ўсёй выхаваўчай і растлумачальнай рабоце неабходна з асобай сілай падкрэсьліваць абвастрэньне клясавай барацьбы. Трэба паставіць як задачу, каб рабочыя прымалі актыўны ўдзел у організацыі і згуртаваньні батрацтва і беднаты, у ўзмац-

неньні саюзу рабочае клясы і беднаты з сераднацтвам, рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты і правядзеньня палітыкі ліквідацыі кулака, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі.

Рабочыя чыгуначнікі, асабліва маючыя сваю сельскую гаспадарку, павінны быць у першых шэрагах у перабудове сельскай гаспадаркі на соц. началах, замацаваньня калгасаў, падрыхтоўкі да вясновай сяўбы, правядзеньня контрактацыі, здачы хлеба ў час хлебанарыхтовак і г. д.

ж) У тэрміновым парадку, устанавіць сталую сувязь з падшэфнымі раёнамі, а таксама рабочымі, пасланымі для сталай работы на вёску. Пэрыядычна ставіць даклады рабочых, пасланых у вёску, на агульных сходах, запрашаючы на гэтыя сходы і падшэфных калгасьнікаў. Рашэньні партыі па перабудове вёскі на соцначалах, ліквідацыі кулацтва, як клясы, на аснове суцэльнай колектывізацыі, павінны рашуча праводзіцца ва ўсёй культмасавай рабоце профсаюзаў.

Правесьці шырокае азнаямленьне рабочых чыгуначнікаў з адказам тав. Сталіна на запытаньні калгасьнікаў і прыкладным статутам сельска-гаспадарчых арцеляў і з усімі ільготамі, прызначанымі для калгасьнікаў.

Вопыт соцспаборніцтва вытворчасьці перанесьці ў колгасы, разгортваючы гэтае паміж асобнымі калгасамі.

3. Лічыць тэмп беларусізацыі ў масавай рабоце слабым. Барацьба з праявамі расейскага шовінізму, нацдэмократызму і пасыўнага супраціўленьня беларусізацыі вялася недастаткова:

а) Зараз-жа прыняць усе неабходныя меры для забясьпечаньня такога тэмпу беларусізацыі, якія-б у хуткім часе даў магчымасьць перавесьці на беларускую мову работу ўсіх грамадзкіх арганізацый чыгуначнага транспарту БССР.

Барацьба з праявамі пасыўнага супраціўленьня, беларусізацыі павінна праводзіцца больш энэргічна, мобілізуючы шырокія рабочыя масы вакол пытаньняў нацполітыкі КП(б)Б і супроць усіх тых, хто зрывае і тармозіць працэс беларусізацыі на чыгун. транспарце.

б) Профорганізацыям узяць рашучы курс на разгортваньне інтэрнацыянальнага выхаваньня рабочых, праводзячы бязьлітасную барацьбу з выпадкамі антысэмітызму, нацыянал-дэмократызму, шовінізму ўсіх колераў і асабліва расейскага, які на чыгунцы зьяўляецца больш апасным. Узяць рашучы курс на ўкараненьне на чыгуначным транспарце інш. нацыянальнасьцяй і асабліва яўрэяў.

Невыкананьне дырэктыў у гэтым напрамку лічыць, як недаацэнку політычнага значэньня гэтай справы.

4. Зьмест масавай політыка-выхаваўчай работы павінен быць рашуча палепшаны. Пытаньні барацьбы за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі павінны зьяўляцца асноўным зьместам масавай політыка-выхаваўчай працы. Павялічыць і палепшыць практыку чытак, арганізаваць спэцыяльныя падрыхтоўчыя даклады і мітынгі па асноўным чарговым пытаньням, узмацніць насьценгазэты і працу з рабкорамі, пасіліць распаўсюджваньне масавай політлітаратуры, шырэй разгарнуць працу па падняцьцю ўзроўня тэхнічных ведаў і зьнішчэньня няпісьменнасьці, шырока практыкаваць цэхавыя і агульныя політыка-асьветныя вечары, такія-ж вечары арганізаваць для рабочых, пражываючых у вёсках, забясьпечыўшы актыўны ўдзел рабочых у арганізацыі і кіраўніцтве політыка-асьветнай і культурна-масавай працы.

Дабіцца поўнага ахопу ўсіх сяброў саюзу проф. вучобай, арганізуючы спэцыяльныя курсы для падрыхтоўкі профактыву, адначасова прыцягваючы яго да заняткаў у агульную сетку партасьветы.

Для тых, якія жывуць на вёсцы, арганізаваць вучобу па месцу іх жыхарства, скарыстоўваючы індывідуальныя заданьні і завочныя навучаньні; для раз'яжджаючых і зьменных рабочых, арганізаваць бесьперапынныя працоўныя школы, канфэрэнцыі з індывідуальнымі і групавымі заданьнямі і кансультацыямі. Пасіліць забесьпячэньне парт. і проф. літаратурай, асабліва распаўсюджваньне газэты „Зьвязда" і г. д.

У хуткім часе перавесьці ўсю клюбную работу на бел. мову, у той час не паслабляць тэмпу абслугоўваньня і інш. нацыянальнасьцяй на іх роднай мове, утварыўшы пры клюбах нац. сэкцыі.

Лічыць неабходным адвесьці ў рабочых цягніках месца для абслугоўваньня рабочых.

5. Падрыхтоўкай кадраў з рабочых і работніц, вылучэньнем кваліфікаваных рабочых на адказную тэхнічную працу, партыйныя, проф. і гаспадарчыя органы дарог амаль што не займаліся. Зараз-жа заняцца работай па падрыхтоўцы кадраў, арганізаваўшы адпаведныя школы, курсы, гурткі і г. д., асабліва ўзяць рашучы курс на падрыхтоўку і вылучэньне на кваліфікаваную работу рабочых і іншых нацыянальнасьцяй.

Даручыць Бел. Бюро ЦК чыгуначнікаў, ДК, Праўленьню дарог і УЦ у 2-хтыднёвы тэрмін прапрацаваць канкрэтны плян правядзеньня ў жыцьцё гэтых мерапрыемстваў.

6. Работа па мобілізацыі шырокіх рабочых мас вакол пытаньняў вытворчасьці ні ў якім разе не павінна паслабляць работу профсаюзу па палепшаньню бытавых умоў рабочых: падняцьця рэальнай зарплаты ня менш чым на 12 проц. шляхам зьніжэньня розьнічных цэн і г. д., палепшаньне жыльлёвых умоў, пашырэньня будаўніцтва яго па лініі гаспадарчых і коопэрацыйных органаў, палепшаньня аховы працы, пашырэньня месц у дамох адпачынку, санаторый, палепшаньня мэдабслугоўваньня, больш прыблізіўшы яго да рабочых.

Асабліва паставіць пытаньне наконт палепшаньня работы коопэрацыі, якая да сёньняшняга дню з сваімі задачамі не спраўляецца: ня гледзячы на шэраг праведзеных мерапрыемстваў (дрэннае забесьпячэньне рабочых, засьмечаньне апарату, злоўжываньні і г. д.).

Профсаюзам узмацніць кіраўніцтва работай коопэрацыйных органаў і значна ўзмацніць рабочы кантроль над яе работай і г. д. Дабіцца ў хуткім часе выпраўленьня і палепшаньня абслугоўваньня рабочых. Ускорыць аб'яднаньне транспартнай коопэрацыі з ЦРК. Асабліва зьвярнуць увагу на палепшаньне і пашырэньне грамадзкага харчаваньня і прыбліжэньне яго да вытворчасьці.

# Аб становішчы і працы Мазырскай парторганізацыі

*(Рэзолюцыя сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 30-IV—30 г.)*

Заслухаўшы даклад т. Судакова і садаклад т. Танхілевіча аб становішчы і працы Мазырскай парторганізацыі, Бюро ЦК адзначае, што ў становішчы і працы партыйнай організацыі маецца шэраг карэнных недахопаў, з якіх асноўнымі зьяўляюцца:

а) Наліччa шэрагу політычных памылак і грубых скажэньняў лініі партыі пры правядзеньні колектывізацыі (курс на 100-проц. колектывізацыю да вясеньняй пасяўной кампаніі 1930 г., спаборніцтва на колькасьць колгасаў, грубы адміністрацыйны націск, пераскакваньне ў комуну), хаця АК і пераключыў сваю ўвагу на барацьбу з скрыўленьнямі партыйнай лініі і выпраўленьне політычных памылак, аднак не праводзіў гэтай барацьбы дастаткова рашуча і жорстка.

б) Ігнараваньне ў шэрагу месц дырэктыў партыі аб сыстэматычнай працы па організацыі беднаты і пастаноўцы работы батрацка-бядняцкіх груп у колгасах і нездавальняючая барацьба АК з права-опортуністычнай недаацэнкай працы сярод беднаты ў Мазырскай парторганізацыі.

в) Мазырскі АК недастаткова рашуча змагаўся і выкрываў кулацкую і опортуністычную сутнасьць тых анты-серадняцкіх перагібаў, якія былі ў Мазырскай акрузе пры правядзеньні хлеба і бульбанарыхтовак, асабліва пры організацыі колгасаў і раскулачваньні.

г) Бюро ЦК констатуе недастатковую ўвагу АК важнейшым гаспадарчым пытаньням, асабліва недапушчальным зьяўляецца адсутнасьць кіраўніцтва пытаньням разьвіцьця жывёлагадоўлі, у галіне якой назіраецца адставаньне і нават значнае памяншэньне стада за апошнія гады.

д) Наліччa шэрагу буйных недахопаў у справе падрыхтоўкі да вясеньняй пасяўной кампаніі, асабліва сярод адзіналічных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

е) Недаацэнка політычнага значэньня лесанарыхтовак і дрэнная мобілізацыя мас вакол пытаньняў выкананьня заданьняў па лесанарыхтоўкам і промфінпляну прамысловасьці ў цэлым, асабліва лічыць недапушчальным невыкананьне заданьняў па экспорту.

ж) Адным з асноўных недахопаў зьяўляецца слабае політычнае кіраўніцтва і практычная дапамога комсамолу, якое выцякае з недааценкі політычнай ролі моладзі ў соцыялістычным будаўніцтве, асабліва на вёсцы.

з) Бюро ЦК таксама падкрэсьлівае недастатковасьць увагі пытаньням кіраўніцтва рабочымі ячэйкамі, працай профсаюзаў і масавай політ. выхаваўчай працай.

Бюро ЦК адзначае, што асноўнай прычынай гэтых недахопаў зьяўляецца: зусім недастатковае разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі ва ўсіх зьвеньнях партыйных, савецкіх, профсаюзных і комсамольскіх організацый, недастаткова рашучы адпор глушыцелям самакрытыкі і нездавальняючая мобілізацыя партыйнай організацыі на барацьбу з праявамі правага ўхілу на практыцы, „левымі" перагібамі і націскам буржуазнай ідэолёгіі клясава-варожых, мяшчанска-абывацельскіх элемэнтаў на рабочых і парторганізацыю.

Цэнтральнай задачай Мазырскага АК зьяўляецца мобілізацыя ўсёй парторганізацыі для бязьлітаснай барацьбы з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай у сучасны момант, рэшткамі троцкісцкіх настрояў і „левымі" загібамі, якія на справе дапамагаюць правым ухілістым. ЦК абавязвае забясьпечыць пераломам у справе разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі, паставіўшы пад агонь бязьлітаснай пролетарскай самакрытыкі працу ўсіх організацый акругі, па рэбна начна ўмацніць работу па бальшавіцкаму выхаваньню ўсіх сяброў, кандыдатаў партыі і комсамольцаў.

У сваёй далейшай працы Мазырскія парторганізацыі павінны ўсю сваю ўвагу накіраваць на вырашэньне ў першую чаргу наступных асноўных задач.

1. Умацненьне саюзу рабочай клясы і беднаты з серадняком і мобілізацыя бядняцка-серадняцкіх мас для практычнага ажыцьцяўленьня ўздыму сельскае гаспадаркі, асабліва па жывёлагадоўлі, на падставе далейшага разгортваньня колгаснага будаўніцтва і вытворчага кооперавання шляхам:

а) Канчатковага зьнішчэньня ўсіх перагібаў у колгасным будаўніцтве, якія зьяўляюцца асноўным тормазам далейшага пасьпяховага росту колгасаў, далейшага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і пасіленьне працы па ліквідацыі кулацтва, як клясы.

б) Энэргічнай работы па замацаваньню існуючых колгасаў, упартай барацьбы за далейшае ўцягненьне ў колгасы на дабраахвотных пачатках бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, уздыму ўраджайнасьці колгасаў, іх таварнасьці, вытворчасьці працы, палепшаньня матэрыяльнага, бытавога і культурнага абслугоўваньня колгасьнікаў і ўзмацненьня кадраў у колгасах.

в) Рашучай барацьбы з усімі анты-савецкімі настроямі, нездаровых адносін і супрацьстаўленьня ў шэрагу месц колгасьнік ў бядняцка-серадняцкім масам, якія яшчэ не ўвашлі ў колгасы. Мазырскай організацыі значна пасіліць увагу і сыстэматычную дапамогу бядняцка-серадняцкім індывідуальным гаспадаркам, пашырыць пасеўны клін, узьняць таварнасьць і ўраджайнасьць іх сельскай гаспадаркі, на падставе іх вытворчага коопэравання.

2. ЦК падкрэсьлівае, што толькі варожыя УсеКП(б) элемэнты могуць недаацэньваць неабходнасьць максымальнай увагі працы па організацыі беднаты. Абавязаць Мазырскую парторганізацыю ажыцьцявіць у бліжэйшы час пералом у рабоце з беднатой, організацыі кіраўніцтва групамі беднаты ў сельсаветах і г. д. і батрацка-бядняцкіх груп у колгасах.

ЦК прапануе вылучыць спэцыяльных організатараў кіраўнікоў для кожнай групы беднаты і батрацка-бядняцкай групы. Організаваць сыстэматычную праверку выкананьня дырэктыў партыі на працы з беднатой, бязьлітасна выкарчоўваючы ўсялякія праявы актыўнага ці пасыўнага супраціўленьня выкананьню гэтых задач.

3. Лічачы зусім недастатковай увагу Акругкому да пытаньняў становішча і разьвіцьця жывёлагадоўлі, прапанаваць Мазырскаму АК КП(б)Б распрацаваць шэраг мерапрыемстваў для паднясьця жывёлагадоўлі, забясьпечыўшы сыстэматычнае кіраўніцтва ажыцьцяўленьнем усіх мерапрыемстваў у галіне паднясьця таварнасьці жывёлагадоўлі і

палепшаньня якасьці жывёлагадоўлі. Зьвярнуць максымальную ўвагу на пытаньні забесьпячэньня выкананьня гаспадарчых заданьняў—асабліва іх экспортнай часткі—па падрыхтоўцы, вывазцы, сплаву і прамысловай апрацоўцы лесу і організацыі лясной гаспадаркі.

4. Адзначаючы недастатковасьць кіраўніцтва прадпрыемствамі, слабасьць працы профсаюзаў і ў сувязі з гэтым наліччa шэрагу нездаровых зьявішч на прадпрыемствах (упад працоўнай дысцыпліны, слабае разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва, шэраг недахопаў у галіне культурна-бытавога абслугоўваньня рабочых), ЦК прапануе Мазырскаму АК пасіліць сваё кіраўніцтва ячэйкамі на прадпрыемствах і профсаюзнымі організацыямі. Своячасовае разгортваньне праверкі вынікаў соц. спаборніцтва і працы ўдарных брыгад павінна быць забясьпечана, дабіўшыся пагалоўнага ўдзелу рабочых у гэтай праверцы і пролетарскай самакрытыцы ўсіх недахопаў па прадпрыемствах.

5. Улічваючы адсталасьць Мазырскай акругі ў культурных адносінах і недастатковую ўвагу Мазырскай організацыі да пытаньняў культурнага будаўніцтва, прапанаваць Мазырскаму АК ажыцьцявіць шэраг мерапрыемстваў па забесьпячэньні чоткай клясавай лініі ў працы нарасьветных устаноў, актыўнага ўдзелу мас у культурным будаўніцтве, узмацненьне кіруючымі кадрамі апарату народнай асьветы, выкананьне програм новага будаўніцтва школ і культасьветных устаноў і ўсеагульнага навучаньня, нормальнай работы політасьветных устаноў і пашырэньне ўдзельнай вагі выдаткаў на профасьвету і дашкольныя ўстановы.

6. Прапанаваць Мазырскай парторганізацыі пасіліць сваю працу па забесьпячэньню паступленьня ўсіх грашовых даходаў, правядзеньня рэжыму эканоміі, зьніжэньня сабекошту, сапраўднай мобілізацыі мас вакол пытаньняў замацаваньня ашчадных кас і павялічэньня ўкладаў у іх, распаўсюджваньне пазык і забясьпечыўшы рэгулярную працу камісій па садзейнічаньню дзяржаўнага крэдыту.

7. Констатуючы, што становішча з кадрамі зьяўляецца найбольш вузкім месцам у Мазырскай акрузе, ажыцьцявіць наступныя асноўныя мерапрыемствы па зьмякчэньні недахопу ў кадрах:

а) Пасіліць вылучэньне на кіруючую працу рабочых, батракоў, беднякоў і колгасьнікаў.

б) Організаваць курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы партыйнага, комсамольскага, савецкага і профэсыянальнага актыву.

в) Узмацніць кіруючымі кадрамі Мазырскую організацыю, а таксама тэхнічнымі кадрамі Мазырскую акругу за лік агульных рэсурсаў Беларусі.

г) Абавязаць усе організацыі Беларусі, якія будуць організоўваць падрыхтоўкі і перападрыхтоўку кадраў у гэтым годзе, значна павялічыць нормы прыёму ад Мазырскай акругі, у параўнаньні з іншымі акругамі Беларусі.

8. Асноўнымі задачамі Мазырскай організацыі ў галіне ажыцьцяўленьня нацполітыкі, лічыць: далейшае ўзмацненьне барацьбы з беларускім нацыяналдэмократызмам, вялікадзяржаўным расейскім і іншымі шовіністычнымі элемэнтамі, антысэмітызмам і яўрэйскім шовінізмам, які асабліва актывен у Мазырскай акрузе, выкрываючы контр-рэволюцыйную сутнасьць усіх шовінізмаў. Дабіцца большага ўнядрэньня беларускай мовы ў штодзеннай масавай працы ўсіх комуністых, комсамольцаў, спэцыялістых савецкіх, кооперацыйных, профэсыянальных і культасьветных устаноў і на прадпрыемствах.

Прызнаючы зусім недапушчальным становішча абслугоўваньня нацменшасьцяй (палякаў, немцаў, украінцаў, яўрэяў, цыган і інш.) прапанаваць Мазырскаму АК зараз-жа распрацаваць шэраг мерапрыемстваў па палепшаньню абслугоўваньня нацменшасьцяй на роднай мове і пастаноўцы клясававыхаваўчай работы, праводзячы рашучую барацьбу з усімі праявамі адзінага нацыянальнага фронту сярод нацменшасьцяй.

Улічваючы асабліва цяжкае становішча з абслугоўваньнем немцаў, прапанаваць Мазырскаму АК і нацкамісіі ЦВК Беларусі ў тыднёвы тэрмін распрацаваць шэраг мерапрыемстваў па карэннаму палепшаньню абслугоўваньня немцаў, прасачыўшы за своячасовым іх ажыцьцяўленьнем.

Прапанаваць таксама Мазырскаму АК сумесна з нацкамісіяй ЦВК распрацаваць у месячны тэрмін шэраг мерапрыемств па паскарэньню тэмпаў забесьпячэньня працай беднаты мястэчак.

9. Прапанаваць Мазырскай парторганізацыі зьнішчыць моманты недаацэнкі значэньня комсамолу з боку шэрагу парторганізацый і ўзмацніць сваё кіраўніцтва комсамолам, забясьпечыўшы сыстэматычнае ўцягненьне комсамолу ва ўсю працу па соцыялістычнаму будаўніцтву.

10. Мазырскаму АК пасіліць масава-выхаваўчую політычную працу сярод рабочых, батракоў і бядняцка-серадняцкіх мас зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на растлумачэньне пытаньняў падрыхтоўкі контр-рэволюцыйнай вайны супроць Савецкага Саюзу і ролі ў гэтай падрыхтоўцы польскага фашызму і нацыянал-фашызму і на пытаньні замацаваньня абароназдольнасьці нашай краіны. Весьці рашучую барацьбу з дзяляцкім падыходам у шэрагу месц пры правядзеньні шэрагу політычных кампаній.

11. Мазырскаму АК правесьці шэраг мерапрыемстваў па замацаваньню парторганізацыі і перабудовы яе працы, у прыватнасьці неабходна:

а) Дабіцца рашучага пералому ў галіне ўцягненьня ў партыю рабочых, батракоў, беднякоў і колгасьнікаў.

б) Організаваць сыстэматычнае, жывое кіраўніцтва рабочымі ячэйкамі і вясковымі парторганізацыямі, асабліва колгаснымі ячэйкамі.

в) Узмацніць апарат Акругкому і Райкомаў партыі і забясьпечыць спэцыяльнае кіраўніцтва гарадзкімі ячэйкамі.

г) Забясьпечыць значнае палепшаньне партвучобы для ўсёй парторганізацыі.

д) Перабудаваць вясковыя ячэйкі па вытворча-колгаснаму прынцыпу.

12. Констатуючы недастатковасьць увагі прымежным раёнам, прапанаваць Мазырскаму АК ажыцьцявіць цэлы шэраг мерапрыемстваў для палепшаньня становішча прымежных раёнаў, у прыватнасьці:

а) Сачыць і контраліраваць своячасовае і поўнае скарыстоўваньне сродкаў, якія адпускаюцца для будаўніцтва і іншых мерапрыемстваў у прымежных раёнах.

б) Забясьпечыць узмоцненае жывое кіраўніцтва і інструктаваньне парторганізацыі ў прымежных раёнах, а таксама прыняць неабходныя меры для ўзмацненьня кіраўніцтва савецкім будаўніцтвам, палепшаньня нізавога савецкага апарату ў прымежных раёнах.

в) Узмацніць прымежныя раёны, як кіруючымі кадрамі, так і тэхнічнымі кадрамі, настаўнікамі і г. д. за лік акруговых рэсурсаў і агульна-беларускіх рэсурсаў.

г) Сачыць за поўным і сваячасовым снабжэньнем прымежных раёнаў таварамі, згодна тых пастаноў, якія маюцца. Прапанаваць Белкоопсаюзу дабіцца поўнага ажыцьцяўленьня дырэктыў аб снабжэньні прымежных раёнаў таварамі.

13. Улічваючы нездавальняючае становішча працы сярод жанчын на вёсцы, а таксама тое, што ў шэрагу месц клясава-варожыя элемэнты скарысталі жанчын дла сваёй агітацыі і барацьбы супроць колгаснага будаўніцтва, прапанаваць Мазырскаму АК пасіліць сваю працу ў галіне арганізацыі клясавага выхаваньня, уцягненьня ў соцыялістычнае будаўніцтва жанчын, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на клясавае расслаеньне сярод жанчын на вёсцы, дабіўшыся поўнай арганізацыі і ахопу масавай працай у першую чаргу бяднячак і колгасьніц, не паслабляючы сваёй працы сярод жанчын сераднячак.

14. Адзначаючы недастатковасьць увагі з боку шэрагу цэнтральных устаноў пытаньням разьвіцьця народнай гаспадаркі і ўзмацненьня кадрамі Мазырскай акругі, Бюро ЦК лічыць неабходным зьвярнуць асаблівую ўвагу ўсіх цэнтральных устаноў Беларусі на неабходнасьці ўзмацненьня ў Мазырскай акрузе індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі разьвіцьця прамысловасьці і асабліва прамысловай кооперацыі, узмацненьня кіруючымі тэхнічнымі кадрамі, палепшаньня шляхоў і жывога сыстэматычнага кіраўніцтва адпаведнымі ўстановамі Мазырскай акругі.

---

# Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б

## аб рабоце 2-й райпартарганізацыі Віцебскай акругі

Заслухаўшы даклад сакратара 2-га райкому т. Ігнатовіча і садаклад адказнага інструктара ЦК т. Рэвінскага, Бюро ЦК канстатуе: што пры агульным росьце прамысловасьці і рабочых у раёне, у асноўным здаровае становішча партарганізацыі, павялічэньне росту парторганізацыі за лік старых кадраў рабочых — у рабоце райпарторганізацыі маецца шэраг буйнейшых недахопаў у кіраўніцтве гаспадарчай і масавай працай у раёне.

У аснове гэтых недахопаў ляжыць тое, што партківаўніцтва не забясьпечыла пасьпяховага выкананьня промфінпляну, ня сумела мобілізаваць і накіраваць маючуюся рабочую актыўнасьць на выкананьне колькасных і якасных паказчыкаў промфінпляну.

У выніку ўсяго гэтага, у раёне нездавальняючае выкананьне промфінпляну. Промфінплян за 28-29 год выканан на 97,3 проц. і за першае паўгодзьдзе 29-30 г.—на 96 проц. Асабліва вялікае недавыкананьне ў першым квартале (8,8 проц.).

Якасныя паказчыкі выкананьня промфінпляну таксама нездавальняючыя. Зьніжэньне сабекошту праведзена зусім недастаткова, маецца не зьмяншэньне, а павялічэньне браку, рост прагулаў, адставаньне вытворчасьці працы ад росту зарплаты, рост адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў.

Недавыкананьне промфінпляну ў асноўным праходзіць па буйнейшым прамысловым прадпрыемствам і па мясцовай прамысловасьці (акулярная фабрыка недавыканала у першым квартале на 25,9 проц. і за паўгодзьдзе 13,4 проц., завод „Чырвоны Мэталіст“ у першым кв.—21,6 проц. і за паўгодзьдзе—12,3 проц.

З боку райкому і райпарторганізацыі, асабліва ў першым квартале, не завострывалася ўвага на гаспадарчых прарывах на буйнейшых прадпрыемствах. Райком ня даў рашучага адпору імкненьню ўкрыцца за аб'ектыўныя прычыны, ня быў сваячасова сыгналізаваны зрыў выкананьня промфінпляну.

Пры маючайся шырокай актыўнасьці рабочых мас, разгортваньні соцыялістычнага спаборніцтва і ударніцтва, у шэрагу выпадкаў добраахвотнага зьніжэньня расцэнак,—партыйныя і профсаюзныя організацыі недастаткова стаялі на чале гэтага здаровага руху і, наогул, слаба кіравалі гэтай работай. Большая частка партыйцаў і комсамольцаў усё яшчэ стаяць у баку ад соц. спаборніцтва і ўдарніцтва. З боку асобнай часткі камуністых маецца ня толькі падтрыманьне, але і супроцьдзейнічаньне разьвіцьцю соц. спаборніцтва і ўдарніцтва, правядзеньню рацыяналізацыі і добраахвотнага зьніжэньня расцэнак (справа Бараноўскай).

Адзінапачальле ажыцьцяўлена ў раёне зусім слаба. З боку адміністрацыйнага і тэхнічнага персаналу ёсьць імкненьня хавацца за грамадзкімі организацыямі і здымаць з сябе адказнасьць за пасьпяховае выкананьне промфінпляну.

Адзначаючы значны прарыў у выкананьні промфінпляну і ўлічваючы ўдзельную вагу 2-га раёну ў рэспубліканскай прамысловасьці, Бюро ЦК даручае 2-му райкому і райпарторганізацыі прыняць больш рашучыя меры да выкананьня і перавыкананьня промфінпляну, каб у 3-м квартале была поўнасьцю выканана праграма і пакрыта недавыкананьне за 1-е паўгодзьдзе. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на выкананьне якасных паказальнікаў промфінпляну.

Прыняць рашучыя меры да поўнага ўдзелу партыйцаў і комсамольцаў у соц. спаборніцтве і ўдарніцтве, павесьці рашучую барацьбу супроць асобных камуністых, якія перашкаджаюць правядзеньню рацыяналізацыі. Шырэй разгарнуць справу рацыяналізацыі на прадпрыемствах, забясьпечыць масавасьць і плянамерную работу вытворчых нарад, поўнае і сваячасовае правядзеньне ў жыцьцё прынятых прапаноў рабочых і вынаходзтва, поўнае выкарыстаньне маючыхся фондаў прэміраваньня і далейшае павялічэньне іх. Ва ўсёй гэтай працы забясьпечыць поўнасьцю актыўны ўдзел рабочых мас.

Райкому, гаспадарчым і профсаюзным органам у месячны тэрмін давесьці промфінплян да кожнага цэху, да асобных брыгад і да варштату.

ВСНГБ, АК і Райкому прыняць меры да забясьпечаньня прадпрыемства інжынэрна-тэхнічным пэрсаналам, зняцца плянамернай падрыхтоўкай кваліфікаваных кадраў рабочых, значна палепшыць кіраўніцтва рацыяналізарскімі мерапрыемствамі і

тэхнічным удасканаленьнем, забясьпечыць своечасовае зацьверджаньне і давядзеньне промфінпляну да прадпрыемства.

Райком і райпарторганізацыя не забясьпечылі дастаткова бальшавіцкай самакрытыкі ў раёне, ня гледзячы на асобы, не накіравалі яе на палепшаньне гаспадарчай і партыйна-масавай работы і недахопаў гэтай работы. Маючамуся зажыму самакрытыкі, асабліва ў скрытай і поўскрытай форме, ня было дадзена дастаткова рашучага адпору. Парторганізацыя ня сумела дабіцца своечасова адказваць на допісы ў друку і рэагаваньне на іх. Не выкарыстоўваліся больш яскравыя, канкрэтныя выпадкі зажыму самакрытыкі, каб на гэтых прыкладах вучыць організацыю, як весьці барацьбу з зажымам самакрытыкі і яе далейшае разьвіцьцё.

Бюро ЦК даручае 2-му Райкому і райпарторганізацыі ў далейшым павесьці рашучае разгортваньне самакрытыкі, ня гледзячы на асобы. Рашуча весьці барацьбу з адкрытай і скрытай формай зажыму самакрытыкі, дабіцца своечасовай дачы адказаў на допісы ў друку, уключна да прыцягненьня да партыйнай і судовай адказнасьці. Узмацніць і больш плянамерна праводзіць парт. кіраўніцтва друкам і рабкорамі, забясьпечыўшы заводзкаму друку своечасовае і дастатковае асьвятленьне іх галоўнейшых пытаньняў гаспадарчага, масавага і палітычнага жыцьця, забясьпечыўшы ў ёй разьвіцьцё самакрытыкі ўсіх маючыхся недахопаў на прадпрыемствах.

Профсаюзныя організацыі на прапрыемствах усё яшчэ не перабудавалі сваёй работы і важнейшыя пытаньні промфінпляну і вытворчай програмы праходзяць міма профсаюзных організацый. У працы профсаюзаў адсутнічае штодзённая работа з старымі кадрамі рабочых. Ня гледзячы на вялікі прыток новых рабочых на вытворчасьці, профсаюзы дагэтуль не вядуць сярод іх спэцыяльнай работы па зжываньню сярод іх адсталых і дробна-буржуазных настрояў.

Партыйнай і проф. організацыі раёну ўдзяліць асаблівую ўвагу пытаньню сыстэматычнага абслугоўваньня розных груп рабочых (старыя кадры рабочых, уноў прыйшоўшыя, зьвязаныя з вёскай), а таксама больш рашуча ўцягваць у грамадзкую масавую працу інжынэрна-тэхнічны персанал раёну.

Профсаюзным органам на прадпрыемствах у кароткі тэрмін перабудаваць сваю работу і ў бліжэйшы час дабіцца поўнага выкананьня дырэктыў УсеЦСПС у павароце тварам да вытворчасьці. Дабіцца штодзённага і сталага кіраўніцтва масавымі вытворчымі організацыямі (вытворчыя нарады, бюро рацыяналізацыі, ТНБ і г. д.). Замацаваць маючыяся посьпехі ўдзелу рабочых у правядзеньні колектывізацыі сельскай гаспадаркі і пасеўнай кампаніі і ў далейшым праводзіць больш плянамерную і сталую работу ў гэтым напрамку. Замацаваць працу культзмычкі і шэфства рабочых над калгасамі і сельскагаспадарчымі раёнамі.

Партыйным і профсаюзным органам зьвярнуць больш увагі шэфству рабочых над савецкімі ўстановамі, праводзячы гэтую работу, як адну з масавых з шырокім уцягненьнем рабочых.

Вылучэньне рабочых праводзіць больш плянамерна, весьці большую падрыхтоўчую работу, пэрыядычна праводзіць інструктаваньне і садзейнічаньне ў практычнай рабоце вылучэнцаў. Зрабіць рашучы пералом па вылучэньню работніц, а таксама найбольш актыўную частку беспартыйных рабочых.

ЦК канстатуе, што Райком і райпарторганізацыя недастаткова займаліся нац. пытаньнямі ў раёне, недаацэньвалі ўсёй палітычнай важнасьці правядзеньня нац. палітыкі, недастаткова рашуча праводзілі барацьбу з выпадкамі і вылазкамі антысэмітызму і шовінізму, недастаткова праводзілі работу па інтэрнацыянальнаму выхаваньню рабочых і растлумачэньню палітыкі партыі ў нацыянальным пытаньні. Беларусізацыя ў раёне праведзена слаба і з боку райкому і райпарторганізацыі ня было праяўлена рашучасьці ў правядзеньні беларусізацыі. Не заўсёды даваўся адпор тым, хто супроцьдзейнічаў правядзеньню беларусізацыі і прымірэнча адносіўся да гэтага.

Праводзячы барацьбу з выпадкамі антысэмітызму і рознага роду шовінізму, парт. організацыя не рашуча даводзіла гэту барацьбу да канца (антысэміцкая вылазка на МББ) і не заўсёды мобілізавала партыйную рабочую грамадзкасьць да адпору гэтым вылазкам і прымірэнцтвам да іх.

Райкому і райпарторганізацыі прыняць меры да зьнішчэньня адзначаных недахопаў, больш рашуча праводзіць беларусізацыю ў раёне, адначасова даючы адпор праяўленьню нацыянал-дэмократызму, вядучы рашучую барацьбу з выпадкамі і вылазкамі антысэмітызму і рознага роду шовінізму, праводзіць плянамерную і сыстэматычную работу па інтэрнацыянальнаму выхаваньню рабочых і растлумачэньню нац. палітыкі партыі, разгарнуць работу па абслугоўваньню культурныхпатрэб рабочых на іх роднай мове.

Адзначаючы, што ў парторганізацыі за апошні тэрмін маецца рост за лік старых кадраў рабочых у організацыі ўсё яшчэ адсутнічае плянамерная работа па ўцягненьню лепшай часткі рабочых у партыю, слабы рост за лік работніц і комсамольцаў.

Райкому ў далейшым забясьпечыць больш плянамерны рост парторганізацыі за лік лепшых рабочых кадраў ад варштату і асабліва за лік лепшых грамадчыц і ўдарніц, павялічваючы партыйную праслойку рабочых на прадпрыемствах.

Райкому і райпарторганізацыі весьці больш рашучую барацьбу з маючыміся асобнымі праявамі ўхілаў ад генэральнай лініі партыі, правым ухілам у тэорыі і на практыцы, „левымі“ загібамі, з рэшткамі трацкісцкай ідэолёгіі і прымірэнчымі адносінамі да гэтых ухілаў. Больш разгарнуць праврацоўку важнейшых пытаньняў тэорыі і практыкі ЎсеКП і Комінтэрну.

Райкому прыняць меры на больш сталае і штодзённае кіраўніцтва ЛКСМ, накіроўваючы работу ЛКСМ на большае ахопліваньне працоўнай моладзі на прадпрыемствах, большае ўцягненьне ЛКСМ у вытворчую і масавую работу.

Адзначаючы, што найбольш слабым месцам у рабоце парторганізацыі зьяўляецца работа цэхавых ячэек і цэхавых організацый, Райкому і райпарторганізацыі неабходна рашуча ўзяцца за ўзмацненьне работы цэхавых ячэек і цэхавых масавых організацый, усямерна ўзмацняць парткіраўніцтва ў цэху, ствараць умовы, каб цэхавыя організацыі поўнасьцю вырашалі і праводзілі гаспадарчую і масавую работу ў цэху, забясьпечыць плянавасьць у іх рабоце, дапамогу і жывое кіраўніцтва.

Маючымся з боку асобных партыйцаў гаспадарнікаў настроем уйсьці ад адказнай работы і цяжкасьцяй, даваць рашучы адпор з асуджэньнем гэтых учынкаў з боку партыйнай грамадзкасьці.

Бюро ЦК даручае АК прыняць меры да ўзмацненьня партработнікамі 2-га раёну, больш рашуча і шырока паставіць работу па падрыхтоўцы партыйных кадраў у раёне, зьвярнуць больш увагі рабоце 2-га раёну і асабліва чыгуначнаму вучастку МББ.

Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу ЦК праз 3 месяцы праверыць на месцы як праходзіць ажыцьцяўленьне гэтага рашэньня.

# Рэзолюцыя Сакратарыяту ЦК КП(б)Б

## на дакладу аб рабоце партколектыву ф-кі „Чырвоная Бярэзіна"

Заслухаў даклад Сакратара Партколектыву т. Чорнага аб рабоце партколектыву ф-кі „Чырвоная Бярэзіна" і садаклад інструктара ЦК т. Браварнік, Сакратарыят ЦК лічыць работу партколектыву нездавальняючай. ЦК адзначае, што:

1. Партколектыў, фабком і адміністрацыя ня здолелі мобілізываць ініцыятывы, актыўнасьці і ўвагі шырокіх колаў рабочых і работніц фабрыкі па канкрэтных задачах па выкананьню промфінпляну, у выніку чаго фабрыка „Чырвоная Бярэзіна" ня выканала заданьня па промфінпляну за 1 паўгодзьдзе (93,4 проц. выпуск прадукцыі, 91,8 проц. вытворчасьць працы; зьніжэньне сабекошту на 5.7 проц. замест 12,3 проц.; дрэнная якасьць прадукцыі і г. д.).

Асноўныя дырэктывы партыі аб правядзеньні адзінаначальля, давядзеньне промфінпляну да цэху, брыгады, палепшаньне кіраўніцтва соц. спаборніцтвам і работай ударных брыгад не праведзены ў жыцьцё.

2. Разгортваньне новай фабрыкі і работы яе на экспорт ідзе зусім нездавальняюча: 1) нескарыстаньне ўсяго абсталяваньня, 2) дрэннае забесьпячэньне кваліфікаванай рабочай сілай і спэцыялістымі, 3) спазьненьне з устанаўленьнем норм і расцэнак, 4) спазьненьне з устаноўкай вэнтыляцыі і інш. мерапрыемств па ахове працы.

3. Структура і зьмест работы партыйнай, прафэсыянальнай організацыі на ф-цы не адпавядае запатрабаваньням сучаснага моманту—задачы павароту „тварам да вытворчасьці" і перанясеньню цэнтру цяжкасьці ўсёй работы ў цэх. Уся работа сканцэнтравана ў верхавіне бюро партколектыву, фабкому, заводакіраўніцтве.

ЦК адзначае як буйную памылку партколектыву і фракцыі фабкому зусім нязначнае прыцягненьне нізавога парт. і проф. актыву да практычнай работы, што выцякае з недаацэнкі сіл нізавога актыву.

4. ЦК адзначае, што частка партаколектыву не зразумела політыкі партыі па пытаньню колектывізацыі вёскі (рэзолюцыі ячэйкі набівачнага цэху II зьмены аб студзеньскім пленуме: „Ліквідацыі кулацтва, як клясы ў вёсцы і нэпмана ў горадзе"; устаноўка на 100 проц. колектывізацыю падшэфнага сельсавету, недастатковая растлумачальная работа на фабрыцы ў часе высяленьня кулакоў).

Пытаньні барацьбы з перагібамі у справе колектывізацыі (артыкулы т. Сталіна, пастановы ЦК) партколектывам не прапрацаваны і не растлумачаны рабочым фабрыкі.

5. Бюро партколектыву недастаткова зьвярнула ўвагу на бальшавіцкае выхаваньне партыйцаў і ня згуртавала ўвагу ўсяго партколектыву на барацьбу з канкрэтнымі праявамі ўхіленьня ад генэральнай лініі партыі. Наглядаецца шэраг адмоўных зьявішч як рвацтва, хвасьцізм, недысцыплінаванасьць і г. д. Сярод асобных партыйцаў маюць месца незразуменьне сутнасьці ўхілаў ад генэральнай лініі партыі і неабходнасьці барацьбы з імі.

Вельмі дрэнна абстаіць справа з партвучобай (якасьць, ахоп) і з выхаваньнем кандыдатаў партыі, асабліва новых пластоў (моманты рвацтва, невыкананьне партабавязкаў, дрэнная партдысцыпліна). Партколектыў праявіў халатныя, бюрократычныя адносіны да ўноў паступаючых у партыю (марынаваньне заяў, „няхай раней падучыцца, а потым возьмем у партыю"). Асабліва недапушчальныя адносіны Бюро партколектыву да колектыўнай заявы рабочых аўтаматнага цэху аб уступленьні ў партыю (не аформлены, не ахоплены парт. вучобай і г. д.). Ня створана была партыйна-грамадзкая думка вакол колектыўнай заявы рабочых аўтаматнага цэха.

6. Сакратарыят ЦК лічыць, што кіраўніцтва Лесбелу фабрыкай было недастаткова. У прыватнасьці Лесбел дрэнна кіраваў пускам новай фабрыкі „Пролетарская Перамога", не забясьпечыў поўны пуск электрастанцыі, што затрымлівае нармальную работу фабрыкі. Лесбел ня прыняў належных мерапрыемств да падрыхтоўкі кваліфікаванай рабсілы для новай фабрыкі і стварэньня ўмоў для праверкі і палепшаньня якасьці прадукцыі (організацыя лябараторыі і інш.)

7. ЦК канстатуе, што Барысаўскім РК партыі ня была сваячасова зьвернута ўвага на нездавальняючае становішча парт. і проф. работы на фабрыцы, на сыстэматычныя гаспадарчыя прарывы і непаладкі ў рабоце новай фабрыкі. Бюро РК не паставіла гэтых пытаньняў перад адпаведнымі організацыямі (ОК, Лесбел, ВСНГ) партколектывам і рабочымі фабрыкі, каб завастрыць увагу на выпраўленьне ўсіх маючыхся недахопаў на фабрыцы.

Выходзячы з гэтага, Сакратарыят ЦК пастанаўляе:

1. Прыняць да ведама пастанову Бюро РК ад 15-III аб аслабаненьні сакратара партколектыву ад работы і зьмене парткіраўніцтва фабрыкі.

2. У справе палепшаньня гаспадарчага становішча фабрыкі даручыць ВСНГ і Лесбелу:

а) У 2-х тыднёвы тэрмін правесьці канкрэтныя мерапрыемствы па забясьпячэньню фабрыкі спэцыялістымі, па пераводу работы фабрыкі—„Пролетарская Парамога" на экспорт.

б) Забясьпечыць неабходнымі часткамі для пуску другога катла на элекростанцыі, мантажу, аўтаматаў і інш. машын новай фабрыкі, у адпаведнасьці з неабходнасьцю работы на экспорт (з 3/4 на 4/4).

в) ВСНГ забясьпечыць пабудову вузкакалейкі для падвозу торпу да электростанцыі.

г) Лесбелу і заводакіраўніцтву не пазьней як праз 2 тыдні скласьці канкрэтны плян падрыхтоўкі і забясьпячэньня кваліфікаванай рабсілы для новай фабрыкі, асабліва для работы на экспорт.

д) Лесбелу праверыць праз 1 месяц выкананьне дырэктыў аб правядзеньні адзінаначальля ў жыцьцё.

е) Лесбелу і заводакіраўніцтву ў месячны тэрмін вырашыць пытаньне аб організацыі лябараторыі і інш. мерапрыемств па палепшаньню якасьці прадукцыі па запалкам.

Заводакіраўніцтву фабрыкі ў 2-х тыднёвы тэрмін правесьці давядзеньне промфінпляну да ўсіх цэхаў і брыгад. Паставіць сталы вучот вынікаў работы па соцспаборніцтву ва ўсіх ударных брыгадах. Замацаваць практыку падвядзеньня вынікаў вытворчай работы па 10-днеўкам.

3. Бюро парткалектыву і фракцыі фабкому зараз-жа правесьці рэорганізацыю структуры парт. ячэек і проф. бюро, узяўшы напрамак на організацыю цэхавай ячэйкі і профбюро (цэхкамітэты) з абслугоўваньнем ёю ўсіх зьмен. Аформіць і ажывіць работу „трохкутнікаў" у брыгадах. РК і ЦП Саюзу Хэмікаў праз месяц праверыць выкананьне гэтага.

Бюро колектыву, фракцыя фабкому павінны таксама перабудаваць зьмест сваёй работы ў напрамку перанясеньня цэнтру цяжкасьці работы ў цэх, брыгаду з тым, каб асноўныя пытаньні жыцьця данага цэху вырашаліся непасрэдна ў цэхавых організацыях. Ізжыць дробную апеку з боку бюро партколектыву, фабкома і заводакіраўніцтва, нізавых зьвеньняў парт. і проф. організацый і цэх адміністрацыі.

ЦК зварочвае асаблівую ўвагу партколектыву і фабкому на неабходнасьць замацаваньня нізавых звеньняў парт. і проф. організацыі шляхам: лепшага падбору актыву на кіруючую работу ў склад сакратароў, бюро ячэек і профбюро; практычнай дапамогі нізавым звеньням у перабудове работы „тварам да вытворчасьці", набліжэньня кіраўніцтва да нізавых вытворчых зьвеньняў—брыгад, палепшаньня якасьці парт. і проф. кіраўніцтва соцыялістычным спаборніцтвам і работай ударных брыгад.

ЦК даручае бюро партколектыву і РК неадкладна ўзмацніць работу па бальшавіцкаму выхаваньню членаў і кандыдатаў партыі. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на падвышэньне палітычнага ўзроўню партыйцаў, завастраючы пытаньні барацьбы з правым ухілам ад генэральнай лініі партыі, як галоўнай небясьпекі на даным этапе і барацьбы з „левымі" загібамі, без якой немагчыма сапраўды весьці барацьбу з праваопортуністычнай небясьпекай, а таксама праводзіць неаслабную барацьбу з рэшткамі трацкісцкай ідэолёгіі. Растлумачыць шырокім колам парт. і беспартыйных рабочых апошнія пастановы і парторганізацыі і артыкулы Сталіна па пытаньню колектывізацыі.

ЦК зварочвае асобна ўвагу партколектыву фабрыкі на неабходнасьць падняцьця партдысцыпліны ўсіх членаў і асабліва кандыдатаў партыі.

4. ЦК прапануе бюро партколектыву і фракцыі фабкому перабудаваць формы і зьмест усёй культмасавай работы ў напрамку прыстасаваньня форм работы да абслугоўваньня розных груп рабочых (новыя і старыя рабочыя, работніцы, рабочыя розных нацыянальнасьцяў і г. д.) і падпарадкаваньне зьместу работы да асноўнай задачы—выкананьня промфінпляну і падняцьця клясавай сьвядомасьці рабочых фабрыкі.

Больш масава разгарнуць вытворча-тэхнічнае навучаньне рабочых (па прыкладу ячэйкі электростанцыі), а таксама разгарнуць работу па ахопу і організацыі вытворчай ініцыятывы рабочых і работніц праз організацыю рацыяналізатарскіх груп, гурткоў „тэхніка—масам", вынаходніцкіх груп і г. д.

Фракцыі фабкому зьвярнуць увагу на справу ліквідацыі няпісьменнасьці, асабліва сярод работніц. Прыстасаваць працу па лікбезу да бытавых умоў работніц, непарыўнай і зьменавай работы фабрыкі.

5. У сувязі з перабудовай партработы сярод работніц, ЦК прапануе партколектыву і фракцыі фабкому пасіліць гэту работу ў напрамку: ахопу дэлегацкімі сходамі новых пластоў работніц; вядзеньня асобнай работы з ударніцамі (нарады, конфэрэнцыі і інш.); падняцьцё кваліфікацыі работніц па асобным спэцыяльнасьцям; організацыі актыўнасьці работніц на вырашэньне пытаньняў бытавога абслугоўваньня, уцягненьня лепшых старых работніц і ўдарніц у партыю і комсамол; вылучэньне работніц на кіруючую работу на фабрыцы і ўне фабрыкі. Уся работа сярод работніц павінна быць асноўнай работай партколектыву і фабкому цалкам.

6. Лічучы, што партколектыў не дабіўся станоўчых вынікаў у справе разгортваньня самакрытыкі, ЦК прапануе партколектыву паставіць у цэнтры ўвагі сваёй работы больш рашучае разгортваньне самакрытыкі і асабліва рэалізацыю прапаноў рабочых і работніц, унесеных у парадку самакрытыкі, павесьці рашучую барацьбу супроць зажымшчыкаў і глушыцелей самакрытыкі. ЦК указвае партколектыву, што невыкананьне прапаноў рабочых ёсьць грубейшае парушэньне і скажэньне лініі партыі. Самакрытыка без рэалізацыі яе на справе ёсьць аб'ектыўна зажым, скампрамэтаваньне самога сэнсу самакрытыкі.

Асаблівую ўвагу партколектыву трэба зьвярнуць на падняцьцё аўтарытэту фабрычнай газэты „Чырвоны Бярэзінец", дабіваючыся ад усіх фабрычных організацый увагі і выкананьня прапаноў, уносімых рабочымі і работніцамі праз газэту, каб газэта сапраўды стала організатарам рабочых мас фабрыкі ў справе барацьбы за выкананьне промфінпляну, супроць прагульшчыкаў і дэзорганізатараў вытворчасьці.

Арганізаваць сталую работу вакол газэты з актывам яе—рабкорамі.

7. У справе росту партыі бюро партколектыву павінна зьвярнуць увагу на:

1) Узмацненьне тэмпу вярбоўкі рабочых і работніц у партыю, асабліва—ударніц.

2) Больш чулыя адносіны да ўноў уступаючых у партыю (хутчэйшага афармленьня, організацыі спэцыяльных гурткоў для ленінскага, сталінскага закліку) і ўступіўшых у час чысткі партыі. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на бальшавіцкае выхаваньне новых пластоў партыі ў камуністычным цэху, зрабіўшы гэты цэх паказальным у справе выкананьня промфінпляну і інш. вытворчых паказальніках (павышэньне працдысцыпліны, прадукцыйнасьці працы і інш.).

Лічучы, што для вярбоўкі рабочых у партыю на фабрыцы маецца яшчэ вялікі рэзэрв, ЦК прапануе партколектыву ўзмацніць тэмп вярбоўкі, зрабіўшы гэту работу больш плянавай, ізжываючы кампанейшчыну і скачкаабразнасьць. Асноўнымі кадрамі для вярбоўкі ў партыю павінны быць ударныя брыгады, лепшыя старыя рабочыя і работніцы, паказаўшыя сваю адданасьць вытворчасьці.

Дзеля гэтага ЦК прапануе: узмацніць бальшавіцкае выхаваньне самой парторганізацыі на фабрыцы з тым, каб кожны камуніст быў прыкладным на вытворчасьці: склікаць час ад часу нарады старых рабочых і работніц па асноўным пытаньням вытворчасьці, партпалітыкі; выносіць на абгаварэньне рабочых шэраг асноўных пастаноў партколектыву для іх папулярызацыі і г. д.

8. Практыка вылучэньня і падрыхтоўка кадраў павінна быць палепшана ў бок рашучага вылу-

чэньня беспартыйных рабочых і работніц; сапраўднага вылучэньня работніц на кіруючую работу, як на прадпрыемстве, гэтак і на савецкую, прафэсійную і коопэрацыйную работу, сталай падрыхтоўкі вылучэнцаў да і пасьля вылучэньня.

Даручыць трэсту Лесбел, РК у двухтыднёвы тэрмін праверыць якасьць работы курсаў загадчыкаў цэхаў з пункту погляду падрыхтоўкі адміністратараў цэхаў.

9. Бюро партколектыву і РК КСМ зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на ўзмацненьне кіраўніцтва КСМ організацыі. Перабудаваць структуру і зьмест работы ў адпаведнасьці з перабудовай парт. і проф. організацыяй; дабіцца пагалоўнага ўдзелу КСМ у соц. спаборніцтве і ўдарных брыгадах.

10. Даручыць Барысаўскаму РК організаваць праверку праз 2 месяцы выкананьня дадзеных дырэктыў і далажыць ЦК.

---

# Пастанова ўсебеларускай нарады рэдактароў фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт

*(Зацьверджана сакратарыятам Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б)*

1. Асноўныя паказчыкі выкананьня прамфінпляну прамысловасьці БССР за 1929-30 год (рост валавай продукцыі на 77 проц., падвышэньне вытворчасьці працы на 35 проц., зьніжэньне сабекошту на 11 проц. і падвышэньне зарплаты на 9 проц.) сьведчаць аб надзвычайна вялікіх посьпехах рабочае клясы, якая пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі ажыцьцяўляе будаўніцтва сацыялізму ў краіне Саветаў. Прамфінплян, акрамя яго значэньня для далейшага разгортваньня сацыялістычнага будаўніцтва ўнутры СССР, мае вялічэзнае значэньне і для міжнароднага рабочага руху.

2. Фабрычна-заводзкія друкаваныя газэты, якія атрымалі асабліва значнае разьвіцьцё зараз у час рэканструкцыйнага пэрыяду, набываюць вялізарную ролю, як аднэй з моцных зброй камуністычнай партыі і ўсяе пралетарскае грамадзкасьці ў справе мабілізацыі актыўнасьці шырачэзных рабочых мас навокал справы выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну.

Усебеларуская нарада рэдактароў фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт, адзначаючы значна ўзрослую ролю і вагу фабрычна-заводзкіх газэт у агульнай барацьбе за прамфінплян (на заводзе Мэтпром, дзякуючы кампаніі шматтыражкі, дасягнута значная эканомія выдаткаў па малярнаму цэху, газэта „Трускі" правяла агляд работы вытворчых нарад і г. д.), разам з гэтым лічыць на фоне тых вялізарных задач, якія высоўваюцца перад усім партыйна-савецкім друкам шпаркімі тэмпамі сацыялістычнага будаўніцтва, што практычная работа фабрычна-заводзкіх газэт у адносінах барацьбы за прамфінплян пакуль-што зьяўляецца недастатковай і нездавальняючай, а таксама недастаткова разгорнута масавая работа навакол шматтыражак.

Шматтыражкі і насьценныя газэты з значным спазьненьнем пачалі разгортваць барацьбу за прамфінплян, ня гледзячы на наяўнасьць пастановы ЦК УсеКП(б) ад 9 мая 1929 г., у якой былі дадзены вычарпальныя заданьні фабрычна-заводзкаму друку па асноўных пытаньнях барацьбы за прамфінплян.

Нізавы друк да гэтага часу ня здолеў арганізаваць пільнага сталага нагляду над ходам вытворчасьці і не праявіў патрэбнай ініцыятывы ў барацьбе са шкодніцтвам. Падаўляючая большасьць нізавога друку і рабкораў сваячасова не сыгналізавалі аб прарывах у выкананьні прамфінпляну і не аказаліся ў першых шэрагах ударніцкага руху, у арганізацыі і адбіцьці на сваіх старонках новых працэсаў у рабочай клясе (ударныя брыгады і цэхі, камуністычныя цэхі, вытворчыя камуны і г. д.), нізавы друк у шмат якіх выпадках ня граў ролі застрэльшчыка і арганізатара. Шмат якія газэты зьяўляюцца больш наглядальнікамі з боку, чым сапраўднымі арганізатарамі ініцыятывы вытворчага ўздыму мас і новых, абагуленых форм вытворчасьці.

Наяўнасьць гэтых буйнейшых недахопаў, як у рабоце фабрычных газэт, гэтак і рабкораўскім руху абумоўлена няўменьнем шмат якіх рэдкалегій гнутка і ў найкарацейшы тэрмін перайсьці на новыя мэтады і тэмпы работы, а таксама нездавальняючым кіраўніцтвам работай сярод рабкораў і фабрычных газэт з боку партыйных арганізацый і рэдакцый цэнтральных і акруговых газэт.

Чацьвертая ўсесаюзная нарада не паставіла перад рабселькорамі з дастатковай паўнатой і чоткасьцю асноўных задач барацьбы за генэральную лінію партыі, не мабілізавала рабкораўскіх мас вакол задач рэканструкцыйнага пэрыяду, што не магло не адбіцца на агульным становішчы рабселькораўскага руху.

Усебеларуская нарада асабліва выпукляе і падкрэсьлівае наяўнасьць у асобных газэтах небясьпекі патураньня адсталым настроям і аб'ектыўнага змазваньня неабходнасьці мабілізацыі ўсёй рабочай масы навакол выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну (як гэта мела месца ў паасобных нумарох газэты „Шэр ун Айзен"—Віцебшчына і „Краснае Шыло"—Гомельшчына).

3. Асноўнай гаспадарча-палітычнай задачай, разьлічанай на доўгі час, зьяўляецца самая ўпартая бальшавіцкая барацьба ўсяго нізавога друку—пачынаючы фабрычна-заводзкімі друкаванымі газэтамі і канчаючы цэхавымі насьценнымі газэтамі—за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну. Фабрычна-заводзкі друк павінен зараз перайсьці на вышэйшую ступень паглыбленай штодзённай барацьбы за прамфінплян, праводзіць бязьлітасную і рашучую барацьбу за генэральную лінію камуністычнай партыі, супроць правага ўхілу і прымірэнчых адносін да яго, як найбольш небясьпечнага на даным этапе, супроць троцкісцкіх настрояў і „левых" загібаў, супроць беларускага нацыянал-дэмакратызму і шавінізму ўсіх іншых колераў, супроць усіх скажэньняў ленінскай лініі партыі. Гэткі падвышаны крытэры патрабаваньняў да газэты ў сваю чаргу патрабуе значнага палепшаньня і ўдасканаленьня форм і мэтадаў работы шматты-

ражак і насьценных газэт, іх большай гнуткасьці і завостранай палітычнай чуласьці і яшчэ большай штодзённай сувязі з рабочай масай.

Уся работа рабкораў і нізавога друку павінна быць падначалена справе барацьбы за прамфінплян, за падрыхтоўку і правядзеньне бальшавіцкай веснавой пасеўнай кампаніі, за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў, за ахоп прасьцейшымі відамі каапэрацыі індывідуальных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, за рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, правядзеньне ліквідацыі кулацтва, як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі. Кожны рабкор на прадпрыемстве, кожны селькор у вёсцы павінен быць стойкім правадніком лініі партыі ўва ўсёй сваёй штодзённай рабоце. Той не рабкор, хто не зьяўляецца ўдарнікам, арганізатарам палепшаньня вытворчасьці.

На канкрэтных фактах свайго прадпрыемства, зразумелых і блізкіх кожнаму рабочаму і работніцы, фабрычна-заводзкія друкаваныя і насьценныя газэты павінны садзейнічаць ажыцьцяўленьню завету т. Леніна аб тым, што „...камунізм пачынаецца там, дзе праяўляецца самаадданы, перамагаючы цяжкую працу, клопат аб павялічэньні вытворчасьці працы, аб ахове кожнага пуда хлеба, вугля, жалеза і інш. прадуктаў, якія дастаюцца не асабіста працуючым, і ня іх „бліжнім“, але „дальнім“, г. зн. усёй грамадзе, у цэлым, дзесяткам і сотням мільёнаў („Вялікі пачын“).

Не распыляючыся на шэраг дробных пытаньняў, фабрычна-заводзкія друкаваныя і насьценныя газэты ў сваёй барацьбе за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну павінны зрабіць упор на наступных пытаньнях кіруючыся пастановай апошняга пленуму Цэнтральнага камітэту КП(б)Б па пытаньнях прамфінпляну:

а) Садзейнічаць практычнаму замацаваньню і далейшаму разгортваньню сацыялістычнага спаборніцтва, у прыватнасьці—садзейнічаць вырашэньню пытаньня аб кіраўніцтве ўдарнікамі, ставячы гэтае пытаньне, як адно з асноўных, рашаючых і цэнтральных пытаньняў арганізацыі працы на вытворчасьці, якое павінна забясьпечыць яшчэ больш вытворчы ўздым рабочае клясы—сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцкага руху, поўнае выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну.

б) Яшчэ шырэй разгарнуць штодзённую барацьбу за падвышэньне ўсіх якасных паказчыкаў прамфінпляну, у прыватнасьці за зьніжэньне сабекошту прадукцыі шляхам максымальнай мабілізацыі ўсіх унутраных рэзэрваў і рэсурсаў прадпрыемстваў, ажыцьцяўленьня жорсткага рэжыму эканоміі, застаўленьня гэткіх норм выпрацоўкі, якія-б выходзілі з установкі на лепшага рабочага, давядзеньня прамфінпляну да кожнага варштату і г. д. Удараючы па непаладках унутры прадпрыемства, наш друк павінен на канкрэтных прыкладах таксама паказваць узаемную залежнасьць аднаго прадпрыемства ад другога ў адносінах вытворчага ўзаемаабслугоўваньня. Наш друк павінен ня толькі канстатаваць ужо маючыяся прарывы, але павінен своячасова папярэджваць, сыгналізываць аб тых прарывах, якія могуць быць.

в) Ва ўвесь рост паставіць пытаньне аб значэньні неабходнасьці хутчэйшага практычнага ажыцьцяўленьня і зразуменьня ўсёй рабочай масай пастановы ЦК УсеКП(б) аб правядзеньні адзіначальля, як пытаньня, вырашэньне якога ўпарадачыць і палепшыць кіраўніцтва прамысловасьцю і зьяўляецца аднэй з важнейшых умоў забесьпячэньня выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну.

г) Садзейнічаць хутчэйшаму перарастаньню сацыялістычнага спаборніцтва ў новую стадыю яго арганізацыйнага замацаваньня з тым, каб дабіцца правільнай арганізацыі кіраўніцтва сацыялістычным спаборніцтвам і ператварэньня яго ў штодзённы мэтад усёй нашай работы. Шырэй скарыстоўваць мэтад чырвоных і чорных дошак, як мэтад стымуляваньня вытворчага ўздыму працоўных мас. Заносячы той ці іншы цэх альбо прадпрыемства на чорную дошку, газэта абавязана дапамагчы прадпрыемству альбо цэху дабіцца зьняцьця з чорнай дошкі, шляхам разгортваньня барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну і гэтым самым за зьняцьце з чорнай дошкі, як на старонках газэты, гэтак і шляхам масавай ініцыятыўнай работы навакол газэты.

д) Шматтыражкі і насьценыя газэты павінны садзейнічаць пераключэньню энтузіязму рабочых мас на навуковую арганізацыю вытворчасьці, ажыцьцяўленьне сацыялістычнай рацыяналізацыі. Шматтыражкі павінны рэгулярна выдаваць тэхнічныя лісткі, прыцягваючы да ўдзелу ў іх інжынэраў і гаспадарнікаў.

е) Асаблівую ўвагу зьвярнуць рабоце вытворчых нарад і камісій, як актыўнай сілы, якая непасрэдна ўплывае на выкананьне прамфінпляну, дабіваючыся большай актывізацыі вытворчых нарад і камісій у справе барацьбы за прамфінплян. Разам з гэтым шматтыражкі павінны прыцягнуць да ўдзелу ў газэце гаспадарча-тэхнічны пэрсанал, ствараючы на глебе разгортваньня самай шырокай крытыкі і самакрытыкі дзелавыя ўзаемаадносіны ўсёй грамадзкасьці прадпрыемства і гаспадарча-тэхнічнага пэрсаналу па сумеснай рабоце над выкананьнем і перавыкананьнем прамфінпляну. Гаспадарчы і адміністрацыйна-тэхнічны пэрсанал павінен бачыць у фабрычна-заводзкім друку свайго актыўнага грамадзкага дапаможніка ў справе выкананьня вытворчых праграм. Разам з гэтым з усёй сілай узьдзейнічаньня думкі пралетарскай грамадзкасьці трэба біць па ўсіх тых, хто ігнаруе выкрываўчую работу газэт і тыя каштоўныя вытворчыя прапановы, якія паступаюць у нізавы друк з боку рабочых і служачых.

ж) Арганічна зьвязаць барацьбу за падвышэньне рэальнай заработнай платы з справай неабходнасьці выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну. Шматтыражкам зьвярнуць асаблівую ўвагу на работу спажывецкай каапэрацыі, дзейнасьць якой набывае выключнае значэньне ў забесьпячэньні практычнага выкананьня дырэктыў аб падвышэньні рэальнай заработнай платы.

з) Пільную ўвагу зьвярнуць як асьвятленьню, так і пастаноўцы пытаньняў, зьвязаных з перабудовай масавай партыйнай і прафсаюзнай работы ў цэху і на прадпрыемстве, а таксама перабудовы работы апаратаў прамысловасьці.

4. Фабрычна-заводзкія друкаваныя і насьценныя газэты, канцэнтруючы асноўную ўвагу на рашаючых зьвеньнях, якія забясьпечваюць выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, павінны разам з гэтым зьвязваць разгортваньне барацьбы за прамфінплян з разгортваньнем самай шырокай масавай і „не взирающей на лица“ самакрытыкі, як мацнейшай зброі ў барацьбе за выкананьне прамфінпляну, павінны арганічна зьвязываць з бязьлітас-

най барацьбой, з праявамі правай практыкі, з праявамі „левых“ загібаў, уздымаючы барацьбу за прамфінплян на прынцыповую палітычную вышыню барацьбы за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі камуністычнай партыі.

5. Нарада падкрэсьлівае важнейшае значэньне неабходнасьці дабіцца дзейнасьці ўсіх зьмяшчаемых у газэтах допісаў, без чаго ня можа быць практычна забясьпечана дзелавая эфэктыўнасьць барацьбы пралетарскай грамадзкасьці за прамфінплян. Нерэагаваньне на зьмяшчаемыя ў друку допісы і неабгрунтаваныя адказы на допісы павінны разглядацца, як праявы бюракратычных адносін і зажыму самакрытыкі. Трэба значна ўзмацніць работу бюро расьсьледваньняў пры рэдкалегіях, якія пры дапамозе ўсёй пралетарскай грамадзкасьці павінны забясьпечваць дзейнасьць зьмяшчаемых матар'ялаў. Нарада выказваецца за правядзеньне рэдкалегіямі шматтыражак і насьценных газэт масавых вечароў адказаў на допісы, правядзеньне ўсімі рэдакцыямі, разам з РСІ і лёгкай кавалерыяй, 10-дзёньніка масавай праверкі рэагаваньня на допісы, арганізацыі шэрагу паказальных судоў над тымі, хто не адказвае на допісы.

6. Шматтыражкі і насьценныя газэты, разгортваючы самую шырокую крытыку нашых недахопаў, павінны разам з гэтым ператварыць у жыцьцё словы тав. Леніна аб тым, што „...нехапае ў нас уменьня скарыстаць лепшыя ўзоры, каб зрабіць іх прыкладамі, абавязковымі для ўсіх“. Шматтыражкі і насьценныя газэты павінны навучыцца паказваць нашы сапраўдныя дасягненьні, паказваючы і тое, як гэтыя дасягненьні атрымаліся, з тым, каб на канкрэтных станоўчых прыкладах выхоўваць рабочыя масы.

7. Нарада канстатуе нездавальняючае кіраўніцтва работай шматтыражак і насьценных газэт з боку пераважнай часткі партыйных ячэек і рэдакцый акруговых газэт, а таксама нездавальняючую дапамогу з боку прафсаюзных арганізацый, гаспадарнікаў, інжынэрна-тэхнічных сіл. Нарада асабліва адзначае амаль поўную адсутнасьць кіраўніцтва работай фабрычных друкаваных і насьценных газэт з боку цэнтральных газэт БССР і асабліва з боку масавага аддзелу газэты „Зьвязда“, якой згодна пастановы ЦК КП(б)Б, было даручана ажыцьцяўленьне арганізацыйнага кіраўніцтва рабселькораўскім рухам у БССР.

Рэдакцыі цэнтральных і акруговых газэт павінны забясьпечыць досыць шырокае разгортваньне работы па палітычнаму выхаваньню мас рабселькораў, ажыцьцяўленьне цьвёрдага курсу на вырошчываньне рабселькораўскага активу і як мага большага ўцягненьня ў апараты рэдакцыі дзейных і лепшых рабкораў. Партыйныя і прафэсыянальныя арганізацыі павінны дапамагчы зрабіць у рабкораўскім руху круты перэлом у яго рабоце. Фармальны і бюракратычны падыход асобных працаўнікоў і асобных арганізацый да работы нізавога друку павінен расцэньвацца, як няўменьне і нежаданьне ісьці на сьмелае разгортваньне самакрытыкі ў працоўных масах, як грубейшае апартуністычнае скажэньне асноўных дырэктыў партыі.

У адпаведнасьці з пастановамі партыі нарада прызнае надзвычайна неабходным, каб партыйныя арганізацыі ўключалі пытаньні работы фабрычна-заводзкага друку і рабселькораўскага руху ў пляны сваёй штодзённай работы, прыцягваючы прафэсыйныя і гаспадарчыя арганізацыі да аказаньня непасрэднай дапамогі нізавому друку (забясьпечыць друкаваным газэтам сваячасовы выхад, прадастаўляць памяшканьні, работу членаў рэдкалегій—партыйцаў лічыць асноўнай партыйнай нагрузкай і г. д.).

8. Рэдкалегіі шматтыражак і насьценных газэт павінны асабліва вялікую ўвагу аддаць арганізацыі і добрай пастаноўцы масавай работы навакол нізавога фабрычна-заводзкага друку, прыцягваючы да ўдзелу ў ім самую шырокую масу, у прыватнасьці неабходна прыняць рашучыя, ініцыятыўныя захады па павялічэньні распаўсюджваньня кіруючых часопісаў рабселькораўскага руху: „Рабоче-крестьянский корреспондент“, практыкаваць канфэрэнцыі чытачоў шматтыражак і насьценгазэт і г. д.

9. Кожная фабрычна-заводзкая друкаваная і насьценная газэта павінна зьяўляцца штурхачом у справе практычнага ажыцьцяўленьня прасоўваньня беларускай мовы ў рабочую масу, у быт, як сродак, які ва ўмовах Беларусі замацоўвае сувязь рабочай клясы з асноўнымі масамі сялянства, замацоўвае кіруючую ролю рабочае клясы, яе дыктатуры. Фабрычна-заводзкія газэты павінны самі зьявіцца прыкладам ажыцьцяўленьня беларусізацыі, шляхам пераводу газэт поўнасьцю на беларускую мову, разам з гэтым вядучы барацьбу і за падвышэньне якасьці беларускай мовы, якой мы карыстаемся. На прадпрыемствах з значнай колькасьцю рабочых з нацыянальных меншасьцяў патрэбна ў газэце ўводзіць куткі і асобныя старонкі на адпаведнай мове.

10. Важнейшай задачай усяго рабселькораўскага руху зьяўляецца вярбоўка ў шэрагі рабселькораў рабочых і работніц ударніц, вопытных вытворцаў, арганізатараў і важакоў сацыялістычнага спаборніцтва.

11. У новых умовах сувязі гораду з вёскай, пры росьце вытворчых форм змычкі, шэфства фабрычных газэт над вясковымі насьценгазэтамі, набывае асабліва важнае палітычнае значэньне. Шэфства павінна быць накіравана, у першую чаргу, на пратварэньне вясковых насьценных газэт і селькораў у актыўных арганізатараў калгаснага руху, на пашырэньне сеткі газэт у калгасах і саўгасах і пратварэньне найбольш буйных з іх у шматтыражкі. Фабрычна-заводзкія газэты павінны ўзяць шэфства над насьценнымі газэтамі тых раёнаў, над якімі ўжо шэфствуюць рабочыя прадпрыемства, замацоўваючы яго шляхам выездаў у вёску, абмену газэтамі, перапіскай, заключэньнем узаемных умоў, дапамогі ў кабыцці ратататара, альбо шклографа і г. д.

12. Усебеларуская нарада зьвяртае ўвагу рэдкалегій шматтыражак і насьценных газэт на неабходнасьць узмацненьня міжнароднай рабкораўскай сувязі, скарыстоўваючы ўзаемную сувязь для замацаваньня міжнароднай салідарнасьці працоўных усяго сьвету і ўзьняцьця барацьбы за прамфінплян, за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, за ўзьняцьце барацьбы за перамогу сацыялістычнага будаўніцтва і пралетарскай рэвалюцыі ва ўсім сьвеце.

Адказны рэдактар: О. Конакоцін. А. Гаруновіч.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 г.

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКУЮ,
ГРАМАДЗКА-ПОЛІТЫЧНУЮ
ЧАСОПІСЬ

# „МАЛАДНЯК“

**8-мы ГОД ВЫДАНЬНЯ**

**Орган Беларускай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў**

**ПАТРАБУЙЦЕ**

ва ўсіх кнігарнях Белдзяржвыдавецтва, у коопэрацыйн. крамах Белкоопсаюзу, ва ўсіх газэтных кіёсках

**І ЧЫТАЙЦЕ**

**„МАЛАДНЯК“**

Цана асобн. нумару **40 кап.**

„МАЛАДНЯК“ зьяўляецца баявой часопісьсю ў барацьбе за пролетарскую літаратуру.

„МАЛАДНЯК“ на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожым праявамі ў літаратуры.

„МАЛАДНЯК“ у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, аповесьці, апавяданьні, поэмы, вершы, драматычныя творы).

„МАЛАДНЯК“ у 1930 годзе зьмяшчае шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік.

„МАЛАДНЯК“ будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны).

У „МАЛАДНЯКУ“ будзе давацца багаты аддзел бібліографіі і хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік.

**У ЧАСОПІСІ БЯРУЦЬ УДЗЕЛ ЛЕПШЫЯ СІЛЫ ПРОЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАРКСЫЦКАЙ КРЫТЫКІ**

## У 1930 ГОДЗЕ Ў СКЛАД СУПРАЦОЎНІКАЎ УВАХОДЗЯЦЬ:

Александровіч А., Аляхновіч М., Астапенка З., Аршанскі Б., Бандарына З., Барашка Іл., Баранаў С., Бобрык Я., Броўка П., Будзінскі С., Бузук П. проф., Бухаркін У., Бядуля З., Быкавец М. (Харкаў), Бэндэ Л., Вазёрны Я., Вансоўскі, Вечар А., Васілевіч Я., Васілеўскі Д., Вішнеўская Н., Галавач П., Гародня А., Гарэцкі М., Гаўрук Ю., Губарэвіч К., Гурло А., Гурскі І., Дунец, Друскоўскі, Дыла Я., Ефімаў Н. проф. (Смаленск), Жылуновіч З. (Ц. Гартны), Замбржыцкі С., Звонак Ал., Івашын Я., Ігнатоўскі Ў. проф., Каваль В., Канакоцін О., Карак Ул. (Харкаў), Касьпяровіч М., Каваленко Б. (Кіеў), Колас Я., Кулік І. (Харкаў), Купала Я., Кучар Ал., Ліманоўскі Я., Ліхадзіеўскі С., Лынькоў М., Лявонны Ю., Мазуркевіч Я., Маракоў В., Масэнко Т. (Харкаў), Мікітэнка І. (Харкаў), Мікуліч Б., Моркаўка А., Мурашка Р., Некрашэвіч Ал., Ніканові М., Нёманскі Я., Плаўнік І., Пракунас А. Бр. (Масква), Прыбыткоўскі Ў., Пфляўмбаум Е., Салагуб А., Селівановскі А. (Масква), Скрыган (Відук Я.), Сутырын В. (Масква), Сташэўскі В., Сянькевіч А., Сякерская Я., Таўбін Ю., Трасцкі А., Туміловіч Я., Усэнка П. (Харкаў), Фамін С., Хадыка Ул., Хадкевіч Т., Харык І., Хведаровіч М., Хурсік С., Чарот М., Чарвякоў Ал., Шушкевіч С., Шчакаціхін М. ды інш.

**Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і завода, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—павінны выпісаць час. „МАЛАДНЯК“.**

**Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, выпісвайце і чытайце час. „МАЛАДНЯК“.**

**У 1930 годзе часопісь будзе выходзіць рэгулярна кожны месяц на 10 аркушах.**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| на год | на 6 м. | на 3 м. | на 1 м. |
|---|---|---|---|
| 3 руб. | 1 р. 60 к. | 90 кап. | 30 кап. |

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Белдзяржвыдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважан. Выд. „Чырвоная Зьмена“

Падпіску можна пасылаць у Выд-ва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: Менск, Комсамольская, 25, альбо непасрэдна на адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68, „Дом Пісьменьніка“, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. № 877.

**ЦАНА 80 кап.**

РАСПАЧАТА ПАДПІСКА на 1930 ГОД

ВЫ УЖО СПАЗЬНІЛІСЯ ПАДПІСАЦЦА НА ПЭДАГОГІЧНУЮ ЧАСОПІСЬ **„АСЬВЕТА“**

**ЗАМЕСТ „АСЬВЕТЫ“**
**БУДЗЕ ВЫДАВАЦЦА**
**МАСАВАЯ ПОЛІТЫЧНА-АСЬВЕТНАЯ**
**І ПЭДАГОГІЧНАЯ ЧАСОПІСЬ**

# „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“

Часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“ вядзе ваяўнічую барацьбу за комуністычнае выхаваньне працоўных мас, жыва адклікаецца на ўсе палітычныя, пэдолёга-пэдагогічныя, політасьветныя проблемы дня.

Часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“ зьявіцца лепшым памочнікам у рабоце настаўніка, політасьветніка, дашкольніцы.

Часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“ будзе выходзіць пры ўдзеле лепшых марксыцкіх сіл як Беларусі, так і інш. Саюзных Рэспублік.

Часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“ уводзіць вялікі аддзел „Работа на мясцох“, у якім прымаюць удзел усе настаўнікі і політасьветныя працаўнікі.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ на 1930 год**

| НА 1 ГОД (12 нумароў) | | НА 6 МЕС. (6 нумароў) | | НА 3 МЕС. (3 нумары) | | АСОБНЫ НУМАР КАШТУЕ 80 к. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 р. | — | 4 р. | 50 к. | 2 р. | 30 к. | |

**СКІДКА 25%** подлуг агалошанай цаны даецца настаўнікам школ, хатнікам і інш., якія выпісваюць часопісь за свой кошт на цэлы год. Раённым установам (Райінспэкцыя, мясцком) скідка 25% у тым выпадку, калі яны падпішуцца ня менш, як на 50 экзэмпляраў на цэлы год.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:**

рэдакцыяй: Менск, Пляц Волі, 23/2, а таксама поштай і аддзяленьнямі БДВ

Усе, хто падпісаўся на часопісь „АСЬВЕТА“ НА 1930 г. будуць атрымліваць без асобнай даплаты — часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“.

**СЬПЯШАЙЦЕСЯ З ПАДПІСКАЙ НА ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“**

ОРГАН ЦККП(б)Б

Цана 15 кап.

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

**АБАГУЛЬВАЕ** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйным будаўніцтве і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**ВЫВУЧАЕ** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтады і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**ДАЕ** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыстага матар'ялы—факты, лічбы па пытаньнях бягучай працы.

**ДАПАМАГАЕ** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сакратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўнікам парт. асьветы, групоргам, цэхоргам, зьвеноргам і інш.

**АСЬВЯТЛЯЕ** чарговыя пытаньні камсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**СТАВІЦЬ** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі.

**РЭГУЛЯРНА** зьмяшчае крытыку і бібліяграфію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**ЗЬМЯШЧАЕ** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях.

**Кожная гарадзкая і вясковая партыйная і камсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандысты, цэхавы, групавы і зьвенавы арганізатар, кожны партыйны актывісты— павінен падпісацца на часопісь**

**„ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“.**